

*Франсіско дэ Сурбаран. Дзяцінства Мадонны.*
*Каля 1660 г. Палатно, алей. 73,5х53,5 см.*
*Санкт-Пецярбург, Эрмітаж.*



Вацлаў Бурыла

* * *

Заблуканыя паміж народзінамі і смерцю
паміж усходам і захадам сонца
паміж першым каханнем і чарговым
расчараваннем
паміж юначаю вераю ў немажлівае
і заўсёдным старэчым сумневам
паміж празрыстаю радасцю
і каменным цярпеннем
паміж стомаю дня і няпэўнасцю ночы
паміж любоўю і нянавісцю
паміж безабароннаю праўдаю
і дэманічнай маною
спрабуем знайсці малую іскрынку веры
якая дазволіць ісці наперад

*Пераклад з польскай мовы Крыстыны Лялько.*



У нумары 4/2010

НАША ВЕРА



Франсіско дэ Сурбаран.
Дзяцінства Мадонны (фрагмент).
Каля 1660 г. Палатно, алей. 73,5х53,5 см.
Санкт-Пецярбург, Эрмітаж.

# Франсіско дэ Сурбаран. Дзяцінства Мадонны

Сучаснікі называлі Сурбарана (1598–1664) «іспанскім Караваджо» за драматызм ягоных палотнаў і любоў да кантрастаў святлаценю. Вялікі італьянец сапраўды быў узорам для многіх еўрапейскіх жывапісцаў XVII стагоддзя. Але Сурбаран стварыў сваю, менавіта іспанскую рэдакцыю жывапісу барока. Да таго ж ён праявіў сябе як вельмі рознабаковы мастак. Венгерскі даследчык Андраш Сэкэль адзначае: «Сурбаран працаваў вельмі шмат, і многія ягоныя карціны вызначаюцца тэатральнасцю і выразным сентыменталізмам». І дадае, што «яму не была чужой і схільнасць да інтымнасці»[1]. Эрмітажнае палатно, якое мы разглядаем, якраз і выяўляе менавіта гэтую грань таленту вялікага мастака.

Франсіско дэ Сурбаран нарадзіўся ў горадзе Фуэнтэ дэ Кантос (рэгіён Эстрэмадура) у сям'і негацыянта. Навучанне жывапісу распачаў у родным горадзе ў майстэрні мастака Хуана дэ Роэласа, а потым вучыўся ў Севільі ў Пэдро Дзіаса дэ Вільянуова. Некалькі гадоў мастак жыў з сям'ёй у горадзе Льерэна, але потым да канца сваіх дзён працаваў у Севільі — найбуйнейшым цэнтры іспанскай культуры, зрэдку выязджаючы ў Мадрыд. У 1622 годзе, у свае 24 гады, ён быў ужо шырока вядомым жывапісцам. Кляштары і саборы замаўлялі яму манументальныя палотны, у якіх напоўніцу раскрыўся талент майстра. У 1634 годзе ён упершыню прыязджае ў Мадрыд. Там ягоны стыль змяняецца пад уплывам сустрэчаў з Дзіега Веласкесам і назіранняў за творчасцю італьянскіх жывапісцаў Анджэло Нардзі і Гвідо Рэні, якія працавалі па запрашэнні мадрыдскага каралеўскага двара. Сурбаран пазбаўляецца ад строгага наследавання жывапісных прыёмаў, уласцівых караваджызму, ад таго, што вызначала папярэднія ягоныя творы. Двор надзяляе ягоны талент тытулам «Pintor del Rey» («Жывапісец Караля»). Выкананыя на замову заакеанскіх кляштараў творы Сурбарана накіроўваюцца на караблях у Перу і Аргенціну. Мастак можа дазволіць сабе вялікую майстэрню і працу з шматлікімі вучнямі. Усё жыццё мастака прайшло ў нястомнай працы для кляштараў і сабораў. Франсіско дэ Сурбаран памёр у Мадрыдзе ў 66-гадовым узросце.

Карціна «Дзяцінства Мадонны» належыць да позняга перыяду творчасці майстра. Нават не верыцца, што гэтае невялічкае палатно створана вядучым іспанскім мастаком-манументалістам, майстрам алтарных карцінаў, твораў вялікіх памераў, буйнамаштабных кампазіцый і яркіх колеравых кантрастаў. Карціна камерная не толькі па сваіх сціплых памерах. Напрыканцы жыцця Сурбаран навучыўся цаніць ціхую мелодыку фарбаў, лірычны матыў, адкрыў для сябе новы свет пачуццяў, адрозны ад суровых і аскетычных вобразаў святых і манахаў у папярэдніх яго творах.

Кананічныя Евангеллі не даюць звестак пра ранні перыяд жыцця Марыі. Найбольш інфармацыі пра дзяцінства Мадонны многія пакаленні людзей знаходзілі ў апакрыфічным Протаевангеллі Якуба (напісаным, на думку даследчыкаў, каля 150 г.). У гэтым тэксце апавядаецца, што бацькі выхоўвалі дзіця ў набожнасці і чысціні, а ў трохгадовым узросце аддалі дачку на выхаванне ў Храм. Менавіта сюжэт Увядзення Марыі ў Храм, калі бацькі перадаюць дзіця ў рукі першасвятара, быў найбольш папулярным у творчасці мастакоў, якія звярталіся да тэмы дзяцінства Мадонны. Але гэты сюжэт застаўся даволі рэдкім ва ўсёй гісторыі мастацтва. Пэўнае ажыўленне цікавасці да яго мы назіраем ў эпоху Адраджэння, аднак гэта заўсёды шматфігурная ўрачыс-

тая сцэна з галоўнымі героямі і народам, які вітае падзею.

Сурбаран абірае зусім іншае вобразнае рашэнне. Ён адмаўляецца ад амаль кананічнай сцэны Увядзення ў Храм і стварае класічны дзіцячы партрэт. Атрымалася сапраўды наватарская праца нават у рамках творчасці самога майстра. Трэба адзначыць, што партрэт менавіта дзіцяці (а не выява яго побач з дарослым альбо ў якасці «дэталі» сюжэтнай карціны) — даволі рэдкая з'ява нават у рэнесансавым мастацтве з усёй яго ўвагай да чалавека. Хлопчыкаў і дзяўчынак часцей за ўсё партрэтавалі як дарослых асобаў, у статычных позах, у строях, якія насілі дарослыя, з усімі аксесуарамі параднага партрэта. Выяўленне асаблівасцяў дзіцячай псіхікі і дзіцячых паводзінаў не цікавіла партрэтыстаў (ці, хутчэй за ўсё, не цікавіла бацькоў, якія замаўлялі мастаку партрэт сваёй малечы). У такім вобразна-фармальным ключы Сурбаран выканаў, напрыклад, «Партрэт дзяўчынкі» (прыватны збор у Швейцарыі). Але ягоны сучаснік Бартоломэ Эстэбан Мурыльё першым з іспанскіх майстроў упэўнена разбурыў гэты стэрэатып, аб чым сведчыць, напрыклад, палатно «Хлопчык з сабакам» (1650–1660), якое вісіць у той жа эрмітажнай зале, што і «Дзяцінства Мадонны». У апошні перыяд творчасці Сурбаран перажыў захапленне мастакоўскай манерай Мурыльё, і, безумоўна, вобразы дзяцей у ягоных карцінах вельмі паўплывалі на старэйшага на 20 гадоў Сурбарана.

«Дзяцінства Мадонны» — чароўны твор аб чыстай і светлай душы маленькай істоты, якая толькі пачынае свядомае жыццё. Можна сказаць, што твор Сурбарана — адзін з найпрыгажэйшых у гісторыі мастацтва жывапісных апавяданняў аб дзяцінстве. Мяркуем, што карціна павінна была паслужыць дыдактычным прыкладам для тагачасных дзяцей, свайго роду эталонам. А намаляваны гэты партрэт быў з канкрэтнага, добра знаёмага мастаку вобразу дзіцяці (уласныя дзеці Сурбарана былі ўжо дарослымі), якое выклікала бязмежную сімпатыю аўтара. Гэтая сімпатыя перадаецца і нам праз стагоддзі, паводле законаў высокага мастацтва.

Крохкая фігурка дзяўчынкі запаўняе сабой амаль усю прастору невялікага палатна. Юная Мадонна сядзіць у дзіцячым крэсле. Яна займалася вышываннем, але пакінула гэты занятак і моліцца, склаўшы далоні і ўзняўшы ў неба галоўку. Протаевангеліст Якуб пісаў, што святары ў Храме адчувалі далучанасць незвычайнага дзіцяці да Бога, а ежу ёй прыносіў Анёл. На каленях у Мадонны — падушачка і тканіна для вышывання, на якіх ляжаць яе маленькія ручкі. Мастак з замілаваннем малюе тварык дзяцяці, засяроджаны ў шчырай малітве, вочы, звернутыя да Бога, вусны. Тварык выдзелены актыўным святлом на нейтральным, моцна зацененым фоне. Чорныя валасы кароткай фрызуры яшчэ больш падкрэсліваюць гэты самы важны кампазіцыйны і вобразны акцэнт. Малюючы рукі Мадонны, мастак, наадварот, заключае іх у адну колеравую масу з чыстаю беллю тканіны. Далоні дзяўчынкі знаходзяцца роўна на перасячэнні дыяганаляў палатна, у самым цэнтры карціны, а яе фігурка ўпісваецца ў адну з гэтых дыяганаляў. Усё гэта надае кампазіцыі трывалую ўраўнаважанасць і напаўняе карціну спакоем.

Колеравая гармонія працягвае гэты ідэальны лад. Колеры гучаць толькі на першым плане, у фігуры Мадонны. Прыглушаная чырвань доўгай сукенкі кантрастуе з яркаю беллю тканіны і супакойваецца суладдзем з зялёнаю фарбаю падушачкі і цёмнаю масаю невялічкай накідкі, якая часткова прыкрывае фігурку. Дробны арнамент тонкага каўнерыка на шыі дзяўчынкі яшчэ больш падкрэслівае жывапісную пластыку ў трактоўцы чырвонай сукенкі — ад дробных складак на рукаве і ў ніжняй частцы карціны, дзе сукенка збіраецца ў вялікія складкі. Пэўную дынаміку стварае ў цэнтры палатна выява скамечанай тканіны, па-майстэрску намаляваная мастаком. Адчуваецца ягоная ўвага да неадушаўлёнай рэчы, якую напоўніцу мы ўбачым у ягоных нацюрмортных работах (Сурбаран быў першым іспанскім мастаком, які пачаў ствараць гэты жанр жывапісу).

Разам з фарбамі святло стала паслухмяным матэрыялам пад пэндзлем майстра. Іспанскі мастацтвазнаўца Карлос Арэана пісаў, што «Сурбарану ўдалося пераадолець прамежкавы стан адвольнага святла і дасягнуць стану святла-формы. Пры гэтым ён пайшоў шляхам, які адрозніваў яго ад Веласкеса і Рэмбрандта»[2]. Лёгкі подых святла, якое раствараецца ў прыцемках фону, набывае асаблівую сілу ў выяве фігуры Мадонны. Святло, далікатнае і цёплае, нібыта само выпраменьваецца з фарбаў палатна. І гэта не проста прыём майстра фармальных эфектаў. Для каталіцкага мастака важней за эфекты — святло Божай ласкі, якое песціць і выхоўвае маленькую Марыю...

*Валеры Буйвал*

[1] Szekely A. Spanyol feszteszet.— Budapest, 1972. — С. 33.

[2] Arean C. La pintura española de Altamira al siglo XX. — Madrid, 1971. — С. 210.

**Валеры Буйвал** — мастацтвазнаўца, перакладчык. Нарадзіўся ў 1955 г. Закончыў Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў Санкт-Пецярбурзе (1977). Даследуе беларускае і заходнееўрапейскае мастацтва. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы М. дэ Сервантэса, Г. Г. Маркеса, Ж. Амаду, Б. Б'ёрнсана, А. Стрындбэрга, Дж. Вэргі, К. Чапэка і інш.

Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч

# Новая евангелізацыя — галоўнае заданне Касцёла ў сучасным свеце*

<...>

Сучасны свет вызначаецца вялікімі і значнымі пераменамі, якія вельмі моцна ўплываюць на рэлігійнае жыццё чалавека. Мы павінны гэта прызнаць, нягледзячы на тое, падабаецца гэта нам ці не. Для людзей, якія жывуць у эпоху паўсюднай глабалізацыі, рэлігійная і светапоглядная «дыверсіфікацыя» стала штодзённым хлебам. І сапраўды, побач жывуць і працуюць прадстаўнікі розных канфесій і рэлігій, а таксама атэісты, няверуючыя, індыферэнтныя асобы, варажбіты і язычнікі. Яшчэ зусім нядаўна ці маглі мы сабе ўявіць, што непадалёку ад Ватыкана будзе пабудаваная мячэць (не кажучы ўжо пра даўно існуючую сінагогу), або праваслаўная царква, што была пабудаваная не так даўно.

Рэлігійны плюралізм — гэта рэальнасць сучаснага жыцця, і з ёю трэба лічыцца. Калі мы гэтага не зробім, то цягнік жыцця адыдзе і мы застанемся на пустой платформе. Ён адыдзе без нас, а ў ім застануцца людзі, якія не дачакаюцца нашай духоўнай дапамогі.

Заходняя Еўропа, якая вырасла і сфармавалася з хрысціянства, на жаль, ужо не з'яўляецца такой, і нездарма яе ўсё часцей і часцей называюць постхрысціянскай. Так, сацыялагічныя даследаванні Інстытута Гэллапа (ЗША) у 2009 г. аб тым, ці адыгрывае рэлігія важную ролю ў штодзённым жыцці чалавека, паказалі, што Беларусь знаходзіцца на 7-м месцы сярод найменш рэлігійных народаў Еўропы. Першая дзесятка найменш рэлігійных народаў старога кантыненту выглядае наступным чынам: Эстонія — 14 %, Швецыя — 17 %, Данія — 18 %, Нарвегія — 20 %, Чэхія — 21 %, Францыя — 25 %, Беларусь — 27 %, Брытанія і Фінляндыя — 29 %, Расія — 30 %. Найбольш рэлігійнымі з'яўляюцца Румынія — 78 %, Польшча, Італія і Партугалія — па 72 %[1].

Пад пазначаным вежамі касцёлаў і хмарачосамі небасхілам Еўропы ўсё больш і больш мінарэтаў. І гэта трэба прыняць еўрапейцам, таксама як амерыканцам трэба прыняць тое, што сучасным гаспадаром Белага Дома ў Вашынгтоне з'яўляецца афраамерыканец.

Гучанне званоў у вялікіх еўрапейскіх гарадах усё больш і больш заглушаюць збудаваныя са шкла і бетону шматпавярховыя дамы, у якіх дзейнічаюць сусветныя карпарацыі, працуюць людзі розных моваў, нацыянальнасцяў і веравызнанняў. Сярод іх ёсць веруючыя і няверуючыя, тыя, якія належным чынам святкуюць нядзелю, і тыя, якія праводзяць яе ў гіпермаркетах, на футбольных матчах, рыбалцы і г.д. У такой мазаіцы сучаснага жыцця ўсё цяжэй знайсці духоўную сталасць, якой нам усім так не хапае, каб мы маглі зразумець сэнс і мэту свайго жыцця. Свет змяняецца на нашых вачах, з'яўляюцца новыя выклікі, на якія трэба адказваць.

Гэтыя вельмі дынамічныя змены сучаснасці заклікаюць Касцёл і вучняў Хрыста не заставацца пасіўнымі перад іх абліччам. На гэта звярнуў увагу ўжо Другі Ватыканскі Сабор у 60-я гады мінулага стагоддзя. Ён заклікаў чытаць знакі часу, каб адказваць на іх. Паглыбляючы сваю самасвядомасць і развіваючы дыялог са светам, Сабор спрабаваў даць адказ на фундаментальнае пытанне: Касцёл, што ты думаеш сам пра сябе?

Ужо тады стала зразумела, што свет патрабуе новай евангелізацыі, аб якой так многа навучаў і да якой заклікаў Слуга Божы Ян Павел II. Гэтую ідэю Вялікага Папы не толькі падтрымлівае сённяшні Пантыфік Бэнэдыкт XVI, але і стараецца як мага паўней рэалізаваць яе. Аб гэтым найлепш сведчыць заснаванне ў 2010 годзе Папскай рады па справах новай евангелізацыі[2]. Усё гэта пацвярджае тое, што заклік папы Вайтылы «Адчыніце дзверы Хрысту»[3], які напачатку здаваўся ўтапічным, сёння стаў вядучай думкай сучаснага пастырства.

Перад сваім Унебаўшэсцем Езус сказаў апосталам: «Ідзіце і навучайце ўсе народы» (Мц 28, 19). Езус збавіў не толькі выбраны народ, але ўвесь свет, і таму збаўленне павінна ахапіць усё чалавецтва. Бог «хоча, каб усе людзі былі збаўлены і дайшлі да пазнання праўды» (1 Цім 2, 4).

Выконваючы заклік Збаўцы, апосталы пачалі абвяшчаць Добрую Навіну ўсім народам — евангелізаваць людзей. Слова *евангелізаваць* па-

* Даклад з нагоды распачацця новага 2010/2011 навучальнага года на святкаванні 20-годдзя заснавання Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне *(5 кастрычніка 2010 г.)*.

ходзіць з грэчаскай мовы (euan-gelion) і выкарыстоўваецца для азначэння дзейнасці, скіраванай на навяртанне народаў і асобных людзей.

Евангелізацыя з'яўляецца самай галоўнай місіяй Касцёла і найперш скіраваная на апостальства сярод язычнікаў. З Дзеяў Апосталаў бачна, што сэнс Добрай Навіны — гэта сам Хрыстус, наш Пан (пар. Дз 11, 19–20). Слова *Пан* на грэчаскай мове гучыць як *Kyrios*. У элііністычнай культуры Рымскай імперыі прызнаць кагосьці сваім Панам азначала прызнаць чыюсьці ўладу над сабой, прызнаць яго сваім Богам і Валадаром.

Евангелізацыя — гэта перш за ўсё не маральнае навучанне, чым павінна займацца катэхізацыя, але абвяшчэнне Хрыста. Яна прызначаецца для няверуючых і для тых веруючых, якія не перажываюць асабістых адносінаў з Богам, або вера якіх настолькі страціла вартасць, што яны, хоць і называюць сябе хрысціянамі, аднак жывуць так, як быццам Бога зусім няма. Таму такое абвяшчэнне Евангелля называецца новай евангелізацыяй ці нават рэевангелізацыяй.

Перажываючы сваё адраджэнне пасля многіх дзесяцігоддзяў ганенняў, Каталіцкі Касцёл у Беларусі таксама падвержаны негатыўным уплывам секулярызму і гуманістычнага лібералізму і таму павінен адказваць на ўзнікаючыя праблемы. Падчас ганенняў на Касцёл, дзякуючы традыцыйнай народнай пабожнасці, людзі захавалі веру і перадалі яе новым пакаленням. У наш час свабоды веравызнання людзі самі адракаюцца ад веры ў Бога. У касцёле і на ўроках рэлігіі яны пазнаюць праўды веры, але на вуліцы сустракаюць іншы, секулярны свет, які іх вабіць больш за праўду Евангелля. Гэта новыя і вельмі сур'ёзныя выклікі нашага часу. На іх трэба адказваць. Для гэтага праз прызму Евангелля і навучання Касцёла трэба аналізаваць існуючыя праблемы, каб знайсці лек ад духоўнай немачы сучаснага свету і жыць паводле вечных і нязменных праўдаў хрысціянскай веры.

Галоўная мэта новай евангелізацыі — гэта адраджэнне веры і хрысціянскага сведчання. Сучаснаму свету, які страціў надзею і знаходзіцца ў фінансавым і маральным крызісе, сёння трэба абвяшчаць праўду аб Езусе Хрысце і Яго Евангеллі, праўду пра значэнне гісторыі збаўлення, якая рэалізавалася ў Езусе Хрысце, і праўду пра тое, што толькі ў Хрысце чалавек можа зразумець сябе і сваё прызначэнне. Каб свет ізноў пульсаваў духоўным жыццём, трэба не толькі хрысціць, але і навяртаць ахрышчаных.

Адна з галоўных мэтаў новай евангелізацыі — гэта абвяшчаць і бараніць хрысціянскія каштоўнасці. Гэтая праблема становіцца ўсё больш і больш актуальнай, і будучыня чалавецтва будзе залежаць ад таго, якія каштоўнасці будуць прызнаны галоўнымі. У сучаснай барацьбе за каштоўнасці з розных бакоў адной і той жа барыкады знаходзяцца людзі, якія жывуць як рэлігійнымі ідэямі, так і ідэямі секулярнага гуманізму. Асновай ідэалогіі сучаснай глабалізацыі з'яўляецца гуманістычнае ўяўленне пра абсалютнае значэнне самога чалавека і пра існаванне ўніверсальных агульначалавечых каштоўнасцяў, якія павінны быць адзіным падмуркам цывілізацыі. Тут трэба мець на ўвазе тое, што пад агульначалавечымі каштоўнасцямі разумеюцца не толькі рэлігійныя нормы, якія з'яўляюцца абавязкам кожнага, такія як «не забівай», «не крадзі», «не гавары няпраўду» і г.д., але і спрэчныя з духам Евангелля ідэі.

Адна з іх сцвярджае, што кожны чалавек мае права на абсалютную свабоду і свой жыццёвы стыль пры ўмове, калі толькі не перашкаджае іншаму. Паводле прынцыпаў ліберальнага гуманізму, існуе толькі адно і адзінае абмежаванне чалавечай свабоды: свабода іншых людзей. Гэта азначае, што маральным з'яўляецца тое, што не перашкаджае інтарэсам іншых, амаральным жа тое, што абмяжоўвае іх свабоду. Паводле прынцыпаў сучаснай гуманістычнай этыкі, не існуе паняцця абсалютных этычных нормаў.

Аднак мы добра ведаем, што, паводле аб'яўленай рэлігіі, існуе паняцце абсалютных, Богам устаноўленых маральных нормаў, непаслухмянасць якім і з'яўляецца грахом. Таму для рэлігійнага чалавека далёка не ўсё, што не звязана з інтарэсамі іншага, з маральнага пункту гледжання дазволена. Для веруючага чалавека сапраўднай свабодай з'яўляецца не дазвол чыніць усё, што хочацца, а свабода ад граху. І калі чалавек жыве паводле прынцыпу ўседазволенасці, то на самай справе ён не свабодны, а залежны ад зла, якое чыніць, — жыве амаральна, трапляе ў алкагольную ці наркатычную залежнасць і г.д.

На жаль, у сучасным свеце рэлігія вельмі часта разумеецца як перашкода для трыумфу дэмакратычнага лібералізму. Свет усё больш схільны да прыняцця духоўнага і маральнага рэлятывізму. Лібералізм стараецца паменшыць значэнне рэлігіі і абмежаваць яе прыватнай сферай жыцця чалавека. Нярэдка нават можна пачуць, што рэлігія больш раздзяляе, чым аб'ядноўвае, бо сучасны свет прапануе вельмі многа альтэрнатываў.

З іншага боку, рэальнае жыццё сведчыць, што для мільёнаў людзей вера — гэта свядомы выбар, які паказвае іх пазіцыю. І для іх важна быць веруючымі. Многія з іх, як пацвярджае XX стагоддзе, аддалі сваё жыццё за веру. Іх прыклад, як і адраджэнне веры і яе сведчанне перад аблічам сучасных выклікаў, кажа аб тым, што рэлігія ў гісторыі чалавецтва не выкараніла сябе і можа, як калісьці, надалей натхняць людзей.

Усё гэта нагадвае пра тое, што ідэалогія секулярызму не можа замяніць рэлігійнага светапогляду. Таму сістэма рэлігійных каштоўнасцяў мае права існаваць нароўні з ліберальна-гуманістычнай.

Аднак пры ўсім гэтым існуе і іншая праблема. Ліберальна-гуманістычная ідэалогія, якая прадстаўляецца ўніверсальнай і настойліва навязвае

сябе сучаснаму чалавеку, на самай справе адыгрывае ролю лібералістычна-гуманістычнай дыктатуры, якая з'яўляецца сур'ёзным выклікам таксама і для веруючага чалавека.

Можа быць некалькі варыянтаў адказу на выклікі ліберальнага секулярызму. Радыкальны адказ даюць некаторыя экстрэмісцкія напрамкі ісламу, якія абвяшчаюць заходняй «постхрысціянскай» цывілізацыі з яе агульначалавечымі каштоўнасцямі джыхад. Прыкладам могуць служыць тэрарыстычныя акты супраць Злучаных Штатаў Амерыкі 11 верасня 2001 года.

Іншым варыянтам можа быць спроба «прыладзіць» рэлігію да сучасных выклікаў. Іншымі словамі, выкарыстанне папулярнай у наш час ідэі паліткарэктнасці ў справах маралі. Такі шлях выбралі многія пратэстанцкія супольнасці на Захадзе, уводзячы ліберальныя стандарты ў сваё навучанне і рэлігійную практыку, што вядзе да дагматычнага і маральнага разбурэння падмурку хрысціянства.

Ёсць нямала прыхільнікаў дыялогу, мэта якога — знайсці раўнавагу паміж жыццём паводле маральных і адначасова ліберальна-дэмакратычных прынцыпаў. Характэрным элементам сучаснага свету з'яўляецца пошук дыялогу і яго развіццё. Аднак хрысціянін пры гэтым павінен памятаць словы Хрыста: будзьце гарачымі або халоднымі (пар. Ап 3, 15). Няхай вашыя словы будуць «так-так» або «не-не» (пар. Мц 5, 37). Гэта не што іншае, як заклік да евангельскага радыкалізму, які разам з дыялогам павінен легчы ў аснову новай евангелізацыі.

Сучасны свет адчувае патрэбу такога дыялогу, а не канфлікту паміж рэлігійным і гуманістычным светапоглядамі. Аднак гэты дыялог не павінен ператварыцца ў пошук кампрамісу коштам лібералізацыі ў справах навучання і маралі. Традыцыйнае хрысціянства не мае нічога супраць гуманізму, але яно супраць яго ліберальнай і атэістычнай версіі. Як супрацьстаянне такому гуманізму Касцёл прапануе рэлігійны гуманізм, які абапіраецца на духоўныя каштоўнасці. Гаворка ідзе пра такі гуманізм, які мог бы стварыць новы сацыяльны, эканамічны і палітычны парадак, што падтрымліваў бы годнасць і свабоду чалавека.

Яшчэ ў 1946 г. добра вядомы рускі філосаф Мікалай Бярдзяеў пісаў, што гуманізм і годнасць чалавека могуць адрадзіцца толькі з рэлігіі[4]. У гэтых словах заключанае паняцце хрысціянскага гуманізму, бо дзеля свабоды нельга дыскрэдытаваць рэлігійныя каштоўнасці.

Сучасны секулярызаваны свет патрабуе сапраўднага хрысціянскага гуманізму, ідэі якога вынікаюць з заўсёды жывога і дзейснага Божага слова, чаму і павінна спрыяць новая евангелізацыя.

Развагі пра новую евангелізацыю нараджаюць новыя пытанні. У чым яе сутнасць? Гэта нейкае новае Евангелле? А калі новае, то хто яго абвясціў?

На гэтыя і падобныя пытанні трэба адказаць, што новая евангелізацыя з'яўляецца абвяшчэннем таго самага Евангелля, якое пакінуў нам Езус Хрыстус. Аднак па сваёй сутнасці яна з'яўляецца новай у сваёй руплівасці, каб хрысціянства стала больш дынамічным і прыцягвала новых людзей, а таксама каб ажыўляла хрысціянскае сведчанне. Новая евангелізацыя таксама з'яўляецца новай у галіне пошуку і прымянення новых метадаў і спосабаў абвяшчэння Евангелля сучаснаму секулярызаванаму чалавеку. І тут трэба імкнуцца аб'яднаць *vetera et nova* — старое і новае. Сярод метадаў і спосабаў павінна быць не толькі традыцыйнае абвяшчэнне Евангелля з амбоны ці яго навучанне, але таксама сродкі масавай камунікацыі, кіно, тэатр, мастацтва і г.д. Святы Айцец Бэнэдыкт XVI кажа, што мэтай новай евангелізацыі з'яўляецца прабуджэнне новай, свядомай і адказнай веры. Новая евангелізацыя не павінна быць абвяшчэннем толькі тэалагічных формаў, але асобы Езуса Хрыста, укрыжаванага, уваскрослага, які жыве ў сваім Касцёле; Езуса, у якога праз хрост уключылася многа людзей, якія, аднак, аб Ім забыліся і жывуць так, як быццам Бог у вобразе чалавека не прыйшоў у свет і Яго зусім няма[5].

Новая евангелізацыя з'яўляецца новай і праз удзел у ёй не толькі духоўных асобаў, але таксама свецкіх і членаў розных касцёльных рухаў. Усё гэта пацвярджае тое, што новая евангелізацыя — гэта абвяшчэнне таго самага Евангелля, прадстаўленага нанава і акцэптаванага да сучаснай сітуацыі чалавека.

Пры ажыццяўленні праграмы новай евангелізацыі перш за ўсё неабходна звяртаць увагу на знакі часу і іх сувязь з навучаннем і дзейнасцю Касцёла, а таксама на выпрацоўку формаў самой евангелізацыі. Заданнем Касцёла з'яўляецца евангелізацыя, абвяшчэнне слова Божага і навучанне праўдам веры, — нагадвае папа Павел VI у Апостальскай адгартацыі «Evangelii nuntiandi» — «Абвяшчаючы Евангелле»[6].

Навучанне Касцёла ў справах веры і этыкі ў сучасным секулярызаваным свеце выклікае многа эмоцый і далёка не заўсёды прымаецца. Гэта сапраўдны «знак супраціву» (пар. Лк 2, 34). Праўдам веры і маральнасці цяжка знайсці месца ў свядомасці сучаснага постмадэрнісцкага чалавека, які імкнецца жыць паводле ідэалаў гуманістычнага лібералізму. Нягледзячы на гэта, пастырская праграма Касцёла не павінна адхіляцца ад заданняў, якія выводзяцца з яго сутнасці.

Другі Ватыканскі Сабор навучае, што Касцёл з'яўляецца «паўсюдным сакрамэнтам збаўлення»[7]. Перад ім узнікаюць новыя небяспекі і пагрозы з боку свету. Гэта тыя выклікі, на якія павінна адказаць новая евангелізацыя. Не трэба далёка хадзіць па прыклады. Страсбургскі суд па правах чалавека забараніў выяву крыжа ў школах Італіі[8]. Як можна ўявіць каталіцкую Італію,

якая вырасла з хрысціянства, без крыжа? Парламенты многіх краінаў Еўрасаюза прынялі законы, якія дазваляюць гомасексуальныя саюзы з правам усынаўлення дзяцей. Усё больш краінаў свету дазваляюць эўтаназію. У Лос-Анджэлесе ў Злучаных Штатах Амерыкі створана вэб-старонка «Beautiful People», якая вядзе пошук донараў для штучнага апладнення з мэтай нараджэння толькі прыгожых дзяцей[9], што на самай справе з'яўляецца дыскрымінацыяй годнасці чалавечай асобы. Гэтыя і іншыя прыклады схіляюць нас да пытання: а куды ж мы ідзём? Якая ў нас будучыня? Што нас чакае? У такой новай і адначасова складанай сітуацыі ўжо недастаткова толькі евангелізацыйнай дзейнасці святароў і кансэкраваных асобаў. Тут патрэбна актыўная дапамога свецкіх вернікаў, для якіх новая евангелізацыя стварае новыя эфектыўныя спосабы дзейнасці, асабліва ў галіне хрысціянскага сведчання.

Як паказвае пастырская практыка, аўтаевангелізацыя вернікаў і іх актыўны ўдзел у жыцці і дзейнасці Касцёла вельмі добра спрыяюць справе евангелізацыі і праз гэта — спатканню людзей з Хрыстом. Нездарма Другі Ватыканскі Сабор навучае, што свецкія вернікі «павінны весці найкаштоўнейшую дзейнасць дзеля евангелізацыі свету»[10]. Новая евангелізацыя з актыўным удзелам свецкіх з'яўляецца новай формай пастырства. Яго галоўныя мэты наступныя: рэалізацыя Божага Валадарства і збаўленне чалавека[11], абвяшчэнне слова Божага праз сведчанне, катэхізацыю, прапаведаванне, мас-медыя, дыялог[12], сакрамэнтальна-літургічнае служэнне[13], касцёльна-арганізацыйная, дабрачынная, грамадская, выхаваўчая, культурная і інш. дзейнасць[14].

Хрысціянскае сведчанне свецкіх, абарона чалавечай годнасці і найкаштоўнейшага Божага дару жыцця і рэлігійнай свабоды, а таксама развіццё хрысціянскай культуры спрыяе росквіту веры.

Новай евангелізацыі патрабуюць новы сучасны чалавек, новы сучасны свет і новыя сучасныя выклікі. Таму паралельна з агульным пастырствам павінна развівацца і спецыялізаванае. Яно павінна прымаць пад увагу розніцу паміж рэлігійным станам людзей. Гэта, у сваю чаргу, патрабуе дакладнага распазнання сітуацыі, у якой яны жывуць і дзейнічаюць, чаму можа спрыяць дакладны сацыялагічны, псіхасацыялагічны і псіхалагічны аналіз грамадства.

Новая евангелізацыя таксама патрабуе дастасаванай да канкрэтнай сітуацыі пастаральнай тэалогіі. Яна павінна прымаць пад увагу хуткія сацыяльна-культурныя змены, якія ў сваю чаргу патрабуюць яе сталай актуалізацыі ў адпаведнасці з патрэбамі часу.

Гэта асабліва датычыць пастырства моладзі. Разважаючы пра новую евангелізацыю, трэба падкрэсліць, што слова «новая» павінна быць зразумелым як «маладая». Слуга Божы Ян Павел II і сённяшні Пантыфік Бэнэдыкт XVI падкрэсліваюць, што Касцёл павінен быць малады. А ён становіцца маладым найперш духоўнай маладосцю маладых. Таму і новая евангелізацыя заўсёды павінна быць маладой евангелізацыяй.

Касцёл моцна занепакоены духоўным станам сучаснай моладзі. Можна казаць пра цэлую лавіну пагрозаў, якім яна падвержана. Сярод іх найперш трэба вылучыць наступныя: аслабленне рэлігійнасці; селектыўнасць адносна праўдаў веры; маральны рэлятывізм, індыферэнтнасць і лібералізм; дасужэнскае сексуальнае жыццё і нават абагаўленне сексу; легкадумныя адносіны да інстытуту сям'і як адзінага і непарушнага саюзу мужчыны і жанчыны; непашана да самага вялікага Божага дару, якім з'яўляецца дар жыцця; крызіс аўтарытэтаў; аслабленне рэлігійных практыкаў; безыдэйнасць моладзевай субкультуры; практычны матэрыялізм; нездаровае імкненне да канфармізму і іміджу; захапленне сектамі; праявы агрэсіі і насілля; фізічная, псіхічная і духоўная слабасць, прычыну якой, між іншым, трэба шукаць у наркатычнай і алкагольнай залежнасці і іншых анамаліях сучаснага жыцця, і г.д.

У сувязі з гэтым узнікае цэлы шэраг пытанняў, якімі заклапочана таксама і моладзь. Найперш, як здзейсніць яе маральнае аднаўленне і ўгрунтаваць значэнне хрысціянскіх каштоўнасцяў у жыцці? З гэтымі і падобнымі пытаннямі непасрэдна спалучаны і задачы, якія стаяць перад Касцёлам: як дасягнуць таго, каб Бог на самай справе прысутнічаў у жыцці маладых людзей? Якія перспектывы і магчымасці адкрывае перад імі новая евангелізацыя? Што можа ўчыніць для моладзі Касцёл праз пастырскую дзейнасць?

Адказваючы на гэтыя і падобныя пытанні, трэба памятаць, што моладзь сама па сабе розная і адрозніваецца сваёй культурай, якая не заўсёды з'яўляецца субкультурай. Сярод моладзі многа творчай інтэлігенцыі, мастакоў, літаратараў, працаўнікоў мас-медыя і іншых спецыялістаў. Яны ствараюць сапраўдную культуру, якая нярэдка абапіраецца на хрысціянскія каштоўнасці, якая пазітыўна ўздзейнічае на грамадства. Такая моладзь чакае сваёй акцэптацыі з боку грамадства.

У той жа час, і гэта трэба падкрэсліць, злачынная моладзь, якая не атрымлівае грамадскай акцэптацыі, не можа быць пазбаўлена пастырскай апекі. Менавіта тут ёсць шырокае поле для дзеяння ў межах новай евангелізацыі. Патрабуюць гэтага найперш асобы, закранутыя вынікамі сацыяльна-культурных зменаў. Адным з іх з'яўляецца дэхрысціянізацыя, якая патрабуе евангелізацыі ахрышчаных, што адышлі ад рэлігійнага жыцця, і людзей, якія шукаюць веры[15].

Такім чынам, новая евангелізацыя адкрывае новыя перспектывы для пастырскай дзейнасці. Перш за ўсё яна прадугледжвае абвяшчэнне Хрыста і Яго Евангелля няверуючым, што называецца місійнай евангелізацыяй.

Далей ідзе евангелізацыя дэхрысціянізаваных грамадстваў. На самай справе гэта паўторная евангелізацыя, у якой галоўную ролю адыгрываюць спецыяльныя евангелізацыйныя ці пастырскія акцыі, мэтай якіх з'яўляецца абуджэнне веры, унутраная перамена і хрысціянская фармацыя[16]. Менавіта тут у цесным супрацоўніцтве з духавенствам вялікую ролю для спаўнення маюць свецкія людзі, здольныя да евангельскай працы з тымі, хто згубіў веру, а таксама з маргіналамі і людзьмі з паталагічнага асяроддзя. Асабліва гэта адносіцца да рэевангелізацыі моладзі, дзе новая евангелізацыя павінна ўлічваць каштоўнасці моладзевай культуры і ўплыў равеснікаў.

На гэтай прасторы новая евангелізацыя мае вялікія магчымасці. Для яе ажыццяўлення можна выкарыстоўваць як метады агульнага пастырства, уносячы ў яго новы дух, так і спецыялізаванага, узбагачанага нестандартнымі спосабамі хрысціянскай фармацыі. У залежнасці ад абставінаў можна таксама ствараць новыя пастырскія праграмы.

Усё гэта сведчыць пра тое, што новая евангелізацыя можа ўнесці новы імпульс у пастырства, схіляючы яго да лепшага пазнання праблемаў і пазбягання руціны, асабліва ў працы з моладдзю.

Пры гэтым, аднак, трэба памятаць, што заўсёды застаецца актуальным пытанне, з якім да Езуса звярнуўся багаты малады чалавек: «Настаўнік, што добрага зрабіць мне, каб мець жыццё вечнае?» (Мц 19, 16) У гэтым пытанні сфармуляваны ідэалізм маладога пакалення, імкненне да пазнання збаўчай праўды, адкрытасць на сапраўдныя евангельскія каштоўнасці. Адказ павінен быць тым самым: захоўвай Божыя запаведзі (пар. Мц 19, 16). Аднак ён павінен мець адносіны да сучаснага жыцця і яго выклікаў.

Зыходным пунктам новай евангелізацыі дэхрысціянізаванай моладзі з'яўляецца неабмежаваны патэнцыял маладых людзей, якія перш за ўсё чакаюць сапраўдных сведкаў праўды і веры. Нельга забываць пра тое, што праблемы моладзі бяруць свой пачатак у праблемах асяроддзя, грамадства, сям'і і г.д. У гэтай сітуацыі новая евангелізацыя, мэтай якой з'яўляецца набліжэнне сучаснаму секулярызаванаму свету Добрай Навіны, павінна стаць багатай і дынамічнай рэчаіснасцю, да якой належаць: рэлігійнае выхаванне ў сям'і, катэхеза, сакрамэнтальнае жыццё, удзел у жыцці парафіі, дыяцэзіі і мясцовага Касцёла, удзел у пілігрымках, удзел у дзейнасці розных груп, рухаў, рэлігійных арганізацый і г.д. Аднак — і гэта трэба падкрэсліць — усе гэтыя напрамкі пастырскай дзейнасці маюць адну мэту: аднаўленне рэлігійнага жыцця і ўчыненне яго больш свядомым і дынамічным. Таму можна смела сказаць, што Касцёл заўтра будзе такім, якой сёння будзе евангелізацыя.

У ажыццяўленні новай евангелізацыі асабліва месца займае роля тых, хто канкрэтна ёю займаецца і сведчыць пра яе сваім жыццём. Пры гэтым трэба заўважыць, што адной з галоўных рысаў чалавека, які прысвячае сябе новай евангелізацыі, з'яўляецца ўменне слухаць і разумець мову, менталітэт і праблемы людзей, асабліва маладых.

Усё неабходна распачынаць з сям'і. Адно з галоўных заданняў бацькоў — гэта выхаванне сваіх дзяцей, якое таксама павінна ахопліваць і рэлігійнае. Стан сучаснай сям'і ўказвае на шматлікія недахопы ў гэтай сферы. У краінах, дзе ёсць каталіцкія школы, увага людзей скіраваная на іх з надзеяй, што там будуць не толькі навучаць, але і евангелізаваць. У нашых абставінах менавіта сям'я, нядзельная школа і парафія з яе рознымі евангелізацыйнымі праграмамі павінны выконваць гэтую складаную і вельмі адказную місію.

Таму бацькі, настаўнікі, выхавацелі, святары і кансэкраваныя асобы пакліканы да сумленнага выкарыстання хрысціянскай канцэпцыі чалавека ў працэсе выхавання, галоўным матывам якога з'яўляецца безумоўная любоў, на падмурку якой у дзіцяці развіваюцца пачуццё бяспекі і вера ў каштоўнасць чалавека як Божага стварэння. Дзякуючы гэтаму дзіця вучыцца ацэньваць свае дасягненні з хрысціянскага погляду і фарміруе пазітыўныя матывы да далейшага развіцця. Таму сам выхаваўца павінен быць чулым да сітуацыі іншага чалавека і цярплівым, адначасова станоўчым і паслядоўным у сваім дзеянні, а таксама разважлівым, каб мог выхоўваць у іншых самадысцыпліну, самакантроль і разважлівасць. Таму выхаваўцы ў штодзённым жыцці павінны аб'ядноўваць веру з любоўю.

Штодзённае жыццё нагадвае нам пра важнасць і актуальнасць гэтых патрабаванняў. Пазітыўныя рысы евангелізатара моцна ўплываюць на перадачу і прыняцце зместу, які ён пераказвае. Евангелізатар павінен быць не толькі настаўнікам, але і сведкам. Ён таксама павінен дапамагаць у вырашэнні асабістых і экзістэнцыяльна-рэлігійных праблемаў чалавека. Гэта мае вельмі моцны ўплыў на фармаванне маладога чалавека, які баіцца ізаляцыі і самотнасці, шукае апоры і кантакту з іншымі людзьмі, якія гавораць на той жа мове, маюць тыя ж каштоўнасці і стыль жыцця. Малады чалавек хоча гаварыць, але таксама хоча, каб яго слухалі.

Акрамя Касцёла і сям'і ў наш час надзвычай важным выхаваўчым асяроддзем з'яўляюцца мас-медыя, якія даюць магчымасць адначасова звярнуцца з евангельскім пасланнем да мільёнаў людзей. Менавіта сродкі масавай камунікацыі вымушаюць да пошуку такіх спосабаў евангелізацыі і формаў перадачы веры, каб потым натхняць людзей да далейшага пошуку рэлігійных каштоўнасцяў.

Абвяшчэнне Евангелля патрабуе пошуку новых сродкаў перадачы і спосабаў пазнання ўсёй яго праўды. Гэтыя спосабы і метады павінны

быць прывабнымі, бо многія людзі, асабліва маладыя, лічаць, што рэлігійныя тэксты для іх нудныя. Тут, аднак, трэба памятаць, каб у пагоні за атракцыйнасцю не страціць праўдзівага рэлігійнага зместу, а дапамагчы чалавеку лепш яго зразумець.

Сучасны свет, як і ў пачатку абвяшчэння Евангелля, ставіць перад сабою адну мэту. Ён шукае багацця і ўцехаў, хлеба і відовішчаў, — як казалі рымляне. Сучасныя людзі вельмі часта падобныя да язычнікаў, да якіх апосталы скіроўвалі Божае слова. Таму людзі чакаюць новай евангелізацыі. Новай — не значыць сучаснай, але скіраванай да такога чалавека, якім ён на самай справе з'яўляецца. Новая евангелізацыя не крытыкуе і не асуджае сучаснага чалавека, але праз пазітыўнае абвяшчэнне Божага слова адкрывае годнасць чалавека, які з'яўляецца дзіцём Божым. Яна давярае будаванне Божага Валадарства такім людзям, якімі яны ёсць. Яна ахоплівае людзей, якія не вераць у Бога, якія ў мітусні сучаснага свету страцілі сваю веру, а таксама тых, якія з'яўляюцца хрысціянамі праз пакліканне і сувязь з Хрыстом.

Дзякуючы абвяшчэнню Божага слова і яго моцы рыхтуецца падмурак для пастырскай дзейнасці Касцёла ў асяроддзі людзей з «ахалоджанай» верай. Менавіта яны з'яўляюцца галоўным аб'ектам новай евангелізацыі. Праз абвяшчэнне «нямудрай навукі Хрыста» (пар. 1 Кар 2, 1–16) яны пазнаюць каштоўнасць свайго жыцця, якое было адкуплена Езусам Хрыстом.

Новая евангелізацыя павінна таксама даць адказ на экзістэнцыяльныя і рэлігійныя пытанні ў самым шырокім значэнні гэтага слова. Для вырашэння гэтага задання трэба звярнуцца да інтэлектуальных сродкаў, каб належным чынам быў выкарыстаны інтэлектуальны патэнцыял чалавека і такім чынам мог уплываць на рэлігійныя і культурна-сацыяльныя перамены як самога чалавека, так і грамадства.

Вялікае значэнне ў працэсе новай евангелізацыі мае адукацыя. Тут гаворка павінна ісці не толькі пра настаўніцкую ці выхаваўчую дзейнасць, але перш за ўсё пра выхаванне хрысціянскай эліты, для якой не будуць чужымі ні рэлігійныя каштоўнасці, ні культурная спадчына.

У наш час, калі пашыраюцца міжнародныя кантакты ў працэсе новай евангелізацыі, трэба карыстацца вопытам Касцёлаў у іншых краінах, каб выкарыстаць іх досвед і не паўтараць іх памылак, каб, як кажа прыказка, не наступаць другі раз на тыя самыя граблі.

Новая евангелізацыя павінна падрыхтаваць вернікаў да дыялогу з абыякавымі і нават негатыўна настроенымі да Касцёла людзьмі.

Такім чынам, новая евангелізацыя праз абвяшчэнне Божага слова і навучанне паклікана весці да навяртання і будавання Божага Валадарства. У гэтым працэсе асаблівае месца займаюць святары, якія павінны знаходзіцца на пярэднім фронце новай евангелізацыі. Нездарма Святы Айцец Бэнэдыкт XVI навучае, што фармацыя да святарства з'яўляецца ключом да новай евангелізацыі[17].

Адзначаючы юбілей 20-годдзя гродзенскай Вышэйшай духоўнай семінарыі, трэба нагадаць пра тое, што яна была заснаваная акурат у той час, калі ў нашай краіне з'явіліся магчымасці для ажыццяўлення новай евангелізацыі пасля многіх дзесяцігоддзяў ганенняў на Касцёл.

Семінарыя з'яўляецца сэрцам партыкулярнага Касцёла. 20 гадоў таму гэтае сэрца пачало біцца, каб падаваць у арганізм Касцёла, які пачынаў адраджацца, новых святароў, нібы новую кроў. Калі інфузія крыві дапамагае ў лячэнні хворага арганізма, то для нармальнага жыцця патрэбна свая кроў, якой і з'яўляюцца мясцовыя святары. З вялікай удзячнасцю слугам алтара, якія прыбылі да нас з дапамогай з-за мяжы, Касцёл у Беларусі клапоціцца пра фармацыю сваіх. Для рэалізацыі праграмы новай евангелізацыі гродзенская Вышэйшая духоўная семінарыя ўжо два дзесяцігоддзі рыхтуе новых святароў.

Сёння Вышэйшая духоўная семінарыя ў Гродне ўступае ў трэцяе дзесяцігоддзе сваёй дзейнасці. У 20 гадоў чалавек хоць і малады, аднак ужо дарослы і здольны прымаць адказныя рашэнні. Няхай жа прынятая ў духу сталага пакліканняя да святарства адказная чалавечая, духоўная, інтэлектуальная і пастырская фармацыя новых святароў у сценах гэтай семінарыі сапраўды стане ключом да новай евангелізацыі ў нашай краіне ў новых абставінах свабоды веравызнання з аднаго боку і нарастаючага секулярызму — з іншага, каб чалавек будаваў сваё жыццё на прынцыпах рэлігійнага гуманізму.

У новы, асветлены ідэямі новай евангелізацыі, шлях, Alma Mater Grodnensis! Ad multos et faecundos annos! І няхай табе благаслfavіць Першасвятар Езус Хрыстус!

**Выкарыстаная літаратура і прынятыя скарачэнні:**

[1] http://www.insomnia.pl/Nowe_badania_religijno%C5%9Bci-t606756.html; http://wyborcza.pl/1,76842,6261630,Europejczycy_malo_religijni.html
[2] http://catholic.baznica.info/archives/7123
[3] пар. G. Weigel, Świadek nadziei, Kraków 2000. 335.
[4] http://www.interfax-religion.ru/catholicism/?act=documents&div= 819
[5] http://www.kkbids.episkopat.pl/anamnesis/46/11.htm
[6] Павел VI, Энцыкліка «Evangelii nuntiandi» (EN), 14.
[7] Дакументы Другога Ватыканскага Сабору. Пастырская канстытуцыя пра Касцёл у сучасным свеце *Gaudium et spes* 45.
[8] http://www.interfax-religion.ru/?act=news&div=32765
[9] http://www.zenit.org/article-23696?l=italian
[10] Дакументы Другога Ватыканскага Сабору. Дагматычная канстытуцыя пра Касцёл *Lumen gentium*, 35.
[11] EN 10
[12] EN 22.41–46
[13] EN 47
[14] EN 23–24.29–39
[15] EN 52.56
[16] EN 18–19.56
[17] http://catholic.uz/full-news/items/papa-formirovanie-svjaschennikov-kljuch-k-novoj-evangelizacii.html



Джон Генры Ньюман нарадзіўся 21 лютага 1801 года ў Лондане. Вывучаў англіканскую тэалогію ў Оксфардзе, а ў 1824 годзе стаў пастарам англіканскай Царквы. З каталіцызмам пазнаёміўся падчас свайго падарожжа ў Італію. Пасля вяртання ў Англію заснаваў у Оксфардзе англіканскі аднаўленчы рух, мэтай якога стала адкрыццё каталіцкай спадчыны ў літургіі, тэалогіі і структуры Касцёла.

Пасля некалькіх гадоў вывучэння працаў айцоў Касцёла Ньюман прыйшоў да высновы, што не Каталіцкі Касцёл памыліўся ў сваім навучанні, а Англійская нацыянальная Царква далёка адышла ад першаснага пасланoccasionally ня веры. Восенню 1845 года ён вырашыў перайсці ў каталіцызм, і 9 кастрычніка быў афіцыйна прыняты ў каталіцкую веру.

Пасля навучання ў Рыме ў 1846 годзе Джон Генры атрымаў святарскае пасвячэнне і праз кароткі час уступіў у кангрэгацыю айцоў філіпінаў. У цяжкія часы XIX стагоддзя Ньюмана несправядліва абвінавацілі ў празмерным лібералізме, пасля чаго ён быў вымушаны пакінуць публічнае касцёльнае жыццё.

Папа Леў XIII цалкам рэабілітаваў былога канвертыта і 12 мая 1879 года надаў яму годнасць кардынала. Джон Генры Ньюман памёр у Бірмінгеме 11 жніўня 1890 года.

У каталіцкай тэалогіі Ньюман зрабіў вялікі ўклад у канцэпцыю развіцця догматаў. Яго думка значна паўплывала на каталіцкую тэалогію. Ён напісаў вялікую колькасць тэалагічных працаў.

Беатыфікацыйны працэс Ньюмана пачаўся ў 1986 годзе. У 1991 годзе Ян Павел II падпісаў дэкрэт аб гераічнасці яго цнотаў.

Для беатыфікацыі быў патрэбны цуд праз заступніцтва кардынала Ньюмана. Пераломным момантам стаў выпадак з 70-гадовым Джэкам Суліванам з ЗША, у якога было цяжкае захворванне пазваночніка. Ад самага пачатку ён быў перакананы, што стаў здаровым дзякуючы малітве ў інтэнцыі беатыфікацыі кардынала Ньюмана. Мужчына, які доўгія гады не ўставаў з ложка, ізноў можа нармальна хадзіць.

Пасля вывучэння гэтага выпадку 3 ліпеня 2009 года Бэнэдыкт XVI даў паўнамоцтвы Кангрэгацыі па справах кананізацыі апублікаваць дэкрэт, які пацвярджае цуд праз заступніцтва кардынала.

Беатыфікацыя Джона Генры Ньюмана адбылася ў Бірмінгеме 19 верасня 2010 года.

Януш Пыда OP

# ФІЗІК ЗВЫШНАТУРАЛЬНАГА

Я не сустракаў нікога, хто б, заглыбіўшыся ў тэксты кардынала, не перажыў бы вялікіх зменаў у сваім жыцці і светапоглядзе.

Існуе любоў з першага погляду і сімпатыя з першай сустрэчы. Аднак існуюць таксама любоў і сімпатыя, якія з цяжкасцю прабіваюць сабе шлях у нас саміх. Калі гэта здараецца, нашыя душы і думкі напаўняюць вялікая збянтэжанасць і разгубленасць. Наколькі любові з першага погляду звычайна спадарожнічае радасць, настолькі нараджэнню любові, якая вымушана была з мазалямі прабівацца праз нашае цвёрдае «я», звычайна спадарожнічае лёгкае здзіўленне і сорам: «Як я мог гэта палюбіць?»

Мая першая сустрэча з Ньюманам і яго тэкстамі дакладна не мела нічога агульнага з любоўю або нават сімпатыяй з першага погляду. Я чытаў, бо павінен быў чытаць. Мне сказалі, ці, дакладней, настойліва парэкамендавалі, прачытаць некалькі твораў кардынала, і прычыны гэтага былі далёкія ад тэалогіі. Калі б мне трэба было акрэсліць, што я адчуваў і думаў, першы раз гартаючы тэксты Ньюмана, я мог бы напісаць тое самае, што напісаў Ян Юзаф Шчэпаньскі пра сваю першую сустрэчу з літаратураю Конрада: «Уражанняў ад першага чытання я не магу апісаць дакладна. Яны павінны былі быць вялікія або нейкія незвычайныя, бо я шмат разоў вяртаўся да кнігі, заўжды ў складаных абставінах, далёкіх ад звычайных, і заўжды з пачуццём асаблівага чакання, нібы падазраваў, што прапусціў нешта істотнае або чагосьці не зразумеў да канца» («W służbie Wielkiego Armatora» з тома «Przed Nieznanym Trybunałem»).

У пэўным сэнсе Ньюман мяне раздражняў, напэўна, менавіта тым, што я не мог пазбавіцца ад яго ў сваіх думках і быў вымушаны вяртацца да яго твораў. Калі цяпер з пазіцыі поўнай і адназначнай сімпатыі, духоўнай і тэалагічнай, я гляджу на сваё першае чытанне твораў кардынала, то разумею, чаму не здолеў палюбіць яго «з першага погляду». У мяне дзіўнае ўражанне, што мне перашкаджала менавіта тое, што стварае асаблівасць і веліч гэтага святога і пісьменніка.

**Два светы**

Перадусім, я не мог пазбыцца ўражання, якое падчас чытання было найбольш выразным, што Ньюман мае абсалютна дзіўацкі падыход да таго, што называецца бачным светам. Я ні ў якім разе не хачу сказаць, што кардынал пагарджаў бачнымі рэчамі, каб падкрэсліць вагу рэчаў нябачных. Аднак тады, на самым пачатку сустрэчы, у мяне не было такога адчування. Калі б яно з'явілася, я б, пэўна, кінуў чытанне не столькі з-за раздражнення, колькі з-за нудоты, выкліканай чарговым гностыкам і тэалагічным байкапісцам. Але ў мяне не было ўражання, што Ньюман канцэпцыйна і тэарэтычна пагарджае бачным светам, каб гаварыць пра свет нябачны. Было нешта зусім іншае і зусім новае. З паглыбленнем у тэксты ўва мне ўмацавалася цвёрдае перакананне, што той, хто пісаў іх, больш выразна бачыць анёлаў, чым дрэвы і камяні, значна лепш ведае і здольны карыстацца духоўнымі законамі, чым я ведаю і здольны карыстацца законамі фізікі. Першародны грэх здаваўся Ньюману нечым такім жа ўсюдыпрысутным і вымерным у чалавечым жыцці, як гравітацыя, а ласка Божая разам з усім механізмам яе прымання і выкарыстання — нечым такім жа зразумелым і апісаным, як біялагічны механізм дыхання. Гэта было проста дзіўна — нібы раптам сустрэць фізіка ці біёлага звышнатуральнага свету, які бачыць і разумее законы, што ўсе перажываюць на ўласным досведзе, але мала хто здольны апісаць іх, растлумачыць і выкарыстоўваць. Гэтак, як да Ньютана многія бачылі, як з дрэваў падалі яблыкі, але нікому не прыйшло ў галаву, што з такой з'явы можна вывесці нейкае правіла, даць яму найменне і растлумачыць. Так і ў мяне было ўражанне, што я перажыў усё, пра што піша кардынал, але ніколі не думаў пра гэта як пра нешта вельмі канкрэтнае. Я не хачу сказаць, што чытанне Ньюмана стала ў маім духоўным жыцці тым, чым стала чытанне Фейнмана, Хокінга або Пэнроўза ў фізіцы, але толькі таму, што гэта гучала б празмерна добра. Пра Ньюмана распавядаюць, што калі ён пачынаў свае казанні ў касцёле св. Марыі ў Оксфардзе, слухачы, сабраныя каля амбоны, мелі адчуванне, што ён на імгненне быццам пакінуў звышнатуральны свет, які быў для яго домам і натуральным асяродкам жыцця, каб распавесці пра яго ўсім, хто ведаў пра звышнатуральнае толькі па чутках. Чытаючы тэксты Ньюмана, я ўсё больш пераконваўся ў тым, што чытаю нешта накшталт папулярных, але зусім не спрошчаных кнігаў з галіны фізікі звышнатуральнага.

**Бог і душа**

Другая думка, якая ўдарыла мяне з надзвычайнаю моцаю, — гэта тое, што я назіраў: Ньюман не бачыць нічога больш істотнага, чым вельмі асабістыя, амаль інтымныя стасункі паміж чалавечай душою і яе Стварыцелем. Кожная душа мела ў ягоных вачах такую самую каштоўнасць і вагу для свайго Стварыцеля, як увесь створаны свет. Кожная душа, як і ўвесь космас, была пакліканая да існавання з нічога. Бог, ствараючы кожнага асобнага чалавека, ствараючы яго душу, працягваў паўтараць нанава гэты незвычайны і цудоўны па сваёй сутнасці акт пераходу з небыцця да быцця, з неіснавання да існавання, акт, які ўзнік на пачатку ўсяго бачнага свету. Душа і свет былі створаныя *ex nihilo*. Гэта не з'яўляецца відавочна *novum* у тэалогіі, але Ньюман не толькі прыняў гэтую старую хрысціянскую пазіцыю. Ён пашырыў і выкарыстаў яе ў межах магчымага. Яна стала для яго асноў-

ным матывам для даследаванняў чалавечай душы як у духоўным, так і ў псіхалагічным вымярэнні. Ён паглыбіўся ў яе так, як прыродазнаўца паглыбляецца ў недаследаваныя джунглі, каб апісаць кожную, нават самую малую раслінку, якую знойдзе, і кожную, нават самую малую жамярыцу, якая сядзе яму на руку. Адсюль узнікае ўражанне, якое ў такой меры не сустракаецца пры чытанні любога іншага аўтара, што ён піша пра мяне самога, быццам падглядаў за мною, быццам здабываў, перапрацоўваў у словы і звязваў законамі ўсё тое, што адбываецца ўва мне і што здавалася мне зусім невядомаю і недаследаванаю прастораю. Аднак, калі я першы раз чытаў творы кардынала, мне здавалася, што ён корпаецца ў псіхалогіі, пагарджае любою метафізікаю і не цікавіцца нічым, што выходзіць за межы яго самога і чалавечых перажыванняў.

**Пачуццё гумару**

Адна рэч заўжды прыцягвала мяне да ангельскамоўных хрысціянскіх пісьменнікаў — дабрадзейнасць, якою надзеленыя яны ўсе, магчыма, за выключэннем Грына. Гэта — самае звычайнае ў свеце, але незвычайна высокай якасці пачуццё гумару. Неістотна, чытаеце вы Чэстэртона, Бэнсана, Нокса або Льюіса, заўжды можна знайсці нешта, што шчыра нас забавіць, — часам між вершамі, што распавядаюць пра вельмі значныя справы, а часам у дарэшты бескарыслівым апісанні камізму свету, які з'еҳаў з глузду. Я ведаў, што Ньюман — проста звышанглічанін, і шчыра спадзяваўся, што ў кім у кім, а ў хрысціянскім прадстаўніку менавіта гэтай нацыі можна спадзявацца не толькі на праўду і праніклівасць высноваў, але і на добрую забаву. Менавіта ў гэтым, як мне тады здалося, я шчыра падмануўся. Ньюман аказаўся да смерці сур'ёзны.

Ён раздражняў мяне гэтым так моцна, як нас могуць раздражняць людзі, ад якіх мы чакалі зусім іншага, не таго, што яны фактычна нам прапанавалі. Я ніяк не мог зразумець, чаму Ньюман мяне не забаўляе, чаму не смяшыць мяне і не папраўляе мне настрою. Гэтую няшчасную сур'ёзнасць Ньюмана, зрэшты, не такую ўжо поўную, як высветлілася, я зразумеў значна пазней. У пэўны час акрамя тэкстаў кардынала я пачаў чытаць ягоныя жыццяапісанні і, што было больш істотным, неймаверна вялікую карэспандэнцыю Ньюмана. Я паволі пачынаў адкрываць нешта незвычайнае — незвычайнае супадзенне таго, пра што ён пісаў, з тым, што адбывалася ў ягоным жыцці. Амаль кожны абзац у творах Ньюмана хавае за сабою гісторыю пэўнага канкрэтнага жыццёвага досведу аўтара. Амаль за кожнаю старонкаю хаваецца аповесць пра доўгі, працаёмкі і часам вельмі балючы досвед, які зрабіў магчымым яе напісанне. Кажуць, што кожны, нават самы абстрактны і разумовы тэкст, насычаны біяграфіяй аўтара. Гэта праўда, але справа не ў пакутлівым эксгібіцыянізме, ні ў паўсюдным раздзьмутым «я». Ньюман проста дорага плаціў амаль за ўсё, што пісаў. А тое, пра што ён думаў і пісаў, безупынна адбівалася на ягоным ладзе жыцця. Тое, што ён прыняў рашэнне перайсці ў каталіцтва ў выніку працы над адным са сваіх асноўных твораў — «Аб развіцці хрысціянскай навукі», — гэта не міф і не легенда. Такое ўжо адбывалася з ім — стоячы пры пісьменніцкім пюпітры, ён прымаў жыццёвыя рашэнні, якія часта пазбаўлялі яго сяброў, выклікалі абвінавачванні ў падступстве, двудушнасці, здрадзе і кан'юнктурнасці. Што ж, складана чакаць жартаў у такой сітуацыі. Ньюман, у найлепшым значэнні гэтага слова, не адчуваў ні цэню адлегласці ад вечных і духоўных справаў і сапраўды не жартаваў з іх.

**Паміж Гамлетам і Дон Кіхотам**

Звычка вучыць нас дастасоўваць верніка да адной з дзвюх характэрных катэгорый. Першая ўключае людзей, для якіх вера збудаваная з тонкіх матэрыяў, сумневаў або прамых ваганняў. Яна здаецца глыбокаю, рэфлексійнаю і спелаю вераю, але мае адзін мінус. Часта яна бездапаможная, няздольная распачаць ні адной справы, скіраваць нас да нейкага выбару або рашэння. Мы падобныя да Гамлета, які бясконца задае істотныя і складаныя пытанні, аднак яны паралізуюць яго і робяць глыбока нешчаслівым. Другая характэрная катэгорыя ўключае людзей, якія ідуць за вераю да канца нязведанай і неакрэсленай. Яны часта робяць рызыкоўныя і складаныя справы, не даследуючы, у якой ступені грунт пад іх нагамі дазваляе прыняць пэўнае рашэнне. Яны атакуюць да таго, як распазнаюць мэту атакі. Яны ідэйныя і адважныя, як Дон Кіхот, але часта іх дзеянні маюць памылковыя кірункі і мэты. Ньюман здаецца некім, хто яўна свядома і дабравольна ігнаруе абавязковасць такога падзелу вернікаў або нават проста думаючых людзей. З вартай здзіўлення настойлівасцю ён даказвае і сваімі творамі, і сваім жыццём, што нішто не дае такой матывацыі для дзеяння, як тонкая ідэя, і адначасова нішто не з'яўляецца большым імпульсам для далікатнай, асцярожнай і дэталёвай інтэлектуальнай апрацоўкі нейкай ідэі, як учынак, здзейснены ў яе імя. Выходзіць, што кардынал атакаваў наш асвечаны традыцыяй падзел на Гамлетаў і Дон Кіхотаў, аналітыкаў і ваяроў. Калі б ён рабіў гэта толькі на старонках сваіх твораў, мы спакойна маглі б праігнараваць такую эксцэнтрычную думку. Праблема ў тым, што ён пацвердзіў гэта сваім жыццём. Цяжка ўявіць сабе жыццяпіс такой адначасова ўражлівай, чуллівай, эстэтычна і сузіральна скіраванай да свету і рэчаіснасці асобы як Ньюман. І яго жыццяпіс быў багаты ў роўнай ступені вялікай колькасцю спрэчак, сварак, войнаў, ініцыятываў, рэвалюцый і драматычнага досведу.

**Заканчэнне**

Існуюць аўтары і тэолагі, якіх можна чытаць адносна бяспечна, не паглыбляючыся ў змест, які яны спрабуюць да нас данесці. Аднак я не ведаю нікога, хто сапраўды заглыбіўся б у тэксты кардынала і адначасова не перажыў бы нейкай вялікай перамены ў сваім жыцці і светапоглядзе. Магчыма, гэта найлепшы доказ, каб пацвердзіць тэзіс, што сур'ёзны Гамлет можа быць дасканалым Дон Кіхотам, а пастаяннае прабыванне ў звышнатуральным свеце толькі павялічвае нашыя сілы і імкненне да таго, каб паглыбляцца ў тое, што мы «маем пад рукою», — але ўжо па зусім іншых, чым да гэтага часу, правілах.

*«W drodze», 9, 2010.*
*Пераклад з польскай мовы*
*Юліі Шэдзько.*

Медзіярыт
з рымскага абраза
«Madonna del pascolo».
XVIII ст.




Аляксандр ЯРАШЭВІЧ

# Каранацыя Жыровіцкага абраза Маці Божай

## 8 (19) верасня 1730 года

Бываюць у жыцці дзіўныя супадзенні, а можа, гэта проста Божы Провід. У верасні 1718 г. адбылася першая ў Вялікім Княстве Літоўскім каранацыя цудатворнага абраза Маці Божай у трокскім касцёле (цяпер Тракай). У жніўні таго ж года генеральны пракуратар ордэну базыліянаў Бэнэдыкт Трулевіч вырашыў падправіць тынкоўку ў рымскай рэзідэнцыі ордэну пры царкве Сергія і Вакха. Майстар Сымон Чыёцці пачаў працу з калідора ніжняга паверха, і аднойчы, калі ён змятаў пыл шорсткім венікам, раптам адваліўся кавалак тынку, з-пад якога паказалася вочка дзіцяці, — яно «свяцілася, як сонейка». Здзіўлены майстар пачаў асцярожна адломваць тынк далей і ўбачыў непашкоджаныя лікі Дзіцяці Езуса і Маці Божай. Ён паведаміў аб знаходцы Трулевічу, але той быў заняты і вырашыў агледзець знаходку заўтра, ідучы раніцай у царкву.

Назаўтра ўсе, хто быў у рэзідэнцыі, убачылі цалкам сам сабою раскрыты абраз Багародзіцы з надпісам вакол яго і двума серафімамі абапал святых лікаў. Трулевіч адразу пазнаў у абразе паўтор Жыровіцкага абраза і дазволіў па суботах запальваць перад ім лампаду, з якой багамольцы бралі алей на паперу. Праз восем месяцаў ад абраза пайшлі цудоўныя знакі. У жніўні 1719 г. пры ім з'явілася першая срэбраная вота з чатырма крыжыкамі, затым яшчэ дзве і чацвёртая драўляная з выяваю адчутай ласкі. Усё часцей прыходзілі да абраза багамольцы, аднойчы перад ім укленчылі трынаццаць сялянаў, якія на пытанне, адкуль яны даведаліся пра абраз, расказалі, што ў полі ім з'явілася велічная Панна і наказала ісці ў манастыр Сергія і Вакха ды памазацца там алеем з лампады перад нядаўна яўленым абразом, каб вылечыцца ад хваробы. Праз колькі дзён бачылі перад абразом пятнаццаць знатных паняў у белых адзеннях, якія маліліся неяк асабліва. Перад абразом загучалі літаніі і іншыя спевы пілігрымаў...

---

**Аляксандр ЯРАШЭВІЧ** — кандыдат мастацтвазнаўства. Працуе ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Даследуе мастацтва эпохі Барока і гісторыю рэлігіі на Беларусі. Адзін з аўтараў двухтомнага даведніка «Рымска-каталіцкія Кальварыйскія могілкі ў Мінску на Беларусі» (Варшава, 1996, 2000), аўтар кніг «Маці Божая Снежная» ў Беларусі» («Про Хрысто, 2003»), «Абраз Маці Божай Будслаўскай» («Про Хрысто, 2004»), укладальнік і адзін з аўтараў альбома «Музей старажытнабеларускай культуры» (Мінск, 2004).

Яўлены абраз быў крыху пашкоджаны ўнізе, былі пацёртыя літары надпісу, а крук для лампады ўбіты проста ў грудзі Маці Божай, таму Трулевіч ўзяўся за рэстаўрацыю абраза: крук вынялі і ў тое месца ўставілі кавалачак цудатворнага жыровіцкага каменя[1]. Паднавіць страты Бэнэдыкт Трулевіч даверыў «нявіннаму хлопцу» Ларэнца Грамічэ дэ-Кавэ, які навучаўся жывапісу ў Вентура Ламбэрці[2]. Юнак спачатку адмаўляўся, але калі ў яго нечакана апухнуў палец на назе, згадзіўся паднавіць абраз[3], які меў у вышыню 1 фут 8 дзюймаў 8 1/4 л., у шырыню 1 фут 4 дзюймы 7 л., вакол — надпіс «Честнійшую Херувим і Славнійшую воистину Серафим...» і абапал — грэчаскія манаграмы Езуса і Марыі. Рымскі гісторык абраза І. Нардзі пісаў, што ніхто не помніў, кім і калі ён быў намаляваны, але слушна меркаваў, што, напэўна, нейкім базыліянінам, які прыехаў з Жыровічаў у першыя гады існавання рэзідэнцыі, каб паказаць Рыму, якую вялікую каштоўнасць маюць Вялікае Княства Літоўскае і Карона Польская.



Фрэска ў храме святых Сергія і Вакха (Madonna del pascolo) у Рыме. XVII ст.

Да 15 жніўня — Унебаўзяцця Багародзіцы і галоўнага свята Жыровіцкай Маці Божай — рэстаўрацыя абраза была закончаная, і пачалося шматлікае паломніцтва да святыні людзей простых і знаці — пабываў тут і кардынал Альбані, пратэктар Русі і закону базыліянаў. З 15 па 22 жніўня натоўпы значна павялічыліся, і рымскія ўлады, каб «утрымаць парадак», загадалі 1 верасня закрыць абраз сцяною. Гэта выклікала вялікія нараканні ў рымлянаў (беларускі гістарыёграф абраза Ігнацы Кульчыцкі тлумачыў акцыю ўладаў падкопамі нячыстага).

Пракуратар Бэнэдыкт Трулевіч звярнуўся да папы Клімента XI: апісаў незвычайныя абставіны з'яўлення абраза і папрасіў дазволу перанесці яго ў алтар царквы Сергія і Вакха. Часова абраз быў змешчаны ў бакавым алтары і пазней, калі пракуратар Ігнацы Кульчынскі закончыў новы галоўны алтар, аздоблены мастацкай ляпнінай. 7–8 верасня 1729 г. на Імшы адзначалася дата пераносу абраза, што суправаджалася цудоўнай музыкай. У гэты дзень у прадмесці Рыма Рыёнэ дэ Монці разносіліся стрэлы з марціраў, гукі тамбурынаў, трубаў і валторнаў, а ілюмінацыя на ўсіх вуліцах «ноч пераўтварала ў дзень». 12 і 13 верасня абраз перанеслі ў новы алтар, а 29 кастрычніка Полацкі архіепіскап Фларыян Грабніцкі зняў з абраза завесу, якой ён быў закрыты. Спевам гімна «Te Deum laudamus» пад прыгожую музыку і ўдзячнай малітвай пачалася ўрачыстая літургія. Гучаў салют з 24 марціраў, трубы і тамбурыны абвясцілі па ўсім наваколлі фэст[4].

У той самы час базыліяне пачалі хадайнічаць перад Апостальскаю Сталіцаю аб каранацыі цудатворнага Жыровіцкага абраза Маці Божай, таму аб'яўленне рымскай копіі было вельмі своечасовым. 15 красавіка 1726 г. папа Бэнэдыкт XIII выдаў прывілей на каранацыю абраза залатымі каронамі, даручыўшы выканаць урачысты абрад архіепіскапу Кіеўскаму і Галіцкаму, епіскапу Львоўскаму і Камянецкаму Афанасію Шаптыцкаму. Каранацыя мелася адбыцца 8 верасня 1728 г., але з-за смерці мітрапаліта Льва Кішкі (19 лістапада 1728 г.), а таксама па просьбе літоўскіх і польскіх магнатаў яна была адкладзеная, што аказалася больш зручным і для Жыровіцкага манастыра. Новы мітрапаліт Афанасій Шаптыцкі прызначыў каранацыю абраза на 8 (19) верасня 1730 года.

Вялікае Княства Літоўскае не ведала ўрачыстасці такога размаху з часоў кананізацыі святога Казіміра ў Вільні (1604 г.). У Жыровічах (з боку Слоніма) на сродкі розных мецэнатаў праз кожныя 100 крокаў было збудавана шэсць трыумфальных арак з дрэва, размаляваных мастакамі рознымі выявамі і сімвалічна-павучальнымі надпісамі на латыні. Першая арка належала базыліянскаму ордэну і Слонімскаму павету, другая — найвялебнаму каранатару мітрапаліту Афанасію Шаптыцкаму, трэцяя — роду Пацеяў, чацвёртая — роду Радзівілаў, пятая — роду Вішнявецкіх, шостая — Сапегам, калятарам і дабрачынцам Жыровіцкага манастыра ад самага яго пачатку.

Урачыстасць каранацыі мелася адбыцца ва Успенскім саборы.

Яго сцены і калоны былі да самага верху завешаныя персідскімі дыванамі, дамаскімі і іншымі тканінамі. У галоўным алтары знаходзілася дакладная копія «рымскай» Жыровіцкай іконы Маці Божай, ужо таксама праслаўленая цудамі, запісанымі ў асобную кнігу. Яна была аздобленая каштоўнай пазалочанай срэбранай шатай і каронамі ад мсціслаўскага падстолія Міхала Загорскага ў падзяку за вылячэнне ад цяжкай хваробы, а таксама мноствам залатых і сярэбраных прывесак і каштоўнымі камянямі[5].



«Маці Божая Жыровіцкая», 1682 г.
Гравюра Л. Тарасевіча па малюнку П. Бацэвіча.

Галоўны алтар і чатыры бакавыя былі аздобленыя залатымі таблічкамі, персідскімі дыванамі і тканінамі, срэбранымі лампадамі і люстрамі. Алтар Жыровіцкай Маці Божай, які ззяў дыяментамі і каштоўнымі камянямі, быў ахінуты балдахінам з пышных тканінаў, таксама ўпрыгожаных камянямі. Апрача лампадаў і свечачнікаў, былі выявы дванаццаці літых сярэбраных анёлаў высокага росту, якія трымалі ў руках свечкі. Пры пілоне насупраць амбоны стаяў трон для каранатара, усланы персідскімі дыванамі, пад балдахінам; абапал стаялі трыццаць крэслаў для духавенства і магнатаў. На пілонах былі развешаныя сем вялікіх авальных карцінаў з выявамі з'яўлення Жыровіцкай іконы і найбольш вядомых яе цудаў, у тым ліку перамогі літоўскага войска Сапегі і Юдыцкага над войскам маскоўскага ваяводы Хаванскага пад Палонкай у 1660 годзе[6].

4 верасня ў Жыровічы прыехаў мітрапаліт Афанасій Шаптыцкі са шматлікім духавенствам, з Наваградскай кангрэгацыі прыбылі прадстаўнікі ўсіх базыліянскіх кляштараў Літоўскай правінцыі, мноства магнатаў шляхты, а таксама простага стану людзей Літвы, Русі, Жмудзі, Падляшша, Валыні, Падоліі, Польшчы, Лівоніі і з-за мяжы Рэчы Паспалітай. Пілігрымамі былі перапоўненыя не толькі Жыровічы і Слонім, але ўсё наваколле. Некаторыя наладзілі палаткі і навесы, большасць тулілася ў шалашах і пад голым небам у чаканні ўрачыстасці.

5 верасня (у суботу) у Жыровічы прыехалі епіскапы Уладзімірскі і Брэсцкі Тэафіл Гадэбскі, Пінскі і Тураўскі Юрый Булгак, архімандрыты і прэлаты. Урачыстую вячэрню цэлебраваў Кобрынскі архімандрыт Канстанцін Шацкі.

6 верасня Мітрапаліт у асістэнцыі біскупаў і абатаў адслужыў раннюю абедню пры алтары Жыровіцкай Маці Божай. Там жа «спеўную» абедню служыў ігумен Быценьскага манастыра Антоні Завадскі. Суму пры галоўным алтары служыў архімандрыт Шацкі, а ўрачыстую вячэрню — протаархімандрыт ордэну — беразвецкі ігумен Антоні Таміловіч.

Паводле рымскага звычаю, цэлы тыдзень да каранацыі раніцай, у поўдзень і вечарам паўгадзіны разносіўся трыумфальны звон, пасля яго раніцай і вечарам паўгадзіны іграў сімфанічны аркестр. Напярэдадні свята ў Жыровічы прыйшлі тры шматлюдныя працэсіі пілігрымаў з Вільні, Мінска і Міра. З мірскай працэсіяй ішоў полк радзівілаўскіх янычараў з аркестрам; па дарозе і пры падходзе ў Жыровічах войска салютавала з гарматаў.

Ранкам 7 верасня з боку Слоніма прыйшлі пяхота, драгуны і конніца вялікага гетмана літоўскага Міхала Сервацыя Вішнявецкага — са сцягамі, громам музыкі і бубнаў. Памаліўшыся перад дзвярыма храма, войска паставіла палаткі на ўзгорках пад Жыровічамі. Крыху пазней з конным эскортам з'явіўся сам гетман з жонкай і сваякамі і накіраваўся ў храм, дзе ішла абедня. Затым прыбыў польны гетман Лука Барановіч з конніцай і артылерыяй і заняў узгорак св. Георгія. У гэты час служыліся Імшы пры галоўным алтары, алтарах Жыровіцкай іконы і св. Ануфрыя.

Пасля поўдня прыехала Ганна Радзівіл, удава канцлера Караля Станіслава з сынам Геранімам, са світай, пешым і конным эскортам, і спынілася ў манастырскім фальварку. Ганна аздобіла кароны каштоўнымі камянямі (па іншых звестках, цалкам аплаціла іх выраб)[7].

15-гадовы Геранім Радзівіл выконваў ролю пасланца Апос-

тальскай Сталіцы — ён даставіў з Рыма кароны, асвечаныя папам Бэнэдыктам XIII. З імі прыехалі наваградскі ваявода Мікалай Радзівіл з жонкай і сынамі, мінская ваяводзіна Завішына з дзецьмі, каралеўскі скарбнік Юзаф Сапега, трокскі кашталян Ян Сапега, Адам Хадкевіч і іншыя магнаты Вялікага Княства Літоўскага.

А трэцяй гадзіне па поўдні званы, грукат бубнаў, музыка і салют з гарматаў паклікалі ўсіх на ўрачыстую вячэрню, якую а чацвёртай гадзіне распачаў мітрапаліт Шаптыцкі ў асістэнцыі біскупаў, абатаў і прэлатаў. Затым Мітрапаліт сеў на свой трон, духавенства размясцілася абапал яго, і тараканскі ігумен айцец Мацвей Казачэнка сваёй вучонаю прамоваю паклаў пачатак 8-дзённым казанням слова Божага. Затым у храме адбылася Эўхарыстычная працэсія і былі пачаты літаніі перад цудатворным абразом. Ад поўдня да 10 гадзін вечара пілігрымы спавядаліся ў галоўным храме, нядаўна збудаванай «Цямніцы Хрыстовай»[8], Яўленскай капліцы з цудоўным каменем, царкве св. Георгія і на другім паверсе Сапежынскай брамы. Столькі было жадаючых, што не хапала духаўнікоў, і так доўжылася ўсю актаву свята. Дзень закончыўся ўрачыстымі звонамі, салютам з гарматаў, музыкай, якая гучала з царкоўных вежаў, брамаў і ўзгоркаў. Была запаленая раскошная ілюмінацыя — манастыр, храмы, трыумфальныя аркі і ўсё мястэчка заззялі агнямі.

У поўнач з 7 на 8 верасня званы з вежы Успенскага сабора паклікалі на «Анёл Панскі», і народ памкнуў да яшчэ зачыненага сабора. У дзве гадзіны гукамі званоў і гарматнымі стрэламі пачалося ранішняе богаслужэнне пры ўсіх алтарах галоўнага храма. З пяці гадзін да дзвюх апоўдні без перапынку правілі абедні ва ўсіх храмах і трох часовых алтарах перад саборам. У 5 гадзін дня перад галоўным алтаром была спяваная абедня (ватыва).



Жыровіцкі абраз Маці Божай. XV ст. Жыровічы. Успенскі сабор.

Цырымонія каранацыі пачалася ў гаі Вікня з «прыватнай перадачы» каронаў Бэнэдыктам Трулевічам з прэлатамі апостальскаму пасланцу Гераніму Радзівілу з асістэнтамі. Тым часам Мітрапаліт з духавенствам «прыватна» прыбыў на гару св. Георгія і спыніўся ў намёце сярод Літоўскай конніцы і ў атачэнні магнатаў, чакаючы прыбыцця Радзівіла з каронамі.

А 7-й гадзіне вечара з захаду, «як бы з Рыма», паказалася багатая карэта Радзівіла, побач з якім сядзеў Эрнэст-Казімір Дэ-Лямур, прэпазыт Нясвіжскі і Мірскі. Эскорт утваралі карэты з вяльможамі, коннікі, прыдворныя, атрад замежнай конніцы. Пры падыходзе да варотаў сабора загрымелі бубны і гарматны салют, загучала музыка. Пасля кароткай малітвы перад царквой носьбіт каронаў са світаю праз трыумфальныя аркі накіраваўся на гару св. Юр'я на сустрэчу з Мітрапалітам. Там зноў раздаліся салютныя залпы. Радзівіл увайшоў у намёт і, сказаўшы кароткую элегантную прамову, аддаў у рукі Мітрапаліта кароны.

Мітрапаліт перадаў кароны двум епіскапам, сеў разам з імі і Радзівілам у карэту і ўзначаліў урачыстае шэсце праз трыумфальныя брамы ў царкву. Паперадзе ехаў даўгі рад экіпажаў літоўскага і польскага магнацтва пад эскортам конніцы. За карэтай Мітрапаліта рухаліся яго прыдворныя воіны, па баках — світа Радзівіла, наперадзе архідыякан нёс мітрапалічы крыж. У час шэсця да першай брамы на ўсіх званіцах білі ў званы, на гары св. Юрыя салютавалі гарматы. Перад кожнай брамай Мітрапаліта сустракалі ваенны салют, бомы званоў і красамоўныя вітанні выкладчыкаў базыліянскіх школ і прапаведнікаў. Каля Радзівілаўскай брамы гэтую ролю выканаў прафесар Полацкай школы Тэафіль Янткевіч. Неўзабаве ён склаў апісанне на лаціне ўсёй каранацыйнай урачыстасці, якое падрабязна пераказаў-пераклаў протаіерэй Мікалай Дзікоўскі[9]. Пры браме Вішнявецкіх Мітрапаліт выйшаў з карэты і ў суправаджэнні духоўных асобаў, у тым ліку двух епіскапаў, якія неслі на падушачках кароны, прайшоў да Сапежынскай брамы, пастаўленай перад самым уваходам у сабор. Ад імя роду Сапегаў тут яго вітаў віленскі ігумен Патрыцый



Абраз Маці Божай Жыровіцкай
з слонімскага касцёла святога Андрэя.
1-я пал. XVII ст.

Жыраўскі. Мітрапаліт пакрапіў усіх святою вадою і ўвайшоў у храм, дзе яго чакала духавенства. Кароны былі пакладзены на спецыяльны столік, які адразу абступілі грэнадзёры; балдахін над каронамі трымаў базыліянскі клерык у белым сціхары, апаясаны накрыж двума арарамі. Затым Мітрапаліт, духавенства і пачэсныя госці селі на свае месцы. У храме гучала музыка, білі званы, салютная стральба ішла ў мястэчку і з навакольных узгоркаў. Стаяла ясная пагодная раніца, хоць напярэдадні ноч была халодная і дажджлівая.

Па знаку музыка змоўкла, і протаархімандрыт ордэну базыліянаў у кароткай прамове да Мітрапаліта папрасіў перадаць кароны базыліянскаму ордэну. Звярнуўшыся з узнёслай прамовай да базыліянаў, Мітрапаліт перадаў кароны ордэну і загадаў запісаць у мітрапалітальныя акты гэты факт, абавязаўшы ордэн быць удзячным св. Апостальскаму пасаду за такую ласку і захоўваць кароны з належнай пашанай.

Затым духавенства і Мітрапаліт апранулі арнаты для Боскай літургіі. Благаславіўшы народ трыкірыем і крыжам, пад спевы «Ис полла эти деспота...» Мітрапаліт узышоў на троннае месца. Па яго загадзе быў прачытаны прывілей на каранацыю ад Ватыканскай капітулы. Мітрапаліт у суправаджэнні епіскапаў і прэлатаў падышоў да століка, на якім ляжалі кароны, прачытаў па-славянску малітву з лацінскага рытуалу, пакрапіў кароны святою вадою і акадзіў. Затым падышоў да алтара цудатворнай Жыровіцкай іконы, падняўся па лесвіцы і, стоячы на каленях, пры гуках званоў і аргана, салюту гарматаў і стрэльбаў з навакольных узгоркаў, усклаў кароны на галовы Найсвяцейшага Дзіцяці Езуса і Найсвяцейшай Яго Маці. Спусціўшыся ніжэй, Мітрапаліт праспяваў па-славянску тэксты з рымскага рытуалу і па просьбе Ганны Радзівіл пачаў па-славянску песню «Тваёй абароне...», якую падхапіў увесь народ.

А палове 6-й вечара была адслужана ўрачыстая вячэрня і выслухана казанне, затым адбылася Эўхарыстычная працэсія. Дзень закончыўся спевамі пад музыку «Ларэтанскай літаніі» перад алтаром з цудатворным абразом Маці Божай. 15 верасня працэсіяй у храме, спевам па-славянску «Цябе Бога праслаўляем...» і Ларэтанскай літаніі перад цудатворным абразом свята ў гонар Жыровіцкай Маці Божай урачыста закончылася.

На памяць аб каранацыі былі выбіты залатыя і сярэбраныя медалі ад мітрапаліта Шаптыцкага (4 віды) і Гераніма Радзівіла (2 віды), якія раздавалі ўсім прысутным. Відавочца Янткевіч захоплена апісвае незвычайны эмацыянальны ўздым тых, каму пашчасціла быць у гэты дзень у Жыровічах. Святкаванне з літургіямі, пропаведзямі, філасофскім дыспутам працягвалася восем дзён. За гэты час па падліках манахаў паспавядаліся і прычасціліся 140 352 чалавекі (69837 католікаў і 70515 уніятаў). Было зафіксавана сем эпізодаў цудоўнай дапамогі ад Жыровіцкага абраза.

Рымскія кароны і старажытнае аздабленне цудатворнага абраза беражліва захоўвалі базыліяне, а пасля 1834 г. — праваслаўныя манахі. У 1915 г. перад прыходам войскаў кайзера Вільгельма жыровіцкая святыня, як і іншыя царкоўныя рэліквіі, была вывезена ў эвакуацыю ў Маскву. Пасля Рыжскай дамовы 1921 г., хоць і страціўшы свае каштоўныя аздобы, абраз цудам вярнуўся ў Жыровічы.

---

[1] Камень, на якім адбылося паўторнае аб'яўленне Жыровіцкага абраза пасля пажару царквы ў XVI ст. Цяпер знаходзіцца ў алтары Яўленскай царквы Жыровіцкага манастыра.

[2] Ларэнца Грамічэ дэ Кава (1702–1795) пражыў доўгае жыццё, захаваліся яго алтарныя карціны ў некаторых касцёлах Італіі і прыватных зборах.

[3] Kulczynski Ignacy. Il Diacprio Di tre Colori ouvero Narrazione storica della tre Imagini Miraculose della Beata Vergine Maria... Roma, 1732.

[4] Падобным чынам, 8 дзён (актава), з архірэйскімі службамі, музыкай і залпамі салютаў, у 1819 г. святкавалася ў Рыме 100-годдзе аб'яўлення копіі Жыровіцкага абраза.

[5] У 1901 г. «рымскага» абраза ў жыровіцкіх храмах ужо не было; базыліяне, магчыма, вынеслі яго з сабора ў час скасавання уніі; верагодна, цяпер ён знаходзіцца ў слонімскім касцёле св. Андрэя, аднаўленым з руінаў пасля паўстагоддзя варварскага атэізму.

[6] Палонка знаходзіцца за 30 км на ўсход ад Слоніма.

[7] Ганна Радзівіл (1676–1746), жонка канцлера ВКЛ Караля Станіслава Радзівіла(1669–1719).

[8] Кальварыйская царква Узвышэння Крыжа пабудаваная на ахвяраванне (5000 злотых) Элеаноры Галоўшчыны, лоўчай пінскай пасля 1716 года.

[9] Диковский Н., Коронование Жировицкой иконы Богоматери (1730 г.). — Гродна. 1902 г.

Аляксей Яроменка



# Чырвоны юбілей Чырвонага касцёла

Сёлетні 2010 год багаты на юбілеі ў гісторыі рыма-каталіцкай канфесіі ў сталіцы Беларусі, горадзе Мінску. Манахі бэнэдыктыны адзначылі 380-годзе заснавання свайго кляштара ў Мінску. 405 гадоў таму ў Мінску з'явіліся першыя каталіцкія манахі — дамінікане. Мінула 310 гадоў з таго часу, як у горадзе распачалі сваё служэнне кармэліты. Урэшце, 300 гадоў з дня кансэкрацыі нядаўна вельмі ўрачыста адзначыў архікатэдральны касцёл Імя Найсвяцейшай Панны Марыі. Ды і магілёўская катэдра, другая ў дыяцэзіі святыня Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, таксама адзначала памятную дату — 270 гадоў таму будынак касцёла ўзвялі манахі кармэліты. А колькі яшчэ памятных датаў адзначылі іншыя каталіцкія святыні і ў архідыяцэзіі, і ва ўсёй Беларусі! (1, 3)

Самы прыгожы, а значыць, як сказалі б старажытныя славяне, «красны», юбілей адзначыў і Чырвоны касцёл сталіцы — 100 гадоў! Роўна стагоддзе назад, 21 лістапада, была ўрачыста кансэкраваная гэтая святыня пад тытулам святых Сымона і Алены, якая адразу атрымала ад мінчанаў назву «Чырвоны касцёл» — і за чырвоную цэглу, з якой яе збудавалі, і за прыгажосць вытанчаных прапорцый. (3, 6) І, відаць, менавіта гэты юбілей, дакладней, яго 100-гадовая гісторыя, найлепш адлюстроўвае ўсе трагічныя і радасныя падзеі мінулага стагоддзя.

І здаецца, што магло б засмуціць радасць ад узвядзення новага касцёла на пачатку новага стагоддзя? Але вернікі, якія тады ахвяравалі сродкі на хутчэйшае ўзвядзенне новай святыні і ўсяляк дапамагалі будаўніцтву, вельмі добра памяталі, як яшчэ нядаўна іх родны Мінск быў горадам каталіцкіх кляштараў і касцёлаў — тут дзейнічалі 11 рыма-каталіцкіх комплексаў з касцёламі, фарны касцёл з філіяльнымі касцёламі і капліцамі. Яны таксама добра памяталі, як гэтыя святыні зачыняліся, руйнаваліся, знішчаліся, а ў «лепшым выпадку» перадаваліся іншым канфесіям або прыстасоўваліся пад грамадзянскія, ваенныя ці гаспадарчыя патрэбы. З гісторыі сваіх сем'яў яны памяталі, як іх бацькі і дзяды плацілі свабодаю, уласнасцю, а часам нават і жыццём за сваю веру, як фактычна больш за паўстагоддзя яна прыгняталася ў Расійскай імперыі — за той час не было пабудавана ніводнага новага касцёла ў Мінску і былі зачыненыя абсалютна ўсе каталіцкія кляштары[1]. (1, 3)

Да пачатку XX стагоддзя ў Мінску дзейнічаў толькі адзін касцёл — Імя Найсвяцейшай Панны Марыі, ці, як яго тады называлі, — Марыінскі, які ўжо страціў статус катэдральнага[2]. І, безумоўна, святыня не магла змясціць усіх мінчанаў, якія прыходзілі на набажэнствы. Няшмат маглі дапамагчы ў гэтым і невялікія філіяльныя касцёлы на мо-

---

**Аляксей ЯРОМЕНКА** — архітэктар, даследчык архітэктуры. У 1989 г. скончыў архітэктурны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута. Працаваў у ВА «Белрэстаўрацыя», ДПІ «Мінскпраект», творчых майстэрнях пры Саюзе архітэктараў РБ. Лаўрэат міжнародных і рэспубліканскіх архітэктурных конкурсаў. Большасць работ зроблена ў галіне культавага дойлідства, рэстаўрацыі і рэканструкцыі сакральных аб'ектаў. З'яўляецца аўтарам культавых збудаванняў у Бабруйску, Бараўлянах, в. Браздзечына, Мінску, Слуцку, в. Цэнтральнай і інш. Займаецца выяўленнем і фіксацыяй руінаў раней не даследаваных культавых аб'ектаў. Жыве ў Мінску.

гілках — Найсвяцейшай Тройцы на Залатой Горцы і Узвышэння Святога Крыжа на Кальварыі. Тым не менш усе спробы каталіцкага насельніцтва горада атрымаць ад уладаў дазвол на ўзвядзенне новага касцёла ў Мінску не мелі поспеху ажно да прыняцця ў 1905 г. імператарскага маніфеста аб свабодзе сумлення. Да нас дайшлі гістарычныя дакументы, якія фармальна дазвалялі распачаць будаўніцтва ў 1897 г., у 1903 годзе[3]. І усё ж рэальнае будаўніцтва пачалося толькі ў маі 1905 г., праз месяц пасля публікацыі маніфеста.

Фундатарамі новага касцёла на скрыжаванні вул. Захар'еўскай (цяпер пр. Незалежнасці) і вул. Трубнай (вул. Берсана) сталі вядомы дзяржаўны і палітычны дзеяч, слуцкі павятовы суддзя, былы пасол Дзяржаўнай рады, старшыня Мінскага сельгаставарыства Эдвард Вайніловіч і яго жонка Алімпія, народжаная Вузлоўская. Згодна з фундушам, новая святыня павінна была асвячацца пад тытулам святых Сымона і Алены, на ўспамін пра заўчасна памерлых дзяцей фундатараў — Сымона (1884–1897) і Алену (1884–1903). Такім чынам у адным тытуле, што практычна нідзе больш не сустракаецца, былі аб'яднаныя імёны святых: апостала Сымона і святой Алены, маці імператара Канстанціна Вялікага. (3, 6)

Сямейнае паданне Вайніловічаў захоўвала памяць пра тое, як пасля смерці дванаццацігадовага Сымонкі старэйшая за яго на год Аленка стала яшчэ больш ціхаю, задумліваю і вельмі пабожнаю. Калі праз тры гады яна сама захварэла, то неяк у сне ўбачыла незвычайнай прыгажосці касцёл. Пасля не раз смяротна хворая дзяўчына імкнулася намаляваць тую надзвычай прыгожую святыню, а перад самай смерцю яна папрасіла бацькоў пабудаваць касцёл, дзе людзі маглі б праслаўляць Бога.

Пахвальна тое, што, нягледзячы на асабістую трагедыю, на роспач з-за гістарычнага лёсу сваёй канфесіі, Вайніловічы як сапраўдныя хрысціяне марылі пра супакой і еднасць усіх хрысціянаў. Як пісаў сам пан Эдвард: «Я пачаў знаёміцца з узорамі і разнастайнымі архітэктурнымі канцэпцыямі. Не жадаў спыняцца на гатычным стылі, папершае, таму, што ён стаў вельмі распаўсюджаны на той час пры будаўніцтве каталіцкіх святыняў у Расіі, па-другое, таму што вельмі адрозніваўся ад стылю праваслаўных храмаў, якія існавалі ў нашым краі, і гэтым як бы падкрэсліваў падзел у веравызнанні класаў нашага грамадства, і я спыніўся на раманскім стылі, росквіт якога прыпадае на час, калі Усходняя Царква існавала ў еднасці з Рымам».

Для будаўніцтва Эдвард Вайніловіч абраў праект вядомага архітэктара, прафесара Варшаўскай акдэміі мастацтваў Тамаша Пайздэрскага. Правобразам будучай святыні стаў касцёл у Ютросіне (цяпер Познаньскае ваяводства), які быў пабудаваны незадоўга да гэтага і таксама па праекце Т. Пайздэрскага ў стылі неараманікі (дакладная назва — надрэйнскі рамантызм) з элементамі неаготыкі і сецэсіі. У рэалізацыі праекта ў Мінску таксама прымалі ўдзел архітэктары Уладзіслаў Марконі і Генрык Гай[4]. (6, 8)

25 верасня 1906 г. урачыстае асвячэнне вуглавога каменю будучага касцёла здзейсніў дэкан Казімір Міхалкевіч. А праз 4 гады над горадам узвысілася шмат'ярусная вежа-званіца новай святыні, якая стала сімвалам адроджанай каталіцкай веры і ўзнесла свае крыжы на самую высокую кропку ў тагачасным Мінску — амаль на 50 метраў. Такой вышыні не дасягалі нават крыжы кляштарных касцёлаў XVIII ст., калі Мінск сапраўды быў горадам каталіцкіх кляштараў. Акрамя гэтага, касцёл святых Сымона і Алены стаў самаю вялікаю святыняю ў горадзе (згодна з праектам, ён быў разлічаны на 2500 парафіянаў). Велічную святыню пабудавалі з чырвонай цэглы (яе прывозілі з Каўнаса, як і жоўтую дахоўку — першапачатковае пакрыццё святыні), што, як ужо было сказана, і дало святыні другую назву — Чырвоны касцёл. (1, 3, 6)

Касцёл святых Сымона і Алены ўяўляе з сябе 3-нававую, 3-вежаваю базыліку асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі з магутным трансептам, тарцы якой вырашаныя дакладна так, як і галоўны ўваходны фасад, — над тамбурам, выдзеленым у асобны аб'ём, інтэр'ер асвятляе вялікае акно-ружа пад








Выява герба Мінска на франтоне Чырвонага касцёла.

трохкутным франтонам. Першапачаткова касцёл быў 3-апсідным — паўцыркульнай апсідай заканчваліся цэнтральная нава, паўцыркульнымі апсідамі выходзілі на заходні фасад і дзве сакрысты, якія завяршалі бакавыя навы. Паміж прэзбітэрыем і сакрыстыямі пачынаюцца дзве 5-ярусныя вежы пад высокімі шатровымі дахамі. Інтэр’ер касцёла на сродкі графа Э.Чапскага, сям’і Скірмунтаў і іншых фундатараў упрыгожылі тры алтары работы скульптара Зыгмунта Ота, ён жа выканаў усе каменныя і скульптурныя працы — амбону, агароджы, бронзавыя дэталі. Арнаментальны жывапіс у стылі мадэрн на скляпеннях і сценах касцёла належалі аўтарству Францішка Бруздовіча, які таксама з’яўляецца аўтарам усіх аконных вітражоў (яны не захаваліся; цяперашнія вітражы ў 1970-я гг. выканаў мастак Г. Вашчанка). Фундатар Э. Вайніловіч атрымаў дазвол на перанос у Чырвоны касцёл вялікай каштоўнасці: на галоўным алтары было ўсталяванае цудадзейнае ўкрыжаванне са Збаўцам, прывезенае са старажытнага фарнага касцёла ў Слуцку. Па жаданні фундатара ў франтоне над тамбурам галоўнага ўвахода была змешчана каменная белая пліта з гербам Вайніловічаў і надпісам на лацінскай мове ў памяць пра памерлых дзяцей. Злева ад уваходу (з вуліцы Захар’еўскай была змешчана адкрытая невялікая прысценная капліčка, дзе Вайніловічы захацелі паставіць бронзавую фігуру Маці Божай — копію фігуры на іх сямейных могілках у маёнтку Савічы (цяпер Капыльскі р-н). Да левага фасада ўздоўж Захар’еўскай вуліцы прыбудоўвалася галерэя, якая па задуме архітэктара Т. Пайздэрскага павінна была звязаць касцёл з вялікаю 2-павярховаю плябаніяй. Аднак гэта частка праекта так і не была рэалізаваная, а новая плябанія, больш сціплая па аб’ёме (адзін паверх з мансардай), была пабудаваная ў глыбіні пляца. Нарэшце, 20 верасня 1910 г., пры касцёле святых Сымона і Алены была зацверджана новая мінская парафія, першым пробашчам якой стаў былы егуменскі дэкан ксёндз Вітальд Тамашэўскі. У хуткім часе колькасць парафіянаў новазацверджанай парафіі перавышала 9000 чалавек. (1, 6)

21 лістапада 1910 г. стала для Мінска сапраўдным святам. Мабыць, увесь горад сабраўся на гук трох званоў Чырвонага касцёла: «Міхала», «Эдварда» і «Сымона», якія з вышыні касцёльнай вежы абвясцілі ўсім пра асвячэнне цудоўнай святыні арцыбіскупам Ключынскім. Да сённяшняга дня касцёл з’яўляецца своеасаблівай візітнай карткай Мінска. (6)

Але радаваць мінчанаў гукамі званоў Чырвонаму касцёлу давялося нядоўга. Ужо ў 1923 г. амаль усе каштоўнасці святыні былі экспрапрыяваныя савецкаю ўладаю. Канчаткова касцёл зачынілі ў 1932 г., прыстасаваўшы спачатку пад Польскі тэатр БССР, а пасля пад Тэатр юнага гледача і кінастудыю. У 1942 г., пасля рэстаўрацыі, касцёл зноў адкрыўся для набажэнстваў, але адразу пасля вайны быў зачынены — і ўжо надоўга. У святыні зноў размясціліся службы кінастудыі. Потым было некалькі спробаў, на шчасце, няўдалых, цалкам знішчыць будынак — яны закончыліся перабудовай святыні пад Дом кіно. Тады з’явіліся прыбудовы на левым бакавым фасадзе; сакрысты, страціўшы апсіды, злучыліся паўкруглай 3-павярховай прыбудоўкай вакол галоўнай апсіды; інтэр’ер раздзяляўся перакрыццямі, лесвіцамі, перагародкамі, увесь жывапіс забялілі. Была разабраная і агароджа касцёльнай тэрыторыі разам з уваходнымі брамамі. У такім выглядзе касцёл быў аб’яўлены помнікам архітэктуры рэспубліканскага значэння. (2)

Толькі ў 1990 г. касцёл святых Сымона і Алены быў вернуты католікам (першая святая Імша ў галерэі вернутай святыні адбылася 21 лістапада 1990 г.) і адразу ж распачаліся рэстаўрацыйныя працы пад кіраўніцтвам архітэктара Л. Івановай. На вежах



Барэльеф на ўваходных дзвярах Чырвонага касцёла. Скульптар В. Янушкевіч.

знoў узвысіліся крыжы, на скляпеннях і ў прэзбітэрыі былі расчышчаны роспісы. Сістэма падземных памяшканняў аб'яднала ўсю тэрыторыю паміж касцёлам і плябаніяй (цяпер тут размяшчаюцца вялікая бібліятэка і два тэатры). У залах падземнага ўзроўню 28 кастрычніка 1996 г. пачаў сваю працу першы ў гісторыі Беларусі Сінод Рыма-каталіцкага Касцёла. Менавіта ў гонар гэтай падзеі перад увахoдам у святыню з'явілася бронзавая фігура Міхала Арханёла працы скульптара І. У. Голубева, якую 29 кастрычніка асвяціў кардынал Казімір Свёнтэк. Бронзавыя шыльды пры ўваходзе ў касцёл і шыкоўныя дзверы галоўнага партала былі зроблены скульптарам С. А. Лагвіным (асвечаныя 27 жніўня 2000 г.). А ў верасні 2000 г. на рагу касцёльнай тэрыторыі, злева ад увахода, па праекце японскага архітэктара Марыяма была ўзведзена мемарыяльная драўляная званіца-помнік «Звон Нагасакі» ў памяць ахвяраў ядзерных катастрофаў — Хірасімы, Нагасакі і Чарнобыля. У 1945 г., калі на Нагасакі была скінутая ядзерная бомба, у руінах мясцовага каталіцкага касцёла быў знойдзены цудам не пашкоджаны звон, які называўся «Анёл». Цяпер копія гэтага звана падараваная японскімі католікамі парафіі святых Сымона і Алены.

У 1994 г. была ўрачыста асвечаная падземная капліца Маці Божай Будслаўскай, дзе адбываецца пастаянная адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнту. У тым жа годзе на ахвяраванні сям'і Гурыновічаў у левым бакавым алтары з'явіўся тытульны абраз святых Сымона і Алены работы мастака Бэкіра Смольскага. Абраз Божай Міласэрнасці ў правым бакавым алтары быў усталяваны ў 1995 годзе. 25 мая 1995 г. пры касцёле зарэгістравана Хрысціянскае таварыства міласэрнасці для дапамогі хворым і бедным, са снежня 2000 г. дзейнічае хор хлопчыкаў «Сымонікі» і мужчынскі хор «Арханёл», у студзені 2003 г. заснаваны і хор дзяўчынак «Гасанна». З касцёла вялася трансляцыя радыёпраграмы «Голас душы», пры ім былі заснаваныя часопіс «Вера і жыццё» і газета «Голас душы». 9 верасня 1998 г. аднавіла сваю працу парафіяльная бібліятэка, ахвяраваная Беластоцкім універсітэтам.

Старажытнахрысціянская традыцыя пахавання ў крыпце святыні яе фундатараў і асобных парафіянаў вярнулася і ў Чырвоны касцёл. 11 чэрвеня 2005 г. тут былі ўрачыста перазахаваныя астанкі фундатара святыні Эдварда Вайніловіча, які памёр у 1928 г. у польскім Быдгошчы. А 15 лістапада 2008 г., згодна з уласным завяшчаннем, тут знайшоў спачын англійскі вучоны, даследчык беларускай духоўнай музыкі Гай Пікарда. Мемарыяльныя дошкі у іх гонар знаходзяцца каля вулічнай капліцы галоўнага фасада, дзе цяпер усталяваная фігура Хрыста. Тут жа знаходзіцца цудам ацалелы надмагільны помнік малога Сымона Вайніловіча з чорнага граніту.

А ўваходны франтон Чырвонага касцёла цяпер упрыгожвае герб горада, атрыманы Мінскам яшчэ ў 1591 г., — Найсвяцейшая Панна Марыя ў атачэнні анёлаў і херубімаў. І так хочацца верыць, што пад апекаю Божай Маці да наступнага юбілею святыня будзе перажываць толькі радасныя падзеі.

---

[1] У XVIII ст. у горадзе дзейнічалі не толькі 11 рыма-каталіцкіх (бэнэдыктынаў і бэнэдыктынак, бэрнардынаў і бэрнардынак, баніфратраў, дамініканаў, езуітаў, кармэлітаў, марыявітак, рахітаў і францішканаў), але і грэка-каталіцкія (1 базыліянаў і 2 базыліянак) кляштары. Пасля іх поўнай ліквідацыі з вышэйпералічаных юбіляраў у Мінску не так даўно атрымалі магчымасць ізноў распачаць працу кармэліты — іх парафія Божага Цела зарэгістраваная па вул. Ангарскай. Астатнім манаскім орэнам давялося, на жаль, адзначаць свае «мінскія» юбілеі за межамі Мінска, а то і Беларусі. (2, 3)

[2] Мінская рыма-каталіцкая катэдра была заснавана ў 1798 г. (катэдральным стаў паезуіцкі касцёл) і ліквідаваная імператарскімі ўладамі ў 1869 годзе. (1, 7)

[3] Супадзенне з датамі смерці дзяцей фундатара Э. Вайніловіча выпадковае — у тыя гады пан Эдвард яшчэ не ўваходзіў у касцёльны камітэт новага будаўніцтва. 25 жніўня 1897 г. мінскі губернатар Трубяцкі падпісаў прашэнне касцёльнага камітэта, які тады ўзначалілі І. Віткевіч, Ф. Віткоўскі і Я. Філіповіч-Дубовік, на выдзяленне пад будаўніцтва новага касцёла «пустога пляца гарадской зямлі, які знаходзіцца на рагу Пецярбургскай (цяпер р-н вул. Ленінградскай») і Каломенскай (цяпер вул. Свярдлова) вуліцаў і заняты пад дрывяны склад». Але ўжо ў наступным, 1898 г., гэта рашэнне было анулянае, бо «не атрымала падтрымкі ў Мінскай праваслаўнай епархіі». У той час гэта была звыклая сітуацыя — царскія ўлады фармальна нібы і не былі супраць узвядзення новых касцёлаў, але неабходнасць узгадняць гэта ў праваслаўных структурах не давала ніякай магчымасці для будаўніцтва.

27 кастрычніка 1903 г. мінская Гарадская дума зноў дазволіла выдзеліць пад будаўніцтва новага касцёла вышэйзгаданы пляц, праўда, ужо былога дрывянога склада, абмовіўшыся, што ў якасці альтэрнатывы можа быць разгледжаны і пляц на перакрыжаванні Захар'еўскай і Трубнай, дзе, у рэшце рэшт, святыню і ўзвялі. Але, як узгадвалася, рэальны дазвол быў атрыманы толькі праз 2 гады — 9 сакавіка 1905 года. Эдвард Вайніловіч выказаў гатоўнасць прафінансаваць праектаванне і будаўніцтва ў 1904 годзе.

[4] Архітэктар Т. Пайздэрскі, як грамадзянін-іншаземец (пераехаў у Варшаву толькі ў 1903 г.), згодна з заканадаўствам Расійскай імперыі, не мог праектаваць і будаваць на яе тэрыторыі, таму чарцяжы афіцыйна былі падпісаныя польскім архітэктарам Уладзіславам Марконі. Аднак узвядзеннем Чырвонага касцёла фактычна кіраваў усё-такі Т. Пайздэрскі, але ён не дажыў да канца будаўніцтва — замяніў варшаўскі архітэктар Генрык Гай, які незадоўга да гэтага, у 1904 г., пабудаваў новы касцёл у Воўчкавічах пад Мінскам (не захаваўся), дарэчы, падобны па стылістыцы на Чырвоны касцёл. (1, 6)


1. Żyskar, J. Nasze kościoły. — Warszawa, 1913.
2. Канфесіі на Беларусі (канец XVIII–XX ст.) / Навук. рэд. У. І. Навіцкі. — Мінск, 1998.
3. Каталіцкія святыні. Мінска-Магілёўская архідыяцэзія. Ч. 1. Будслаўскі, Вілейскі і Мінскі дэканаты — Мінск: Выдавецтва «Pro Christo», 2003.
4. Архітэктура Беларусі. Энцыклапедычны даведнік. — Мінск, 1993.
5. Кулагін, А. М. «Каталіцкія храмы на Беларусі». — Мінск, 2008.
6. Дзянісаў, У. Касцёл святых Сымона і Алены. — Мінск, 1996.
7. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. — Мінск, 1994–2001.

**Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі**

8. Ф. 24
   воп. 1, спр.:
   — 3610. Аб пабудове касцёла ў імя святых Сымона і Алены на рагу вуліцаў Трубяцкой і Захар'еўскай. 1905 г.
   Ф. 295
   воп. 1, спр.:
9. — 8027. Звесткі аб рыма-каталіцкіх касцёлах, пабудаваных у 1910 г. на сродкі памешчыкаў Мінскага павета.
10. — 8556б. Спіс рыма-каталіцкіх будынкаў, праекты якіх былі адобраныя Будаўнічым аддзяленнем Мінскага губернскага праўлення з 17.04.1905 г. да 1.01.1917 г.
11. Ф. 299
   воп. 5, спр.:
   — 1782. Разгляд плана пабудовы касцёла на рагу Трубяцкой і Захар'еўскай вуліцаў у г. Мінску ў імя святых Сымона і Алены. 1905–1907 гг.
   Ф. 1781
   воп. 26, спр.:
12. — 1497. Візітнае апісанне мінскага касцёла Найсвяцейшай Тройцы на Залатой Горцы за 1908 г.
13. — 1498. Інвентарныя вопісы касцёлаў Мінскага павета за 1907–1914 гг.



# Кветачкі святога Францішка

У імя Пана нашага
ўкрыжаванага Езуса Хрыста
і Яго Маці Панны Марыі
ў гэтай кнізе выкладзеныя
некаторыя справы,
цуды і прыклады добрапрыстойнасці
слаўнага нябогі Хрыстовага
месэра святога Францішка
ды іншых яго святых паплечнікаў.
Хвала Езусу Хрысту.
Амэн.

**Частка XLV**

*Пра навяртанне, жыццё, цуды і смерць брата Яна з Пенны*

Калі брат Ян з Пенны быў свецкім падлеткам у правінцыі Маркі, неяк уночы з'явіўся яму прыгожы юнак і, назваўшы яго па імені, сказаў: «О, Яне, ідзі ў Санта Стэфана, дзе прапаведуе адзін з маіх братоў, павер у яго вучэнне і слухай яго словы, бо гэта я вам яго паслаў; пасля ты выправішся ў вялікае падарожжа, а потым прыйдзеш да мяне». Адразу тады брат Ян устаў і адчуў вялікія змены ў сваёй душы. І пайшоў у Санта Стэфана, і сустрэў там вялікі натоўп мужчынаў і жанчынаў, якія слухалі пропаведзь. А тым, хто павінен быў прапаведаваць, быў брат па імені Філіп, адзін з першых, хто прыйшоў у Анконскую Марку, бо мала яшчэ было кляштараў у правінцыі Маркі.

Устаў брат Філіп і пачаў прапаведаваць, і вельмі пабожна прапаведаваў не толькі словамі чалавечай мудрасці, але і дабрадзейнасцю духу Хрыста, аб'яўляючы царства вечнага жыцця. А па заканчэнні пропаведзі пайшоў юнак да брата Філіпа і сказаў яму: «Айцец, калі б вы захацелі прыняць мяне ў ордэн, я б ахвотна пакаяўся і служыў бы Пану нашаму Езусу Хрысту». Убачыў і пазнаў брат Філіп у гэтым юнаку такую цудоўную нявіннасць і цвёрдую волю служыць Богу, што сказаў яму: «Прыйдзі да мяне як-небудзь у Рэканаці, і я цябе прыму». У тым кляштары павінен быў адбыцца агульны Капітул правінцыі. Юнак, які быў вельмі чысты душою, падумаў, што гэта і ёсць тое вялікае падарожжа, якое ён павінен быў здзейсніць згодна з адкрыццём, якое яго напаткала, і пасля адправіцца ў Рай; так ён і збіраўся зрабіць, як толькі яго прымуць у ордэн. Такім чынам ён пайшоў туды і быў прыняты, але пабачыў, што намер яго не здзяйсняецца, і паколькі менавіта ў той час міністр на Капітуле казаў, што тым, хто пажадае па волі святога паслушэнства пайсці ў Праванс, ён ахвотна дасць дазвол, то ўзнікла ў юнака моцнае жаданне туды пайсці, думаючы ў сэрцы сваім, што, магчыма, гэта і ёсць тое вялікае падарожжа, якое ён павінен здзейсніць, перш чым выправіцца ў Рай; але пасаромеўся пра гэта сказаць. Нарэшце ён паспавядаўся згаданаму брату Філіпу, які прыняў яго ў ордэн і папрасіў

*Працяг. Пачатак у 3 за 2007 г.*

яго міласціва вымаліць ласку пайсці ў Праванс. Тады брат Філіп, зважаючы на яго чысціню і яго святы намер, дастаў яму дазвол; пасля чаго брат Ян з вялікай радасцю рушыў у дарогу з думкай, што, безумоўна, пасля гэтай дарогі ён выправіцца ў Рай.

Але па волі Божай ён прабыў у Правансе дваццаць пяць гадоў у гэтым чаканні і жаданні, жывучы ў найвялікшай сумленнасці, святасці і прыкладнасці, і ўвесь час рос у цноце і ў ласцы Божай і народнай, і вельмі яго любілі браты і свецкія.

Аднойчы брат Ян пабожна маліўся, плачучы і скардзячыся, бо яго жаданне не здзяйснялася і яго пілігрымка ў гэтым жыцці працягвалася занадта доўга: тады яму з'явіўся Хрыстус благаслаўлёны, перад чыім аблiччам душа яго ўсхваляvalася, і сказаў яму Хрыстус: «Сын мой, брат Ян, прасі ў мяне ўсё, што хочаш». І ён сказаў: «Пан мой, я не ведаю, што мне папрасіць, акрамя як Цябе самога, бо нічога іншага я не жадаю; але я папрашу Цябе толькі аб тым, каб Ты дараваў мне ўсе мае грахі і даў мне ласку пабачыць Цябе яшчэ адзін раз, калі я буду мець у гэтым найбольшую патрэбу». Сказаў яму Хрыстус: «Скончылася твая малітва». І пасля гэтых словаў пайшоў прэч, а брат Ян застаўся супакоены і суцешаны.

У рэшце рэшт браты з Маркі даведаліся аб яго святасці і вельмі прасілі старэйшага ордэну, каб адправіў яму загад вярнуцца ў Марку. Атрымаўшы загад, ён, узрадаваны, рушыў у дарогу, думаючы, што пасля гэтай дарогі ён павінен будзе патрапіць на неба, згодна з абяцаннем Хрыста. Але калі ён вярнуўся ў правінцыю Маркі, то пражыў там яшчэ трыццаць гадоў і не быў апазнаны нікім са сваіх сваякоў. Кожны дзень ён чакаў міласці ад Бога, каб той выканаў сваё абяцанне. І шмат разоў за гэты час ён нёс службу вартаўніка з вялікім стараннем, і Бог праз яго здзейсніў шмат цудаў.

Між іншых дароў, якія ён атрымаў ад Бога, быў і дар прароцтва; вось аднойчы пайшоў ён з кляштара, а адзін з навіцыяў быў ахоплены шатанам і вельмі ім спакушаны, настолькі, што, паддаўшыся спакушэнню, вызваліў сам сябе і выйшаў з ордэну, пакуль брата Яна не было; даведаўшыся, дзякуючы прароцкаму духу пра гэтае спакушэнне і пра вызваленне ад абавязкаў, брат Ян адразу ж вярнуўся дадому і пакlікаў да сябе таго навіцыя, і сказаў, што хоча, каб той паспавядаўся. Але перш чым той паспавядаўся, брат Ян распавёў яму па парадку ўсю яго спакусу, згодна з тым, што яму адкрыў Бог, і завяршыў гаворку так: «Сын мой, паколькі ты мяне пачакаў і не захацеў пайсці без майго благаслаўлення, Бог зрабіў табе гэтую ласку, што цяпер ужо ты не пакінеш гэты ордэн, але памрэш у ордэне, у Божай ласцы». Тады згаданы навіцый быў умацаваны ў добрай волі і, застаўшыся ў ордэне, стаў святым братам.

І ўсе гэтыя рэчы расказаў мне брат Угаліна. Згаданы брат Ян быў чалавекам з вясёлым і лёгкім сэрцам, вялікай малітвы і пабожнасці, гаварыў рэдка і, асабліва пасля Ютрані, ніколі не вяртаўся ў келлю, але заставаўся маліцца ў касцёле, пакуль не надыходзіў дзень. Аднойчы, калі ён так маліўся ў цемры пасля Ютрані, узнік перад ім Анёл Божы і сказаў яму: «Браце Ян, Ён завяршыў тваё жыццё, чаго ты так даўно чакаў, і я абвяшчаю табе ад імя Бога, што ты можаш прасіць любую ласку, якую захочаш. І яшчэ я абвяшчаю табе, каб ты выбраў: ці адзін дзень у чыстцы ці сем дзён пакутаў гэтага свету». І паколькі брат Ян выбраў сем дзён пакутаў у гэтым свеце, то адразу захварэў на розныя хваробы, у яго паднялася высокая тэмпература, падагра скруціла рукі і ногі, і схапіў боль у баку і ў іншых розных месцах: але горш за ўсё быў яму шатан, што паўстаў перад ім і трымаў у руцэ вялікі ліст паперы з напісанымі на ім усімі грахамі, якія брат Ян зрабіў ці пра якія падумаў, і сказаў яму: «За грахі, якімі ты саграшыў у думках, у словах і ў дзеяннях, ты асуджаны на самае пекла». А брат Ян не памятаў ніводнай добрай справы, якую зрабіў, быццам бы і ў ордэне ён ніколі не быў, але верыў, што ён асуджаны, як шатан яму гаварыў. І вось, калі ў яго спыталі, як ён сябе адчувае, брат Ян адказаў: «Дрэнна, бо я асуджаны».

Пабачылі такую справу браты і паслалі за адным старэйшым братам, якога звалі брат Масей з Монтэ Руб'яна, што быў святым чалавекам і вялікім сябрам брата Яна. І на сёмы дзень пакутаў прыйшоў да яго брат Масей, павітаўся з ім і спытаўся, як ён сябе адчувае. Адказаў брат Ян, што адчувае сябе дрэнна, таму што быў асуджаны. Тады сказаў брат Масей: «Хіба ты не памятаеш, як шмат разоў мне спавядаўся, і я цалкам адпусціў табе ўсе грахі? Хіба

ты не памятаеш, што служыў Богу ў гэтым святым ордэне на працягу многіх гадоў? І нават не памятаеш пра тое, што ласка Божая дарue ўсе грахі свету і што наш Хрыстус, благаслаўлёны Збавіцель, заплаціў, каб выкупіць нас, непамерную цану? А таму май надзею, што ты цалкам збаўлены». І пасля гэтых словаў, паколькі скончылася ачышчэнне, знікла спакуса і прыйшло суцяшэнне.

І з вялікай радасцю сказаў брат Ян брату Масею: «Паколькі ты стаміўся, а час ужо позні, я прашу, каб ты пайшоў адпачыў». Але брат Масей не захацеў пакідаць яго; ды нарэшце, па настойлівай яго просьбе, пайшоў адпачываць, а брат Ян застаўся сам-насам з братам, які ім служыў. І вось Хрыстус благаслаўлёны з'явіўся ім у вялікім ззянні і ў атачэнні салодкага водару, згодна са сваім абяцаннем прыйсці ў другі раз, калі брат Ян будзе найбольш мець у гэтым патрэбу, і вылечыў яго ад усіх хваробаў. Тады брат Ян са складзенымі рукамі падзякаваў Яму, што найлепшым чынам завяршылася яго падарожжа па гэтым бедным тутэйшым жыцці, пасля даручыў і перадаў у рукі Хрыста сваю душу, і перайшоў з зямнога жыцця да жыцця вечнага з благаслаўлёным Хрыстом, якога ён так доўга жадаў і чакаў. І быў пахаваны згаданы брат Ян у кляштары святога Яна ў Пенне.

Слава Хрысту. Амэн.

**Частка XLVI**

*Як брат Пацыфік маліўся і ўбачыў, як душа брата яго Уміле ўздымалася на неба*

У згаданай правінцыі Маркі пасля смерці святога Францішка жылі два родныя браты з ордэну; аднаго звалі брат Уміле, а другога — брат Пацыфік, і былі яны людзьмі вялікай святасці і дасканаласці: і адзін з іх, а менавіта брат Уміле, жыў у кляштары Саф'яна, дзе і памёр, а другі жыў з брацтвам у другім кляштары вельмі ад яго далёка. Па волі Божай брат Пацыфік аднойчы падчас малітвы у самотным месцы быў ахоплены захапленнем і ўбачыў, як душа яго брата Уміле ўздымалася якраз у гэты момант з цела проста на неба, без ніякіх затрымак і перашкодаў.

Здарылася так потым, што праз шмат гадоў гэты брат Пацыфік, які застаўся жыць, быў пераведзены разам з іншымі братамі ў кляштар Саф'яна, дзе памёр яго брат. У той час браты па просьбе сіньёраў Брунфортэ перасяліліся з гэтага кляштара ў іншы, куды разам з другімі рэчамі перанеслі парэшткі святых братоў, што памерлі ў тым кляштары. І калі яны прыйшлі да пахавання брата Уміле, родны брат яго Пацыфік узяў яго косці і памыў іх белым вінам, а пасля завярнуў іх у белую сурвэту і з вялікай пашанай і пабожнасцю цалаваў іх і плакаў; іншыя браты дзівіліся з гэтага і не бачылі ў гэтым для сябе добрага прыкладу, бо паколькі ён быў чалавекам вялікай святасці, здавалася, што ён плача аб браце з-за пачуццёвай і свецкай любові, і што яго парэшткам больш ён выказваў пабожнасці, чым парэшткам іншых братоў, якія былі не меншай святасці, чым брат Уміле, і былі вартыя такога ж шанавання, як і ён.

Брат Пацыфік, ведаючы пра вялікае здзіўленне братоў, пакорліва іх суцешыў і сказаў: «Браты мае дарагія, не здзіўляйцеся, што з касцьмі майго брата я зрабіў тое, чаго не рабіў з іншымі, бо, хай будзе благаслаўлёны Бог, не выклікаў ён у мяне цялеснай любові, але я зрабіў так таму, што калі мой брат адышоў з гэтага жыцця, я, молячыся ў пустынным і далёкім ад яго месцы, убачыў, як яго душа ўзыходзіла проста на неба, а таму я ўпэўнены, што косці яго святыя і павінны быць у Раі. А калі б Бог мне даў такую ж упэўненасць у дачыненні да парэшткаў іншых братоў, то я б такую ж самую рэч зрабіў бы з іх касцямі». Таму браты, калі пабачылі яго пабожнасць і святы намер, сталі трымацца аб ім добрай думкі і ўсхвалілі Бога за тое, што робіць цудоўныя рэчы святым сваім братам.

Слава Хрысту. Амэн.

*Пераклад з італьянскай мовы Аксаны Данільчык.*
*Працяг будзе.*

Тамаш Кэмпійскі

# СЬЛЕДАМ ЗА ХРЫСТОМ

## Чатыры кніжкі

*З лацінскай мовы пераклаў д-р Ст. Грынкевіч*

**КНІЖКА ТРЭЦЯЯ**

### АБ УНУТРАНАЙ ПАЦЕСЕ

**Разьдзел L**

*Як трэба чалавеку гаротнаму спадзявацца толькі на руку Божую*

**1.** Пане Божа, Ойча Сьвяты, будзь блаславёны цяпер і на векі, бо як Ты хочаш, так яно і сталася, а тое, што Ты робіш, — добрым ёсьць.

Няхай слуга Твой весяліцца ў Табе, а не ў сабе ці ў кім іншым, бо Ты адзін сапраўднае вясельле, Ты надзея мая і карона мая, Ты радасьць мая і хвала мая, о Пане.

Што ж мае слуга Твой, апрыч таго, што ад Цябе дастаў, дый то бяз ніякае заслугі сваёй?

Усё, што даў Ты, ці што зрабіў — Тваім ёсьць.

*Бедны я ды ў працы з самых лет маладых* (Пс 87, 16), і сумуе душа мая падчас аж да слёз, а часамі дзеля дрэнных пажаданьняў, якія ўва мне падымаюцца, вельмі трывожыцца яна.

**2.** Імкнуся я да вясельля супакойнасьці, лятучу аб супакоі сыноў Тваіх, якіх корміш Ты ў сьвятле пацехі сваёй.

Калі абдарыш мяне супакоем, калі ўвальеш у мяне сваю сьвятую радасьць — напоўніцца цалкам душа слугі Твайго радаснымі гукамі і пабожна будзе апяваць хвалу Тваю.

Калі адыдзеш ад мяне, як гэта часта трапляецца, ня здолею хадзіць шляхам загадаў Тваіх, але ўпаўшы на калені, буду біць сябе ў грудзі, бо ўжо мне ня так добра, як было ўчора ды пазаўчора, калі сьвятло Тваё сьвяціла над галавой маёй ды пад цяньком крыльляў Тваіх хаваўся я ад злыдзенных спакусаў.

**3.** Ойча справядлівы і заўсёды годны хвалы, прышла гадзіна спробы для слугі Твайго.

Ойча міласэрны, трэба сапраўды, каб на гэтую гадзіну пацярпеў крыху дзеля Цябе слуга Твой.

Ойча, годны заўсёднае хвальбы, вось прышла хвіліна, якую ад векаў Ты прадбачыў, каб слуга Твой увонках спатыкнуўся, аднак унутры каб заўсёды жыў з Табою.

Дык няхай яго крыху спакораць, паніжаць пры людзях; няхай скруцяць яго ўласныя нахілы ды клопаты, каб ізноў з Табою ў зары новага сьвятла з'явіцца ды зіхацець нябесным блескам.

Сьвяты Ойча, Ты гэтак загадаў і пастанавіў, і сталася тое, што сам загадаў Ты.

**4.** Гэта ж вялікая ласка прыяцелю Твайму цярпець ды трываць розныя турботы дзеля любові Цябе — калі толькі Ты захочаш і ад каго толькі захочаш.

Бяз прычыны, бяз суду ды прадбачаньня Твайго — нічога няма на сьвеце.

*Добра мне, о Пане, што спакарыў Ты мяне, каб навучыўся я справядлівасьці Тваёй* (Пс 118, 71), каб кінуў усю пыху з сэрца ды самапэўнасьць сваю.

Карысна мне, каб сорам пакрыў мой воблік, каб у Цябе, а не ў людзей шукаў я хутчэй пацехі.

Згэтуль навучыўся я такжа палохацца і дрыжэць перад таёмнымі Тваімі прысудамі, якіх дазнае і справядлівы, і бязбожны, але заўсёды паводле праўды і справядлівасьці.

**5.** Дзякую Табе за тое, што не дараваў Ты благацьцям маім, а балюча пакараў мяне, дапускаючы боль і насылаючы турботы як вонкавыя, так і ўнутраныя.

---

*Працяг. Пачатак у 1–4 за 2007–2009 гг. і ў 1–3 за 2010 г.*

Спасярод усяго таго, што ёсьць пад небам, няма нічога, што магло б мяне пацешыць, апроч Цябе, Пане Божа мой, нябесны лекару душаў, які *караеш і збаўляеш, кідаеш у пекла і назад выводзіш* (Тоб 13, 2).

*Права Тваё нада мною, і розга Твая мяне вучыць* (Пс 17, 36).

**6.** І вось, Ойча ўлюблёны, зусім я ў руках Тваіх і з пакораю схіляюся пад розгаю кары Тваёй.

Бі ў хрыбет ды па шыі мяне, схіляў я пад волю Тваю ўпорыстасьць сваю.

Зрабі з мяне вучня пабожнага і пакорнага, як часта Ты гэта робіш, каб быў я паслухмяным на кожны знак Твой.

Сябе і ўсё сваё аддаю Табе, каб паправіў Ты мяне, бо лепш тутака быць караным, чымся ў жыцьці будучым.

Ты ведаеш усё, і нічога патайнога няма перад Табою ў людзкім сумленьні.

Ты ведаеш будучыню, пакуль яна яшчэ не наступіла, і ня трэба, каб хтосьці вучыў Цябе ды перасьцерагаў аб тым, што робіцца на зямлі.

Ты ведаеш, што карысна дзеля поступу майго і сколькі памагаюць турботы, каб ачысьціць іржу заганаў маіх.

Дык паступай са мной паводле таго, як жадаецца Табе, ды ня кідай мяне дзеля грэшнага жыцьця майго, якога ніхто лепш, ніхто ясьней ня бачыць за Цябе.

**7.** Дай мне, Пане, ведаць тое, што трэба, любіць тое, што трэба, тое хваліць, што Табе найбольш успадобу, даражыцца тым, што дорага перад Табою, пагарджаць усім, чым брыдзяцца вочы Твае.

Не дазволь мне, *каб судзіў я паводле таго, што бачаць вочы мае, ані паводле таго, што чуюць вушы мае* (Іс 11, 3), але дапамажы, каб у судзе сваім патрапіў я найсьці розьніцу паміж рэчамі духовымі і відомымі ды каб заўсёды імкнуўся шукаць волі Тваёй і таго, што Табе ўспадобу.

**8.** Мыляюць часта людзей у суджэньні іхнія пачуцьці, абманваюцца і тыя, што сьвет любяць, бо толькі відомым яны захапліваюцца.

Ці ж чалавек ужо лепшы таму, што іншы пахваліць яго больш, чымся ён заслужыў?

Ашуканец ашуканца, марны марнага, сьляпы сьляпога, нядужы нядужага абманвае, хвалячы яго ды яшчэ і паніжае яго хвальбою сваёю.

Бо ж які хто ёсьць перад Табою, Пане, такім будзе сапраўды і нічым болей — кажа пакорны сьв. Францішак.

## Разьдзел LI

*Трэба практыкавацца ў маленькай рабоце, калі на вялікую не хапае сілаў*

**1.** Сыне, не патрапіш заўсёды стрываць у гарачэйшым імкненьні да цноты, ані аставацца ўсьцяж на вышэйшай ступені богаразважаньня; але неабходна падчас, дзеля першароднага грэху, зысьці да нізкіх рэчаў і хоць неахвотна і з трудом несьці цяжар гэтага сапсутага жыцьця.

Пакуль валачэш з сабою сьмяротнае тваё цела, датуль будзе цяжка табе і немач будзе агортваць сэрца тваё.

Дык трэба мучыцца часта цераз гэтае цела, што ня пушчае яно цябе пастаянна аддавацца цьвічэньням духоўным ды разважаньню аб Богу.

**2.** І вось дзеля гэтага трэба спыніцца табе на працы маленькай ды вонкавай; у добрых учынках пакрапляцца; прыходу Майго і адведзінаў з цьвёрдай верай чакаць; згнанніцтва свайго і суш у сэрцы трываць цярпліва, пакуль не адведаю цябе і не асвабаджу ад усенькіх турботаў.

Бо зраблю Я гэтак, што забудзешся аб усіх клопатах сваіх і будзеш карыстацца ўнутраным супакоем.

Разгарну перад табою ніву сьвятога Пісьма, каб з вясёлым сэрцам пачаў ты йсьці шляхам загадаў Маіх.

І скажаш тады: *Цярпеньні гэтага часу нягодныя будучай хвалы, што ў нас аб'явіцца* (Рым 8, 18).

## Разьдзел LII

*Няхай чалавек думае, што ён дастойны не пацехі, але, хутчэй, кары*

**1.** Пане, нягодны я пацехі Тваёй, ані натхнення Твайго: і таму справядліва робіш, калі пакідаеш мяне бяздольнага і немачнага.

І калі б здоляў я мора сьлёзаў выплакаць — яшчэ ня быў бы годны пацехі Тваёй.

Дык нічога я ня ёсьць годны, як толькі бічаваньня і кары, бо часта і цяжка грашыў я перад Табою ды шмат у чым я вінаваты.

Вось чаму, добра памяркаваўшы, бачу, што няварты я на'т і самае малое пацехі.

**2.** Аднак Ты, ласкавы і міласэрны Божа, ня хочаш згубы стварэньняў рук Тваіх, каб паказаць багацьце дабраты Тваёй у начыньні міласэрнасьці, бо бяз ніякіх заслугаў маіх Ты хочаш пасылаць пацеху слузе свайму больш, чымся чалавеку магчыма ўцяміць.

Бо немагчыма раўняць Тваю пацеху з людзкімі ўраеньнямі.

**2.** Што зрабіў я вялікае, Пане, каб надзяліў Ты мяне нябеснаю пацехаю?

Памятую, што нічога добрага я не зрабіў, а заўсёды меў нахіл да благоцьця ды быў лянівы, каб справіцца.

Праўда гэта, і адказвацца ад яе ня буду. Калі б інакш я казаў, Ты стаў бы насупроць мяне і ня было б каму бараніць мяне.

Што заслужыў я за грахі свае, калі ня пекла ды агонь вечны?

Папраўдзе прызнаюся, бо ж варты я, сьмяяліся з мяне ды пагарджалі мною, а ніколі не пасьмею падумаць, што належу я да ліку пабожных слугаў Тваіх. І хаця цяжка мне слухаць усяго гэтага, аднак дзеля праўды прызнаюся да грахоў я сваіх, каб лягчэй заслужыць на міласэрнасьць Тваю.

**3.** Што скажу я, вінаваты ды поўны сораму?

Нямы мой язык, дык скажу толькі гэтае слова: саграшыў, Пане, саграшыў; зжалься нада мною, выбач мне, Пане.

*Пакінь мне якую часіну, каб пасьпеў я аплакаць боль свой, пакуль яшчэ траплю без павароту ў цёмную зямлю, атуленую імглою сьмерці* (Ёў 10, 20–21).

Чаго ж больш жадаеш ад вінаватага і беднага грэшніка, калі не таго, каб пакутаваў ды спакарыўся за грахі свае?

У шчырым жалю ды спакорнасьці сэрца родзіцца надзея на выбачэньне, супакойваецца расьцярушанае сумленьне, варочаецца згубленая ласка, робіцца бясьпечным чалавек ад будучага гневу і ў сьвятым пацалунку сустракаецца Бог з пакутнаю душою.

**4.** Спакораны жаль грэшніка — мілая ахвяра Табе, Пане, шмат мілейшая за ўсе пахі кадзілаў перад воблікам Тваім.

Вось гэта той шматцэнны алей, якім дазволіў Ты намасьціць ногі Твае сьвятыя, бо сэрцам спакораным — ды якое пакутуе — ніколі не пагарджаеш.

Там месца ўцёкаў перад воблікам гневу ворага.

Там спраўляецца і абмываецца ўсё тое, што спляміў і папсаваў наш грэх.

### Разьдзел LIII

*Ласка Божая ня зыходзіць на тых,*
*каторым да ўспадобы рэчы земскія*

**1.** Сыне, вялікая цана ласкі Маёй і ня годзіцца яна з пабочнымі справамі ды з пацехамі зямнымі.

І таму адкінуць трэба ўсе запыны ласкі, калі хочаш карыстацца яе прысутнасьцю. Шукай зацішнага куточка, няхай будзе табе мілаю самота, ня шукай з нікім гутарак, а хутчэй да Бога пабожна маліся, каб даў Ён табе пакутнае сэрца ды чыстае сумленьне.

Няхай сьвет будзе табе нічым, а служба Богу няхай будзе табе справай найважнейшай.

Бо немагчыма адначасна Мне служыць і мець спадобу ў рэчах хуткамінаючых.

Ад знаёмых і мілых сэрцу ды ад усякага клопату аб дачаснасьці няхай будзе дух твой вольны.

Баслаўлёны Апостал Пётра кажа, што верным слугам Хрыста трымацца трэба на сьвеце, як вандроўнікам і пілігрымам.

**2.** О, з якою ж вераю ўміраць будзе той, каго сьвет нічым ня вяжа!

Нядужы розум, аднак, ня ўцяміць, як можна мець сэрца, так аддзеленае ад усяго, а чалавек цялесны не спазнае свабоды ўнутранага чалавека.

Аднак, калі хто сапраўды хоча быць духовым, трэба яму зрачыся і далёкіх, і блізкіх, і нікога больш не сьцерагчыся, як сябе самога.

Калі сябе зусім пераможаш, усім іншым лёгка завалодаеш.

Найвялікшая перамога — гэта перамагчы сябе самога.

Бо калі хто сабою гэтак завалодаў, што пачуцьцёвасьць розуму, а розум ува ўсім Мне паслухмяны — той сапраўдны пераможца сябе і пан над усянюткім сьветам.

**3.** Калі імкнешся трапіць гэтак высока, трэба мужна пачаць і сякеру да карэньняў прылажыць, каб вырваць ды выкінуць далёка скрытае, грэшнае самалюбства і нахіл да асабістага і пачуцьцёвага дабра.

Ад таго, што чалавек грэшна самога сябе любіць, залежыць амаль усё тое, што перамагчы і выкараніць трэба; дык гэтую загану, гэтае галоўнае зло перамогшы і падбіўшы, настане ў душы вялікі супакой і цішыня заўсёдная.

Але мала ёсьць такіх, каторыя стараюцца цалкам высвабадзіцца ад сваіх нахілаў і памерці самым сабе, і таму людзі звычайна бываюць расьцярушаныя ў сабе самых ды не патрапяць падняцца над сабою духам.

А таму, хто імкнецца верна Мяне насьледаваць, неабходна, каб усе благія ды грэшныя ўчуцьці свае замарыў ды ня любіў нікога зашмат зямною любоўю.

*Працяг будзе.*

# НА ВАРЦЕ ВЕРЫ

## Асоба ксяндза Станіслава Жука, непахіснага святара часоў праследу рэлігіі ў Беларусі

*У 80-ю гадавіну святарскага пасвячэння і 25-ю гадавіну з дня смерці*

### Шчырая малітва і ахвярная праца ў жыцці святара

*«Ты будзь цвярозы ва ўсім, вытрымлівай зло, здзейсні справу прапаведніка Добрай Навіны, споўні сваё служэнне»* (2 Цім 4, 5).

У лістах ксяндза Станіслава Жука вельмі часта з'яўляецца просьба аб малітве, каб праца, нягледзячы на абмежаваныя магчымасці, прыносіла плён дзякуючы Божай міласэрнасці.

У лісце ад 16 лістапада 1962 года ён дзяліўся сваімі сумнымі думкамі: «*Магчымасці для працы паволі, але пастаянна абмяжоўваюцца. Дапамогі чакаць няма ад каго. Робім, што можам. Горш, што рэлігійная абыякавасць пашыраецца і ўсё больш паглыбляецца. Атмасфера, у якой жывуць людзі, робіць сваю справу. Наш уплыў зведзены да мінімуму. Напэўна, найбольш мы можам зрабіць малітваю і прыкладам*» (Д. Ж.).

Шчырая малітва кс. Станіслава цесна злучалася са шчыраю святарскаю паслугаю. Па маёй просьбе ксёндз дакладна апісаў, як выглядаюць яго будні дзень і праца ў святочныя дні. Я была яму вельмі ўдзячная, бо паступова ў розных лістах ён выконваў маю просьбу.

Найперш у лісце ад 23 жніўня1963 года ён распавёў пра будні дзень. «*Дасылаю табе распарадак звычайнага жыцця. Гэта такое звычайнае шэрае жыццё, таму маю вельмі нязначныя дасягненні, часткова з-за ўмоваў, а ў большай ступені, здаецца, і па маёй віне. Распарадак дня мяняецца летам і зімою. Я ўстаю заўсёды ў той самы час: летам каля пятай гадзіны, а зімою ў 5.30. Паўгадзіны — і я ўжо гатовы, іду да Пана. Там найперш распачынаецца асабістая размова з Богам, потым розныя малітвы, Брэвіярый, падрыхтоўка да св. Імшы. Усё перад табэрнакулюмам, на прыступцы алтара, збоку, дзе чытаецца Евангелле, — тут маё сталае месца. Перад Імшою звычайна спавядаю. Летам а 7-й, зімою а 8-й гадзіне праводзіцца св. Імша. Сакрыстыянін прыходзіць толькі па нядзелях і святах, таму ў буднія дні я выконваю яго фунцыі. Пасля св. Імшы наводжу парадак на алтары і зноў іду на сваё месца, каб падзякаваць Богу. Калі не трэба ехаць да хворых, заканчваю брэвіярную і іншыя малітвы, па пятніцах праводжу Крыжовы шлях і вяртаюся дадому (9.30–10.30). Гатую сабе ежу, прыбіраю ў хаце. Калі клічуць да хворых, то еду пасля падзякі. А 14-й гадзіне зноў наведваю Пана. Анёл Панскі, Нешпары, частка Ружанца (на гэта гадзіна часу). Вяртаюся і працягваю далейшыя справы, часам прымаю наведвальнікаў і інш. Штодня ўвечары недзе паўгадзіны (пасля заходу сонца летам, зімою пасля 19.00 ) у касцёле праводзіцца вячэрняе набажэнства (вячэрнія малітвы, літанія, благаслаўленне Найсвяцейшым Сакрамэнтам, вячэрняя песня). На гэта прыходзіць пару, часам і некалькі чалавек. Выходжу на набажэнства амаль на гадзіну раней, каб быў час прачытаць Брэвіярый і іншыя малітвы. Перад выходам гатую і спажываю другі раз ежу. Пасля набажэнства яшчэ крыху размаўляю з Панам, зачыняю касцёл — і дадому. Летам я адразу кладуся спаць, бо гэта ўжо 11-я гадзіна, а зімою вечары асабліва прыдатныя для чытання, падрыхтоўкі казанняў, напісання лістоў. Прыкладна так выглядае будні дзень. У нядзелю і святы пачынаю і заканчваю дзень так, як і ў буднія дні, з працаю інакш. Зімою праводжу ватыўную св. Імшу а 10-й, суму — а 13-й гадзіне. Перад ватыўнаю св. Імшою спавядаю, потым спяваецца суплікацыя, благаслаўляю Найсвяцейшым Сакрамэнтам, прамаўляю казанне. Пасля набажэнства прымаю наведвальнікаў, адбываецца споведзь або малітва. Адразу пасля сумы чытаюцца Нешпары (у маі, чэрвені, кастрычніку праводзіцца Марыйнае, чэрвеньскае або ружанцовае набажэнствы), потым хрышчу дзяцей; калі ёсць патрэба, у сакрысты арганізуецца спеўка; нарэшце маю крыху часу на малітву на сваім месцы; дадому вяртаюся а 16-й гадзіне.*

*Заканчэнне. Пачатак у 2.*



Ксёндз Станіслаў Жук. 1964 г.

*Летам, г. зн. з 1 мая да 1 кастрычніка, у нядзелю і святы нам дазволена праводзіць набажэнствы раніцаю да 10-й і ўвечары да 8-й гадзіны. Мы ўрачыста адзначаем першыя пятніцы месяца, пасля св. Імшы абвяшчаецца навучанне, потым — выстаўленне Найсвяцейшага Сакрамэнту і спяваная літанія. Вось такі распарадак дня ў дзядзькі»* (Д. Ж.).

У гэты распарадак дня ўваходзіла таксама ўся хатняя праца: прыбіранне, гатаванне, мыццё бялізны і г. д. Толькі ў 1977 г., аслаблены пасля хваробы, кс. Станіслаў павінен быў адмовіцца ад гэтых заняткаў. Ён радаваўся з таго, што цяпер мае больш часу для чытання, бо адна парафіянка прыносіла яму абеды, а другая — прыбірала.

Даволі шмат часу займаў таксама рамонт і яго любімы занятак — выпільванне лобзікам арнаментаў з дрэва для свайго касцёла, а таксама для іншых касцёлаў, знішчаных падчас вайны.

Разважанні пра Вялікі пост, пра падрыхтоўку да Вялікадня ў яго лістах былі асабліва кранальнымі і поўнымі святарскага клопату. Ён пісаў пра свае сумныя і радасныя перажыванні: «*Святы для мяне прадвяшчаюць смутак. Замерзлыя і скамянелыя сэрцы, як тая зіма на двары, скутая марозам. Полымя любові Езусавага Сэрца, адкрытага нават у муцы, не можа іх адагрэць і ўзрушыць. Лёгка здагадаешся, што я адчуваю»* (Ліст ад 18.3.1964 г.).

Наступны ліст ад 24 сакавіка1964 года быў напісаны ўжо з іншым настроем. «*Перад святамі было сумна, але не безнадзейна, усё так па-Божаму. Спакойна рабіў, што трэба было зрабіць, пакідаючы астатняе на Пана. Пачаліся яшчэ большыя маразы і мяцеліцы. Вакол касцёла намяло снегу, таму пра працэсію з Уваскрослым Хрыстом не было чаго і марыць. Маліўся і чакаў. Найперш пачалі адтайваць чалавечыя сэрцы і імкнуцца да пакаяння. Не было ўжо чаго скардзіцца на недахоп працы. Потым пацяплела і снег пачаў таяць.*

*Колькасць наведванняў ва ўсе дні і ночы майго чування была вельмі вялікая. Усё складвалася выдатна. Як жа цудоўна даверыцца Найдабрэйшаму і Усемагутнаму Пану! Пасля вялікапоснага суму з'явілася вялікодная радасць. Сапраўдная радасць. Аллелюя!»* (Д. Ж.).

У наступным годзе я атрымала ў лісце вельмі дакладнае апісанне Пасхальнага Трыдуума.

*«Пачатак посту быў зусім несуцяшальны — сапраўднае беспрацоўе. Святарам нельга было з'язджаць, кожны павінен быў асабіста абслугоўваць сваю аўчарню, а людзі па звычцы пачалі ісці толькі на пятым тыдні посту. У Пальмовую нядзелю я спавядаў ад світання да 18.30, з перапынкам на набажэнствы. У панядзелак, аўторак і сераду — раніцаю і ўвечары, а ў астатнія дні з 15-й да 20-й гадзіны. У Вялікую суботу спавядаў усю ноч. Я быў цалкам задаволены гэтымі днямі.*

*Шмат радасці і, напэўна, карысці прынеслі начныя чуванні ў чацвер, пятніцу і суботу. Я палюбіў начныя чуванні яшчэ калі быў семінарыстам. У Свянцянах у Вялікую пятніцу перш чым закрыць касцёл, я пайшоў на адарацыю да гроба Пана. І так мне стала сумна і прыкра, што праз хвіліну патушаць свечкі, усе разыдуцца, зачыняць касцёл і пакінуць Пана аднаго, як калісьці падчас мукі. Узгадалася: „Сымоне, спіш? Ты не мог чуваць адной гадзіны?" Я звярнуўся да дэкана з просьбаю, каб ён дазволіў мне адараваць усю ноч. Дазволіў. Адразу ж сабраў ахвотнікаў для адарацыі. І гэта быў пачатак. Я штогод наладжваў чуванні каля Пана ў Свянцянах, калі быў клерыкам, пасля рабіў гэта як вікарый, а калі стаў самастойным гаспадаром у парафіі, тым больш падтрымліваў гэтую традыцыю. І так на працягу ўсіх гадоў святарства, за выключэннем гадоў акупацыі. З-за таго, што не ўсе ведалі, што рабіць з часам, ноччу я праводзіў набажэнствы: песні жальбы, Ружанец, адарацыю перапрашэння, паміж гэтымі часткамі спяваліся песні. Вядома, заставаліся вельмі пабожныя людзі. У чацвер і пятніцу заўсёды прыходзіла сто чалавек, у Вялікую суботу — яшчэ больш. Раніцаю, а 6-й гадзіне, бег дадому, каб некалькі гадзінаў падрамаць, потым вяртаўся, маліўся па Брэвіярыі і*

*ў 15.00 пачынаў спавядаць. У нядзелю, а 6-й гадзіне, калі ў касцёле збіралася шмат людзей, распачыналіся Гадзінкі, а 7-й — рэзурэкцыя, асвячэнне ежы, а потым людзі разыходзіліся па дамах. Я заканчваў споведзь, узносіў падзяку Богу і а 12-й гадзіне пачынаў другую св. Імшу, Нешпары. Урэшце і ў мяне пачыналася свята, я вяртаўся ў свой палац пад страхою, каб падмацаваўца свянцоным»* (Ліст ад 20.4.1965 г.; Ліст ад 30.4.1963 г.).

У наступныя гады кс. Станіславу Жуку дадалося абавязкаў, бо трэба было заняцца таксама асірацелаю парафіяй у Даўгінаве.

Вось урывак з ліста ад 11 мая 1967 года: *«Найцудоўнейшыя дні — 16 сакавіка і Вялікдзень. 16 сакавіка была велікодная споведзь у „сіротаў“. Я пачаў каля 8-й гадзіны, бо так прыходзіць аўтобус. Спавядаў увесь дзень аж да паловы на трэцюю наступнага дня. Перапынак быў толькі на св. Імшу а 13-й гадзіне, на Крыжовы шлях і на другую св. Імшу, цэлебраваную а 19-й гадзіне. Людзі не разыходзіліся, цярпліва чакалі. Многія з іх прыбылі здалёк і ноччу вярталіся дадому. Гэта было сапраўднае і шчырае пакаянне. А палове на чацвёртую дабраўся дадому на грузавіку. Іншы найцудоўнейшы дзень — Вялікдзень. Я спавядаў усю ноч. У маёй парафіі рэзурэкцыя была а 7-й раніцы, потым ізноў паехаў да „сіротаў“. У дарозе не ўдалося падрамаць, бо везлі занадта хутка. Там а 11-й гадзіне ўсё пачалося спачатку. Потым мяне чакала адна хворая ў сакрыстыі, а да другой — трэба было ехаць за 7 кіламетраў апоўдні. Вярнуўшыся ад хворай, паспавядаў 20 цярпліва чакаючых чалавек і паспеў на аўтобус, які ўжо стаяў на прыпынку, у 17.00 быў ужо дома. У самоце спажыў сваю сціплую асвячоную ежу, правёў вячэрняе набажэнства і ўзяўся за Брэвіярый»* (Д. Ж.).

Пра дні вялікай працы з нагоды розных урачыстасцяў кс. Станіслаў распавядаў таксама і ў лістах да Яўгеніі Твардаш.

У лісце ад 12 лістапада1966 года ён піша: *«Урачыстасць Хрыста Валадара, а перад гэтым вігілія Усіх Святых, г. зн. падрыхтоўка вернікаў да збірання адпустаў за душы памерлых. Да споведзі 30 кастрычніка і 1 лістапада было столькі людзей, што закончыў толькі ўвечары. Потым вячэрняе набажэнства, Брэвіярый і толькі пасля снеданне і дэсерт (лісты). 2 лістапада закончыў працу каля чацвёртай гадзіны. Я зусім не паспеў перадыхнуць і ў суботу паехаў да „сіротаў“. Там ізноў адпусты, споведзь у суботу доўжылася да позняга вечара, а ў нядзелю — увесь дзень аж да выезду дадому. У дадатак да гэтага былі набажэнствы, казанні, 16 дзяцей да хросту, шлюб і іншае. І так увесь дзень без перапынку. Перад ад'ездам мяне накармілі за ўвесь дзень, у 22.15 я быў ужо дома, задаволены, але цалкам знясілены. Распачаў выпякаць аплаткі, каб не пакідаць на апошнія дні»* (Я. Т).

Такіх апісанняў цяжкай працы было шмат у лістах, у канцы кс. Станіслаў заўсёды дадаваў: *«Не хапае мне сілы для больш плённай працы і дзейнасці. Звычайна тады я выдатна сябе адчуваю. Хвалюе не тое, што шмат працы, а тое, што чалавек павінен спяшацца, калі гэта зусім непатрэбна»* (Д. Ж. Ліст ад 11.4.1967 г.).

Парафіяльны адпуст і сакрамэнт канфірмацыі сталі чарговаю нагодаю для поўнага аддання святарскаму служэнню.

*«Дзень адпусту ў асіроцелай парафіі вельмі напружаны: шматгадзіннае спавяданне аж да позняга вечара, Марыйнае набажэнства, св. Імша і працэсія. На заканчэнне пахрысціў 29 дзяцей. У „сіротаў“ на Божае Цела буду ўдзяляць сакрамэнт канфірмацыі ( у маёй парафіі канфірмацыя была на Спасланне Духа Святога). Перад гэтым будуць доўгія гадзіны споведзі, бо некаторыя мелі магчымасць паспавядацца толькі перад вайною»* (Д. Ж. Ліст ад 12.5.1966 г.).

*«Дзень канфірамацыі ў „сіротаў“ быў асабліва напружаным, бо трэба было змясціць усё ў адзін дзень. Я пачаў 8 чэрвеня ў 14.30, працаваў без перапынку ўсю ноч і наступны дзень. З нагоды бежмавання Дух Святы прыслаў вельмі шмат такіх, каго Божая Міласэрнасць чакала шмат гадоў, часам нават па 20–30 гадоў. І гэта відавочны вынік вашай малітоўнай падтрымкі»* (Д. Ж. Ліст ад 1.7.1966 г.).

У лістах ксёндз Станіслаў Жук прасіў аб малітоўнай падтрымцы, але і сам перадусім ён быў святаром шчырай малітвы. У апісанне вігілійнага вечара ён дадаў разважанне, поўнае вялікага супакою і радасці, якія вынікаюць з малітвы. Прывяду два ўрыўкі з лістоў, напісаных у 1965 і 1972 гадах. Яны могуць быць сведчаннем яго жыцця малітваю.

*«На вячэрнім набажэнстве мяне чакаў прыемны сюрпрыз: людзей сабралася больш, чым звычайна. Пасля набажэнства я затрымаўся, каб праз Сэрца Збаўцы і рукі Марыі перадаць віншаванні блізкім мне людзям і прывітаць іх. У вельмі добрым і цудоўным настроі я вярнуўся дадому. Запаліў у печы і сеў за сваю самотную вігілійную вячэру, каб яшчэ раз у думках і ў сэрцы паяднацца з дарагімі і любімымі мне людзьмі. Я адчуваў моцную блізкасць да ўсіх вас, а асабліва да Найсвяцейшых Сэрцаў, таму сва-*



Ксёндз Станіслаў Жук. 1976 г.

*ёй самотнай вігіліі не замяніў бы ніякаю іншаю. Я адзін сядзеў за сталом, але ў сэрцы было шмат супакою, радасці і сапраўднага шчасця. Напаўголасу я заспяваў "Ціхую ноч", бо сапраўды гэта была ціхая і святая ноч навокал і ў маёй душы. У такім узнятым і радасным настроі прайшлі ўсе святы, якія я сустракаў пераважна ў касцёле. Так што не застаецца нічога іншага, як дзякаваць за гэта Дайцу спакою і радасці. У касцёле было поўна людзей, і гэта дню працы цалкам адпавядала. Дзякую Богу за ласкі»* (Д. Ж. Ліст ад 20.1.1965 г.).

*«Свой вігілійны вечар на працягу многіх гадоў я праводжу заўсёды ў адзіноце, але ён не сумны, а поўны ціхай радасці. Пасля вячэрняга набажэнства я даўжэй затрымліваюся ў касцёле на размову з Панам, такім блізкім і такім рэальна прысутным. Спачатку я перажываю Яго нараджэнне, Яго прыйсце, тады так шмат хочацца сказаць Яму словаў праслаўлення, падзякі, прабачэння і просьбаў за сябе, сям'ю, сяброў, за парафіянаў і асірацелыя парафіі, за адзінокіх, за церпячых... Колькі ж розных ласкаў усім патрэбна! На самай справе цяжка закончыць гэту самотную размову. Потым іду дадому і распачынаю вігілійную вячэру, яна заўсёды вельмі бедная і сціплая, але не надаю гэтаму вялікага значэння. У мяне няма часу і жадання, каб прыгатаваць штосьці лепшае. Хіба сэнс толькі ў гэтым? Найперш у думках я дзялюся аплаткаю з усімі, потым у цішыні перажываю з усімі іх вігілійныя вячэры. І толькі пасля доўгага падарожжа вяртаюся ў рэчаіснасць, спажываю тое, што даў Бог. Крыху малітвы, некалькі гадзінаў адпачынку і зноў да працы, якая адначасова з'яўляецца малітваю. Калі атрымаю дазвол, то маю намер цэлебраваць чатыры св. Імшы — дзве тут і дзве ў „сіротаў", бо ў гэты дзень прыйдзе шмат такіх, хто вельмі рэдка бывае ў касцёле»* (Д. Ж. Ліст ад 5.12.1972 г.; падобны ліст дасланы Я. Т. 18.1.1964 г.).

*«Калісьці шукаў спакою, музыкаю хацеў палепшыць сабе настрой, а цяпер знаходжу яго толькі перад табэрнакулюмам. Ужо толькі тут яго шукаю і знаходжу лек ад усяго. Толькі ў гэтым атрымліваю карысць. Магчыма, менавіта пазбаўленне ад музыкі больш прывязала мяне да табэрнакулюма. Цяпер тут маё самае любімае месца. Вось чаму я часта тут бываю»* (Я. Т. Ліст ад 26.3.1963 г.).

Пра сваю ўдзячнасць Богу, які шчодра адорваў яго ласкамі, кс. Станіслаў пісаў маёй сяброўцы: *«Не буду ўтойваць (гэта пакрыўдзіла б Пана), што Бог у сваёй неспасцігальнай дабрыні адарыў і пастаянна адорвае мяне шматлікімі ласкамі. Па-першае, Ён адарыў мяне сапраўды незвычайнымі і рознабаковымі здольнасцямі. Па-другое, удзяліў і ўдзяляе мне незвычайныя ласкі і дапамогу. Я не раз распачынаў розныя безразважныя і нерэальныя справы (калі глядзець з чалавечага пункту погляду), а Бог заўсёды даводзіў іх да шчаслівага канца. Па-трэцяе, на працягу ўсяго жыцця Ён атуляў мяне сваёю асаблівою, нават выключнаю, апекаю. Калі гляджу на сваё жыццё, бачу няспынную незвычайную апеку нада мною і незвычайнае кіраванне ўсім. Я магу і павінен пастаянна паўтараць: „Пане, Ты даў мне ўсё, што мог даць"»* (Я. Т. Ліст ад 2.11.1964 г.)

Завяршэннем успамінаў пра працу і малітву святара ў цяжкіх місійных умовах стануць яго словы: *«... Гэта праца зусім іншая, яна са звышнатуральнай сферы, а таму надзяленне сілаю і дапамогаю таксама зусім іншыя. Інакш таксама выглядае адпачынак, напрыклад, перад табэрнакулюмам. Гэта падобна да таго, што адбылося са змучаным і галодным Настаўнікам каля Якубавай студні, калі Ён сказаў, што мае іншую ежу і іншы адпачынак. Таму фізічна я адчуваю сябе лепш тады, калі ў мяне вельмі шмат працы. Напэўна, тут дзейнічае не наш, а Божы план»* (Д. Ж. Ліст ад 8.6.1970 г.).

*Пераклад з польскай мовы Іны Ламакі.*
*Паводле выдання «Na straży wiary»,*
*Ломжа, 2006.*

Мар'ян ДУКСА



Мар'ян ДУКСА — паэт. Нарадзіўся ў 1943 г. у вёсцы Каракулічы на Мядзельшчыне. Закончыў філалагічны факультэт БДУ. Выдаў зборнікі вершаў «Спатканне», «Крокі», «Станцыя», «Прыгаршчы суніц», «Забытыя словы», «Зона супрацiўлення», «Твая пара сяўбы», «Заснежаныя ягады», «Горн прымірэння», «Прыйсці да алтара». Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова. Жыве ў Солах, на Смаргоншчыне.

# Маліцеся за нас, усе святыя

* * *

Маліцеся за нас, усе святыя,
каб не згубіліся ў жыццёвым карнавале,
каб нас не абступілі дні пустыя,
каб высілкі ў душы не высыхалі.
Маліцеся... Якое суцяшэнне —
прыўзняцца ўверх, узвысіцца на горцы.
Каб кожная хвіліна — набліжэнне,
чарговы крок, зямны парыў да Створцы.
Маліцеся... Няхай душа жывая
крыляе ўверх і свой маршрут не зменіць.
Нябеснае святло мы спажываем.
Як хочацца святло нам выпраменьваць.

* * *

Без гонару і пыхі
на што ты пагадзіўся —
успыхнуць ці не ўспыхнуць,
калі ўжо нарадзіўся?
І можна весці спрэчку,
дзе твайго шчасця знакі —
калі гарыш, як свечка,
ці палыхнеш, як факел.
Святло на ўсю радзіму
альбо цішком свяціся...
Ах як, ах як без дыму
усё-ткі абысціся?
Душа ці больш ці меней
ці ззяла ці курэла —
абы тваё праменне
хоць некага сагрэла.

* * *

Без Цябе, Езу, цёмна-цёмна,
Без Цябе і пустэльна, і глуха,
адчуванне, што кожны бяздомны,
а навокал — холад і скруха.
І зачынена ўсё, занавешана,
і згусцілася цемра на свеце.
Без Цябе нават ясныя вершы
мне ніводнаю думкай не свецяць.
Ты заўваж нас спагадлівым вокам,
узваруш нашу шэрую сцятасць.
Разнавесь нашы сумныя вокны —
хай успыхне, як сонейка, радасць.

* * *

Слова прытульнае «міласць»,
не патыхае трывогаю.
Божая справядлівасць
сэрца крыху палохае.
Скуль яны, нашыя страхі,
розуму непадуладныя?
Мусіць, нябесныя вагі
вельмі дакладныя.
Кожны учынак нявінны
зверху заўважаны.
Нават малыя правіны
будуць паважаны...
Хто ж палічыў у Стварцы
ласкі бязмернасць?
Можа, такая, як сонца,
Божая міласэрнасць?

* * *

Як рана тут прыходзіць вечар.
Гадзіннік спавясціць адбой.
Асядзе цішыня, як вечнасць...
Дамок самотны, я з табой.
Як дожджык, капаюць хвіліны,
хто скажа, будзе дзень калі.
Вясны далёкай успаміны
падушку ўсю абвалаклі.
Гады зляцелі і паснулі —
з трывогай, працай і мальбой.
Сястра бяссонніцы — бабуля,
ты не тужыся,
я з табой.
Твае пакінутасць і горыч —
яны мае. Я даў зарок
заўсёды быць з табою побач —
мая душа непадалёк.
Ноч прытулілася да плоту,
і дрэмле месяц над вярбой...
Засні ж, людская адзінота.
Хіба адна ты?
Я з табой.

* * *

Якія ні шалеюць тут вятры,
якi віхор ні праляціць абвальны,
аднак на схіле кручанай гары
стаіць заўсёды дрэва вертыкальна.
Стаіць, пакуль не згіне ў забыцці...
Адкуль яно ў сабе знаходзіць сілу
ні ў якім разе ўгору не расці,
згінаючыся паралельна схілу?
І мець такі зайздросны проста лёс,
каб, стойкі ствол выцягваючы ў струнку,
беспамылкова ўгадваць высь нябёс —
інакшага не ведаць накірунку!

* * *

Нібы ў букеце пахкім паяднанне
пялёсткаў руж —
такое ж цеснае судакрананне
дзвюх блізкіх душ.
Судакранаюцца, каб устрапянуцца,
і шчасця — досць.
Наблізіцца, аддана прыгарнуцца
магчымасць ёсць.
Мы вырулім, калі пакліча вырай,
з нябесных ям.
У нас не два крылы, а ўсе чатыры —
паслужаць нам.
Дзень, як і лёс, ужо зусім не слотны.
Ты не на дне.
Ва ўсім сусвеце быў такі самотны.
А зараз — не.

* * *

Пераліванне крыві — нібы падарунак
тым, хто ледзьве ліпіць на свеце.
Пераліванне крыві — адзіны ратунак,
калі ўжо іншыя лекі не свецяць.
І з лёсам змагацца няма ўжо сэнсу,
хоць мары пакуль што твае не збыліся.
Чужая кроў прыходзіць у сэрца,
настойліва сэрцу загадвае: біся!
Калі ж высыхае кволая вера,
з рук выслізнуць нам пагражае збаўленне,
пераліванне душы — апошняя мера,
каб не пажаць заняпад і змарненне.
Падыхаць душой, дзе любоў не пагасла,
дзе грае, як лёгкая музыка, згода,
падыхаць душой — той, дзе цёпла і ясна,
калышацца лісцікам мяккім лагода.



Алесь ЧОБАТ — паэт, перакладчык. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Скідзелі. Скончыў Беларускі тэхналагічны інстытут у Мінску. Працаваў канструктарам, журналістам, навуковым супрацоўнікам. Аўтар кніг «Год», «Новая Галілея», «Ты не самотны...», «Край мой шчаслівы», «Крэсы» і шматлікіх гісторыка-псіхалагічных эсэ, апавяданняў, хронік і біяграфій. Належыць да Саюза беларускіх пісьменнікаў і Міжнароднага ПЭН-клуба. Жыве ў Скідзелі.

Алесь Чобат

# Калядная кроніка Чорнай і Белай Русі

I.
пад ялінкаю хацінка
над ялінкай аблачынка
невядомая сцяжынка
ў невядомы лёс і час

так было на свеце з кожным
як пры Нараджэнні Божым
светла ціха пераможна —
так жыла Надзея ў нас

потым год ішоў за годам —
і Любоў ішла гародам
і гуляў народ з народам
на вяселлях — як на смерць

потым старасць у самоце
як збанок дурны на плоце —
гінуць людзі на балоце
хто не ўмее Веру мець

II.
любі Маці сына
чакай Маці сына
адзінага ў свеце
адзінага ў свеце
Пасланага Сына

на шчасце і гора
на шчасце і гора
на рай і здзіўленне
на Край на Збаўленне
пяройдзе Сын мора

усім Сын парадзіць
а люд Яму здрадзіць
на крыж на расправу
Яго — не Вараву! —
ў дарогу наладзіць

вішчыць люд і вые
Пілат рукі мые —
канец вашай справе
мужыцкай забаве
цяпер — гніце шыі

народ дурняў родзіць
Хам дзеліць і жондзіць —
тры дні так гулялі
пілі балявалі
жылі — як гулялі

а потым знямелі
аж вочы здубелі —
адвалены камень! —
і ў Неба на амэн
сляды Сына ў белі

III.
Белы дзень замяце
тое чорнае злое былое
тыя думкі і ўчынкі
з якіх адны попел і дым
снег і вецер пасеюць
адно спадзяванне малое
і той вернецца час
калі быў гэты свет маладым...

Тая непагадзь светлая
тая наўкол завіруха
як спрадвечны хаос
і пачатак далінаў і гор
і няма яшчэ долі
няма ані кола ні круга
толькі чыстая пустка
і звонкі бяздонны прастор...

Белы сон зацярушыць
як страчаны розум зблуканы
так згубіўся і выжыў
ты сам — і цяпер за табой
тыя зло і дабро
перажыты той свет апантаны
а цяпер белы дзень
светлы дзень у краіне такой...

IV.
прашу Цябе — няхай нас лёс міне
перакаціся сэрцам да мяне
і будзь ізноў шчаслівай Пані тою
як Ты была адзінай і святою
пры тым стварэнні свету на зямлі
калі мы ў Чыстым Лузе ўдвух былі

няхай Табе луг ножак не намуліць
няхай Цябе сам Бог рукой патуліць
а я з уздыхам збоку пагляджу —
няхай пажоўклы свет зазелянее
і прыйдуць Вера Міласць і Надзея
а смерць адступіць
за сваю мяжу...

V.
з краіны далёкай дзе светлы Рай
да нашай Краіны Ценю
едзе на санках святы Мікалай
цягнуць санкі алені

цвітуць райцэнтры і Мінск залаты
блішчаць ліхтары і крамы
але заварочвае наш святы
проста да нашай брамы

стаў і расшпільвае санкі сам
і справядліва дзеліць —
грошай мяшок падае бацькам
торбу цукерак дзецям

і пакідаюць след за сабой
не санкі таго святога
а радасць спакой і прасветлы боль
з подыхам Пана Бога

з краіны далёкай дзе светлы Рай
па нашай Краіне Ценю
едзе на санках святы Мікалай
цягнуць санкі алені

VI.
вось і белая зорка стаіць над зямлёй
і анёлы за кожным прыйшлі — і за мной
у краіну гародаў загонаў заплоткаў
паміж хатаў магілаў маіх аднагодкаў

але ўжо спакой — як звон
нас не будзе — народзіцца Ён

Бог навечна выбраў Марыю —
Бог не кіне на страшны час
няхай мы дурныя старыя —
свет не скончыцца пасля нас

вось і белая зорка стаіць над зямлёй
і анёлы з нябёсаў прыйшлі — як за мной
і нячутны спакой — як звон
нас не будзе — народзіцца Ён

VII.
так нараджаецца Новы Свет
сотні зімаў і сотні лет —

так ідуць да калыскі з паклонам
Тры Каралі і калумбаў мільёны

у той дзень найкароткі
калі забракне душам святла
і перасоўваецца мяжа цяпла
з Поўначы ў Поўдзень —
да Палестыны
так нараджаецца Новы Свет
і вочы перастаюць быць пустымі
і ажываюць жывыя
пад скурай страху...

Край мой шчаслівы
збіраецца жыць...

Ціхая ноч светлая ноч
месяц свеціць ясна дрыжыць...

Божа Ты з намі — цяпер і тут

Ціхая ноч светлая ноч...

*15.12.2010.*

# Віктар Вабішчэвіч



Віктар ВАБІШЧЭВІЧ — паэт, настаўнік гісторыі і грамадазнаўства ў СШ № 1 Давыд-Гарадка. Нарадзіўся ў 1960 г. у вёсцы Рубель Столінскага раёна. Скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працаваў намеснікам дырэктара школы, дырэктарам Арлоўскай сярэдняй школы на Століншчыне. Выдаў зборнікі вершаў «Чорны боль», «Кахаю і люблю», «Уражанне». Аўтар многіх артыкулаў па праблемах гісторыі і культуры Беларусі.

**Адвольны псальм**

На струнах песенных святога пачуцця,
Ва ўсім, што дорага нам з нашага жыцця,
На струнах тоненькіх дрыготкага ліста
Давайце разам будзем славіць мы Хрыста!

На розных мовах, і памерлых, і жывых,
У словах, справах ці то ўчынках незямных
Спявайма дружна, так, каб знікла глухата,
Давайце разам будзем славіць мы Хрыста!

Па нотах звыклых, незвычайных і святых,
У рытмах плаўных і няўмерана крутых
Спявайма шчыра — хай адступіць немата.
Давайце разам будзем славіць мы Хрыста!

У гонар Пана, для збаўлення ўсіх людзей,
І проста так, не праяўляючы надзей,
Спявай, Сусвет, — няхай пануе дабрата.
Давайце разам будзем славіць мы Хрыста!

**Мы прасілі**

Мы прасілі ў Бога шчасця,
Чалавечага, зямнога, —
Каб нідзе ў жыцці не ўпасці,
Каб у рай вяла дарога.

Мы прасілі ў Бога хлеба,
Дыяментаў і багацця, —
Каб ва ўсім спрыяла неба
І дастатак быў у хаце.

Мы прасілі ў Бога ласкі —
Для сябе, для нашых блізкіх, —
Каб жыццё было як казка —
Ад пачатку, ад калыскі.

Мы прасілі ў Бога сілы,
Наймацнейшага здароўя, —
Каб узносілі нас крылы,
Каб прымалі ўсё з любоўю.

Мы заўсёды шмат жадаем
І ўсяго хацелі многа...
А калі ў сябе спытаем,
Што зрабілі мы для Бога?

**Ля касцёла цудадзейная крыніца**

Ля касцёла цудадзейная крыніца —
Кожнаму дастанецца глыток.
Прагнуць людзі там ачысціцца, напіцца.
Кліча пілігрымаў той куток.

А вада цурчыць, бяжыць заўжды нястомна
З чыстай і спагадлівай рукі,
З таямнічых, неспасцігнутых прадонняў —
Да людзей бяжыць, не да ракі.

Там да кожнага прыходзіць спадзяванне.
Хай нам дапаможа Боскі цуд.
Хай вада нам прынясе выратаванне,
Душы хай пазбавіць ад пакут.

Ля касцёла цудадзейная крыніца —
Там не толькі новых сіл прыток —
Там пачуеш звон нябеснае званіцы,
Веры нашай чыстай там выток.

* * *

Каля касцёла ў задуменні
Стаіць, хвалюецца юнак,
Ды пад гатычныя скляпенні
Зайсці не можа ён ніяк.

Яго адолела сумненне
У тым, што трэба з Богам быць,
Што чалавеку ад з'яўлення
Ніяк без веры нельга жыць.

Сябры казалі, быццам можна
Шчаслівым быць і без Імшы,
Лавіць удачу ў дзеі кожнай —
Не трэба думаць аб душы.

Юнак ніяк не знойдзе сілы
Пераступіць за той парог,
Дзе чалавек здабудзе крылы,
І дзе яго пачуе Бог.

Ды прыйдзе час — час немінучы, —
Калі юнак увойдзе ў храм —
Пад спеў узнёслы, неўміручы
Свой паратунак знойдзе там.

* * *

Прыціх бясконцы нудны шум,
Ад стомы засынаюць дрэвы,
Знікае элегічны сум,
Птушыных не чуваць напеваў.

Вакол пануе цішыня,
Ад сэрца адступае скруха,
Дыхнула раптам цеплыня,
І я адчуў прысутнасць Духу.

Усё маўчыць — пяе жыццё.
Тут я зусім не адзінокі:
Са мною побач мой касцёл
У стылі позняга барока.

**Паданні пра крыж**

Ля ціхай рэчкі на пагорку
Здаўна стаіць каменны крыж.
Людскую чуе ён гаворку
Пра Тураў стольны і Нясвіж.

І моўчкі слухае легенды,
Якія творыць грэшны люд,
Пра тыя ж грэцкія календы,
Пра тое, што бывала тут.

Тут паўтараюць слова ў слова
Прыгожы выдуманы сказ.
У ім геройская аснова —
Відочна кніжная якраз.

Даўно забылі пра здарэнне —
Такіх на свеце не злічыць.
І не відаць вякоў тых ценю.
А крыж — пазнака іх — маўчыць.

Разгадваць будзем да магілы
Сівой мінуўшчыны сляды,
А крыж ёсць сімвал Божай сілы —
Пра гэта памятай заўжды.

Франц Сіўко

# ТРЫ РАССТАННІ

## Навела



Франц СІЎКО — празаік. Нарадзіўся ў 1953 годзе. Скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Аўтар кніг прозы «Апошняе падарожжа ў краіну ліваў», «Удог», «Ягня ахвярнае», «Дзень Бубна» і інш., шматлікіх публікацый у літаратурна-мастацкіх выданнях Беларусі. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя У. Караткевіча. Творы Ф. Сіўко перакладаліся на рускую, балгарскую, асецінскую мовы. Жыве ў Віцебску.

Усе тры гісторыі, ускосным сведкам завяршэння якіх давялося стаць на працягу аднаго тыдня, адбыліся ў розныя часы. А іх акалічнасці ўсплылі ў памяці дзякуючы радкам з верша Віславы Шымборскай. Верш пра тое, як два чалавекі, жанчына і мужчына, калісьці, а магчыма, і цяпер усё яшчэ дарагія адно аднаму, выпадкова сустрэўшыся праз колькі гадоў па расстанні ды адно аднаго не пазнаўшы ў натоўпе, прайшлі міма, каб прадоўжыць паасобку свой зямны шлях у толькі ім самім ды Богу ведамым накірунку. Простае, але адметна пададзенае паэткай назіранне так трывала засела ў маёй галаве, што, выйшаўшы ўвечары на прагулянку, я мімволі злавіў сябе на думцы, ці не пачну зараз шукаць паралеляў з прачытаным у рэальным жыцці. І толькі так падумаў, як акурат убачыў на ходніку на процілеглым баку вуліцы В.

В. быў маім студэнтам на працягу двух семестраў і нічым асаблівым з шэрагу іншых, апроч высознага, пад два метры, росту не вылучаўся. Вось толькі хіба што яшчэ закаханасцю ў Т., дзяўчыну з іншага факультэта, чаго ні адзін, ні другая не хавалі. Каханне прыгожай пары было ва ўсіх на вуснах і доўжылася гады з два. Хлопец жыў непадалёку ад мяне, і я амаль штодня бачыў закаханых у нашым мікраараёне. Неўдаваная пяшчота іх паводзінаў і паглядаў, заўсёды сплеценыя ў жарстлівай повязі рукі сумневу не пакідалі: быць ім разам да скону. Але раптам абое яны зніклі.

Зноў я ўбачыў — не іх, яго аднаго — дзесьці праз год. Пры зыбцы з немаўлём, з незнаёмаю мне маладою жанчынай. Па ўсім было бачна, што гэта сям'я. Панылаець чыталася ў ягонай паставе — ні каліва жыццярадасці веселуна, якім я яго памятаў ад дзён вучобы, ні звыклага бляску закаханага чалавека ў вачах. А неўзабаве пабачыў і Т., гэткую ж панылую і быццам нечым, як і ён, прыгнечаную. Потым зноў колькі разоў бачыў яго — чамусьці заўсёды аднаго і заўсёды не ў гуморы.

І вось… В. так гэтым разам некуды спяшаўся, так апантана шнарыў рукою ў кішэні плашча, што не заўважыў, як выслізнула з яе ды прызямлілася побач з лаваю пры прыпынку таксі маленькая, з далонь, кніжачка кшталту нататніка. Нейкая жанчына аклікнула хлопца, каб сказаць пра тое, але не паспела. Ён так хутка знік у натоўпе, што ёй нічога не заставалася, як пакласці нататнік на лаву.

І тут я ўбачыў ля лавы Т.. Яна з'явілася на прыпынку зусім неспадзеўна, быццам вырасла з зямлі ці сткалася з паветра. Тонкая, як і раней, пастава, раскіданыя па плячах валасы, самотныя вочы. Т. безуважна слізганула паглядам па кніжачцы, на імгненне прыпынілася, быццам разважаючы, ці наблізіцца, і рашуча пакрочыла да скрыжавання. Знікла яна, як і з'явілася, так нечакана, што ўся дзея нагадвала сцэну з фільма-фэнтэзі.

Я падумаў, што няблага было б вярнуць згубу гаспадару, і падышоў да лавы. Кніжачка, сапраўды, аказалася нататнікам. Яго зашмуляны выгляд сведчыў пра тое, што карысталіся ім даволі часта. На апошняй старонцы, прыладаваны зверху кавалкам ліпучкі да аркуша, ззяў шчасліваю ўсмешкай здымак былой хлопцавай каханай, якая толькі што злілася на скрыжаванні з натоўпам. Я зноў паклаў нататнік на лаву, пайшоў у краму. А калі вярнуўся на тое месца праз паўгадзіны, яго на лаве ўжо не было. Магчыма, В. таксама вярнуўся ды, шчаслівы

знаходкай, забраў яго. А можа, гэта зрабіў хто іншы: ахвотнікаў скарыстацца з чужое няўважлівасці заўжды даволі. Ды хто б там ні быў, адно дакладна: гэта была, на жаль, не яна, Т..

Другая гісторыя пачалася гадоў трыццаць таму, а пра яе працяг я даведаўся ўсё на тым жа тыдні, падчас наведання з колішнім суседам магілаў яго бацькоў і заўчасна памерлага брата-бабыля.

— Памятаеш выпадак з вінаградам і кавунамі? — спытаў, прыбіраючы з магілкі друз, сусед.

— Канечне, памятаю, — адказаў я: яшчэ б не памятаць — гісторыя так шмат у свой час спарадзіла размоваў у ласай да навінаў і плётак вёсцы.

А было так. Брат суседа, С., вучыўся ў горадзе ў аспірантуры. Ён толькі што скончыў з адзнакаю інстытут і цяпер апантана штурмаваў вышэйшыя сферы фізікі паўправаднікоў. Заняты вучобаю, дадому ён прыязджаў вельмі рэдка, і як там што ў яго складвалася на асабістым ды іншых франтах, ніхто з нас нічога не ведаў. Бацькі зрэдку пасылалі хлопцу грошы на пражыццё, ды ён шмат не патрабаваў: маўляў, стыпендыі дастаткова.

Аднаго разу, прачнуўшыся ўранні, брат нашага героя выйшаў на ганак хаты і ўбачыў пры дзвярах нешта незвычайнае: кошык, поўны вінаграду, а побач вялікі, абгорнуты сеткаю кавун.

Увесь дзень і ўсе наступныя дні сям'я разважала, што б тое магло значыць. Хто прынёс падарунак і чаму вось гэтак — употай, як крадком? Спрабавалі распытваць суседзяў, ці не бачыў хто што-небудзь, але дарэмна: таемны прэзентант быццам з неба спусціўся і знік, так і застаўшыся невядомым. Вінаград і кавун з'елі, а пра выпадак забыліся.

Тым часам С. працягваў сваю вучобу. Да бацькоў па-ранейшаму прыязджаў рэдка, а калі прыязджаў, то ўсё часцей і часцей нападпітку. І ўрэшце спіўся канчаткова. Закінуўшы навуку, уладкаваўся спачатку інжынерам на заводзе, затым, калі зялёны змей заўладаў слабою чалавечаю натураю дарэшты, перайшоў у рабочыя. Жыў доўга ў інтэрнаце, аж пакуль два гады таму не памёр ад інсульту пасля чарговай п'янкі.

— Дык распавесці, што то былі за прэзенты? — спытаў сусед і, не чакаючы адказу, працягваў: — Толькі мы С. пахавалі, як праз месяц прыязджае з горада жанчына. Так і так, маўляў, шукаю С... «Калісьці, шмат гадоў таму, прыязджала да вас, каб пазнаёміцца, ды ў хату зайсці не наважылася, а пакінула на ганку падарункі. Можа, памятаеце вінаград і кавун? То ад мяне...Так кахала, дурніца, што лепшага нічога не прыдумала, як паехаць... Не лёс быў, аднак, быць разам, ды ўсё адно кахала. Потым замуж выйшла. Цяпер во мужык памёр, адна засталася, то дай, думаю, яшчэ раз з'езджу, хоць дазнаюся, як ён ды што...» Прывезлі з жонкаю яе сюды, на магілкі. Пастаялі, паўспаміналі. Запрашалі застацца на колькі дзён — адмовілася. Увечары на цягнік яе праводзілі. «Шкадуеце, што ехалі?» — спытала жонка. — «Барані Бог, ані! — адказала рашуча. — Што вы: адзінае, што добрага мела ў жыцці, — і шкадаваць?»

Пра скканчэнне трэцяй гісторыі распавяла мне стрыечная сястра праз два дні пасля наведання з суседам могілак. Больш чым простая на першы погляд, яна, аднак, быццам падводзіла рысу пад дзвюма папярэднімі і, дарэчы, яскрава абвяргала даволі распаўсюджанае меркаванне пра вясковых людзей як пра істотаў без здольнасці да глыбокіх унутраных перажыванняў.

Сям'я Л., нашых суседзяў-аднавяскоўцаў, распалася сорак пяць гадоў таму. Распалася нечакана і неяк па-дурному: ён нібыта здрадзіў ёй па п'янай лавачцы, а яна не даравала. Ён кудысьці з'ехаў, і больш яны ні разу не бачыліся. Адзіным знакам ягонай прысутнасці ў жыцці былой жонкі сталі грошы на дзяцей, якія ён рэгулярна прысылаў ёй па пошце.

Прайшло амаль паўвеку. Жанчына выгадавала, вывучыла дачку і сына, а ў семдзесят пераехала дажываць век да іх у горад.

І вось — ліст ад *яго*. Маўляў, не дзеля таго пішу, сямідзесяціпяцігадовы зух, табе, сямідзесяцігадовай маладзіцы, каб штось прасіць ці на нешта скардзіцца, а дзеля таго толькі, каб сказаць: любіў цябе ўсё жыццё і з любоўю гэтай апошнюю сваю хвіліну стрэну. Можаш дараваць — даруй, а не — і так сыду, балазе, і пахаваць, і аплакаць ёсць каму. Прачытала кабеціна той ліст ды і быццам выкінула (так прынамсі сказала дзецям) у сметніцу. А калі памерла — знайшлі яго ў вузельчыку пад матрасам разам з грашыма ды найбольш дарагімі нябожчыцы рэчамі.

Дзеці, бачачы такую матчыну адданасць мінуламу, неўзабаве па яе сыходзе наладзілі з бацькам стасункі, у адведзіны нават з'ездзілі. «Ну, як яна мой ліст прыняла?» — першае было, што запытаўся стары пры сустрэчы. — «Ай, тата, што пра тое гаманіць? — адказалі. — Што ты, што яна — дурні вы абое». — «Можа, і праўду кажаце, — сказаў скрушліва, памаўчаўшы. — Ды словы вашы гэтыя — як мёд мне на душу. Хоць якая ні якая, а і па мне ў вашых сэрцах навука застанецца. Хоць нешта ад бацькі».

*Разышліся, быццам чужыя,*
*без жэста і слова,*
*яна па дарозе ў краму,*
*ён да машыны.*
*Можа, ў няпэўнасці,*
*ці няўважлівасці,*
*ці забыўшыся,*
*што колісь*
*кахалі адно аднаго да скону**.

Як зразумець да канца тое, што з-за наяўнасці абсурднага пачатку ў нашых дзеях выслізгвае з межаў логікі і здаровага сэнсу? Толькі прагаю Божага Провіду, але ці будзе тое праўдай?

* Цытата з верша В. Шымборскай у перакладзе аўтара.



# Істоты нябесныя

Эцюд

Любоў да птушынага царства спадарожнічае мне з дзяцінства. З таго дня, як мы з бацькам, падахвочаныя прыкладам суседа, выправіліся да аборы ставіць на галубоў сіло з конскага воласу, я не магу абыякава прайсці міма ніводнага птушынага кагалу. Магу назіраць за птушкамі гадзінамі, і такі бязмэтны, бессэнсоўны, на першы погляд, занятак заўсёды, незалежна ад перападаў надвор'я ці настрою, пакідае ў маёй душы трапяткое адчуванне радасці ад дотыку да таямніцы недасяжнага.

Галубоў мы ў той дзень не ўпалявалі, але ўласцівая сялянскаму асяроддзю прыхільнасць да ўсяго каляровага ды блішчастага была цалкам задаволеная ўва мне іншымі, куды больш экзатычнымі, чым галубы, палоннікамі — чырванагрудым снегіром і дзвюма сініцамі. Птушак мы, вядома ж, неўзабаве адпусцілі. І трэба было бачыць, як асцярожна наш бацька, чалавек добры, хоць далёка не чуллівы і не надта каб пабожны, вызваляў сваімі каструбаватымі пальцамі з валасяных пелек іх тонкія, аздобленыя карункамі кіпцюрыкаў лапкі.

З усіх праяваў птушынага быцця мне найбольш падабаецца назіраць працэс кармлення. Вераб'ёў, якія ласуюцца ўсёю чародкаю на гарадскіх чэзлых пожнях семкамі саспелых пад восень траваў і красак. Ці стрыжоў з іх адметным паляўнічым почыркам, што робіць іх падчас палявання на казюрак падобнымі да рыбіны: цікаванне, прабежка, кароткі імклівы рывок, жаданы наедак. Альбо качак, што, кульнуўшыся перадам у каламутную ваду азярка ці става ды штосьці там у ёй адшукаўшы, без залішняй сарамлівасці ды боязі быць абвінавачанымі ў празмернай схільнасці да эксгібіцыянізму дэманструюць выпадковаму назіральніку свой ледзь збольшага прыкрыты пёркамі азадак. Усе пры справе, у клопаце пра хлеб надзённы, шчыруюць ад цямна да цямна. І не дзіва: харч, хоць і дармовы, даецца птаству куды як нялёгка. Можа, таму і гультаёў сярод птушак, у адрозненне ад нас, людзей, няма. Як і «начальнікаў», відаць, таксама: шукаць спажыву, не шукаць — асабістая справа кожнага, а пэўная іерархія калі і існуе, то найперш у інтарэсах усяго птушынага кагалу, то бок, калектыўнай бяспекі. Адзінае, што, здаецца, птушку з чалавекам родніць, — гэта нязводная схільнасць да крадзяжоў.

Але асабліва захапляе мяне назіранне за варонамі. Невядома, чым гэтак правінілася гэтая птушка перад нашым слынным класікам, што ён наважыўся зраўняць з ёю ў сэнсе разумовых здольнасцяў дурнога мужыка, але ягонае параўнанне — несумненны камплімент апошняму. У гэтым я ўпэўніўся нядаўна, ідучы пасля дажджу паўз скверык да свайго дома.

Было цёпла, змучаныя доўгаю жнівеньскаю сухменню галубы апантана купаліся ў неглыбокай лужыне, змывалі з пёраў прыкрэлыя выдаткі штохвіліннага летняга дбання пра спажыву для вечна галодных нашчадкаў. Іх было шмат, і яны нагадвалі гурт першахрысціянаў ля купелі для абмывання. Раптам усе яны дружна, бы па камандзе, узняліся ў паветра ды рассыпаліся куды каторы. А да лужыны тым часам спусцілася з прагалку ў шатах дрэваў «прычына» пярэпалаху — варона са скарынкаю ў дзюбе. Яна дзелавіта кінула скарынку ў ваду, пуляючы па баках вачыма, пачала чакаць, калі тая размякне і можна будзе яе з'есці без лішняе мітрэнгі.

Нарэшце варона праглынула размяклую скарынку, абцерла дзюбу аб траву, паляцела далей па сваіх справах. Я думаў, што вось зноў вернуцца да лужыны працягваць купанне галубы, але памыліўся. Ніводнага аматара восеньскага купання паблізу не было. Затое праз колькі хвілін прыляцела тая самая варона — з новаю скарынкай. І гэтак паўтаралася некалькі разоў.

Аднак не заўжды стасункі мае

з птушкамі мелі гэткі ідылічны характар, як зараз. Адзін выпадак з падлеткавага ўзросту дасюль поўніць мяне вусцішам. Вусцішам, па-за межамі якога любы адказ на пытанне «чаму?» падасца не менш рытарычным, чым само пытанне.

Забава была такая: падкрасціся як мага бліжэй да купкі вераб'ёў, шпурнуць у яе палкай ці прэнтам, цаляючы не ў адну якую-небудзь асобную птушку, а ва ўвесь гурт адразу. У каторую небараку патрапіш, той і капцы, вядома, — дзіцячая жорсткасць яшчэ тая.

Я пацэліў, усе вераб'і ўзляцелі, і толькі адзін застаўся ляжаць на месцы дагары нагамі.

Я падняў нерухомае цельца і ўбачыў заплылае чырванню ад удару птушынае вока, нежывое, як барвовая крапіна каросты на здаровай плоці сакаўнога восеньскага яблыка. Верабей тарганууўся раз-другі ў маёй руцэ, быццам у спадзеве на цудоўнае ацаленне, і аціх дарэшты. Шкадаванне, што я дарэмна загубіў няшчасную птушку, ахапіла мяне. Але раптам, акурат у той момант, калі я ўжо хацеў кінуць вераб'я, ён зноў варухнуўся на далоні, дрыгнуў лапкамі. Хваля радасці ўзнялася ўва мне, пагнала да бліжэйшай арэшыны. Я ўссадзіў птушку на самую высокую, да якой толькі мог дацягнуцца, галінку, адышоўся воддаль. Азірнуўся: верабей пасядзеў хвіліну на галінцы, успырхнуў у паветра, жвава паляцеў з арэшыны ў паддашак пуні.

Нежывое, што неўспадзеў (ды на шчасце) ажыло, — мабыць, ён, той даўні выпадак, найболей прычыніўся да маёй сённяшняй прыязнасці да ўсіх птушак на свеце. Такой нястрымнай, што яна нават часам правакуе ўва мне недаравальнае з пункту гледжання законаў натуральнага адбору ўмяшальніцтва ў птушыныя справы.

Нядаўна, вяртаючыся з працы, я раптам убачыў за некалькі крокаў ад сябе, каля кантэйнера са смеццем, нейкі дзіўны вэрхал сярод чародкі галубоў. Але вось галубы порстка ўзляцелі, і каля скрыні застаўся вялікі руды кот з бездапаможным птушыным целам у зубах. Зладзеявата пазіраючы на нечаканую перашкоду ў маёй не на жарт раззлаванай асобе, ён з яшчэ большаю жарсцю ўпіўся зубамі ў цела ахвяры, стрымгалоў памчаўся за рог дома. Я кінуўся следам, і, дзіва, кот, не даўшы розуму, што рабіць са здабычай, бо яму наперарэз акурат кінулася з недвухсэнсоўным намерам адабраць голуба плойма іншых катоў, выпусціў яе з пашчы. А бедны палоннік, што неяк надта ж хутка апрытомнеў, успырхнуў у паветра, паляцеў сабе далей ад небяспечнага месца.

Не ведаю, наколькі любоў да птушак характарызуе ступень нашай чалавечнасці, але што птушак любяць многія — факт. Ды нават калі гэткі факт і мала выяўляе душэўную сутнасць той ці іншай асобы — усё адно ён усцешвае.

«Ну, сказаў жа я вам: няма сёння семак у мяне, няма!» — з роспаччу ў голасе — ці то ад таго, што насамрэч іх, тых семак, няма, ці то ад таго, што немагчыма пераканаць у гэтым сваіх нямых пярэстых, шызых ды белых суразмоўцаў — даводзіў нецвярозы дзядзька, сталы наведнік кропкі прыёму шклотары з дзесятку галубоў, што, звыклыя, відаць, да пачастунку, так і ляпіліся да ягоных брудных рук, садзіліся на плечы, лапочучы крыллем у чаканні семак, адно ў вочы не зазіралі. Ужо і чалавечага, здаецца, у чалавеку — кот наплакаў, а вось жа...

Можа, таму, што птушкі — усё ж болей нябесныя, чым зямныя, істоты, нас яны гэтак прываблiваюць? Ці не таму кожнае іх з'яўленне побач з намі гэтак надоўга застаецца ў нашай абцяжаранай штодзённымі турботамі памяці, што кожнага разу падсвядома чакаем ад іх, маючы за прыклад галубоў Марыі, нейкай добрай весткі?

Памятаю буслоў у калысцы сваёй, Міжрэччы. Таго небараку, што выходжвалі ўсёю вясковаю грамадою пасля таго, як выкуліўся падчас буры з гнязда ды і застаўся пры людзях да восені, пакуль не нахапіліся прымаразкі. І таго, што так і не здолеў наладзіць новае сужэнства пасля гібелі сяброўкі і з дакладнасцю гадзінніка штогод адбіваў на пачатку вясны ў асіроцелым, змізарнелым гняздзе сумныя памінальныя акорды.

Ці гэтага вось, што трапіўся на вочы на старадрэвіне ў глухім закутку воддаль ад чалавечага жытла. Ён — на дрэве пасярод кустоўя, паблізу, на слупе лініі электраперадач — тры галавы па-над гняздом — дзеткі, значыць. Голас падаў, мяне ўбачыўшы, і як не было тых галоваў, так спрытна зніклі з поля зроку, рупным бацькам ці то маткаю пра прысутнасць чужога папярэджаныя.

А яшчэ дзіва — калі птушка раптам неўспадзеў у жытло ўляціць. І без розніцы, будзе то прынаджаны цяплом зляцелы ў прочкі суседскі ара, ці затлумленая пагоняю за жамярынай ластаўка, ці зваблены няведама чым малады верабей. Прачнешся ўранні ад незразумелага гуку, хіснешся спрасоння на балкон, а там яна, дурніца, трапечацца, б'ецца аб шкло, волю нанова здабыць імкнучыся. Возьмеш у далоні ды і выпусціш у звыклую стыхію неба да радасці дзіцяці ў вакне дома насупраць. І так неўспадзеў, так выразна адчуеш у тую хвіліну, які вялікі Божы свет, і якія мы ў ім усе, што людзі, што іншыя істоты, — малыя.

Тамара Габрусь

# Адчуць на зямлі радасць і клопат нябёсаў...

## Вобразы анёлаў у пластычным мастацтве

Стварэнне ў раннехрысціянскім выяўленчым мастацтве візуальнага антрапаморфнага вобраза анёла было істотным крокам у параўнанні з яго вярбальнай характарыстыкай у Старым Запавеце. Чалавек, паводле Бібліі, створаны па вобразе і падабенстве Божым, але ж анёлы створаныя незалежна і раней за чалавека і, такім чынам, уяўляюць для яго нейкую неакрэсленную трансцэндэнтную сутнасць. Іканаграфічныя антрапаморфныя выявы анёлаў спачатку з'явіліся ў раннехрысціянскіх фрэсках, мазаіках, абразах, анталагічна звязаных з увасабленнем Усявышняга ў аблічча рэальнага чалавека. Вобразы анёлаў у выяўленчым мастацтве ўспрымаюцца ў значнай ступені як сімвалы духоўнага зместу рэлігійных сюжэтаў. Наступным і храналагічна больш познім крокам развіцця сакральнага мастацтва стала стварэнне вобраза анёла ў фізічным целе, сродкамі скульптурнай пластыкі.

Архітэктура важкаватых раманскіх сабораў ранняга Сярэднявечча проста квітнела мазаікамі і фрэскамі, скульптурнай разьбой з прыроднага каменю. Дойлідства эпохі готыкі, якое абапіралася на догмат аб вяршэнстве веры над розумам, абгрунтаваны святым Аўгустынам, імкнулася пераадолець сілу зямнога прыцягнення сілай духоўнага ўзлёту. У карункавай гатычнай архітэктуры матэрыяльныя формы нібы пазбаўляюцца натуральнай важкасці і імкнуцца ў вышыню, да Бога. Велічныя гмахі гатычных сабораў звычайна ўпрыгожваюць шматлікія скульптурныя выявы святых праведнікаў, аскетаў і каралёў, аднак скульптурныя выявы анёлаў у заходнееўрапейскіх сярэднявечных саборах трапляюцца рэдка.

Урачыстыя статычныя антрапаморфныя фігуры анёлаў прадстаўлены абапал Хрыста, аддзяляючы Яго ад укленчаных каралеўскіх асобаў у сцэне «Страшнага Суда» ў тымпане цэнтральнага партала Нотр-Дам у Парыжы (пасля 1200 г.). У сцэне «Каранаванне Марыі» на тымпане суседняга паўночнага партала паказаны анёл, які карануе Маці Божую, і два ўкленчаныя анёлы, якія надаюць кампазіцыі завершанасць і статычнасць. Але вежы гэтага славутага сабора не маюць высокіх шатроў, што імкнуцца да неба, іх ахоўваюць выявы міфічных пачвараў — хімераў, якія адначасова служаць для адвядзення ападкаў ад сценаў будынка. Скульптурная кампазіцыя «Страшнага Суда» ў саборы Нотр-Дам у Рэймсе (пасля 1252 г.) размешчана не ў тымпане цэнтральнага партала, а над ім, што надае ёй большую дынамічнасць і адначасова сімвалічнасць. Фігуры рэймскіх біскупаў і каранаваных асобаў, паказаныя ў кампазіцыі, нібы сцякаюць уніз па стральчатай арцы партала, але іх па краях падтрымліваюць анёлы.

Адзенне анёлаў у скульптуры Сярэднявечча нагадвае манаскае. Для готыкі ўвогуле характэрная перавага вертыкальных прапорцый фігураў, што дадаткова падкрэсліваецца шматлікімі вертыкалямі складак адзення. У скульптурных кампазіцыях часам выкарыстоўваецца рознамаштабнасць выяваў: антрапаморфныя анёлы зробленыя меншымі за людзей, але гэта не дзеці, а дарослыя істоты. Аднак у часы позняй готыкі ў скульптурнай пластыцы зрэдку з'яўляюцца анёлкі ў выглядзе аголеных дзяцей.

Выдатнымі ўзорамі познегатычнай скульптурнай пластыкі з'яўляюцца рэльефы сабора Наведзінаў Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Вроцлаве. На скульптурным пано «Страшны Суд» гарэльефную выяву Хрыста, ногі якога абапіраюцца на зямную сферу, атачаюць аблокі, з якіх узнікаюць кветка лілеі і караючы меч, што ўвасабляе нябачную прысутнасць арханёлаў Міхала і Габрыэля. Усхваляваныя анёлы з узнятымі крыламі трубяць аб надыходзе Страшнага Суда. Фігуры грэшнікаў, аддзеленыя ад праведнікаў аблокамі, выкананы ў меншым маштабе. Справа ад увахода на фасадзе святыні размешчаны рэльеф на тэму Звеставання, дзе ў аблічча Дзевы Марыі яскрава ўвасоблены сярэднявечны ідэал прыгажосці. Яшчэ адзін невялікі рэльеф Звеставання размешчаны ў інтэр'еры пад абакай масіўнай паўкалоны. У кампазіцыі выкарыстаны глыбока сімвалічны мастацкі прыём: кветка лілеі, якую арханёл Габрыэль працягвае Дзеве Марыі, трансфармуецца ў Крыж — сімвал Ахвяры Божай, які Яна з пакораю прымае.

Асноўным спосабам стварэння манументальнай скульптурнай пластыкі ў часы раманікі і готыкі з'яўлялася разьба з натуральнага каменю мясцовых парадаў, які быў адносна зручны і не вельмі цяжкі ў апрацоўцы. Аднак пластыка і фактура скульптурных твораў з гэтага матэрыялу былі грубаватымі ці, як кажуць, лапідарнымі. Акрамя скульптурнай апрацоўкі натуральнага каменю, у аздобе інтэр'ераў

---

**Тамара ГАБРУСЬ** — доктар мастацтвазнаўства, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Закончыла архітэктурнае аддзяленне Беларускага політэхнічнага інстытута (1968) і аспірантуру ІМЭФ АН Беларусі (1973). Даследуе манументальнае дойлідства Беларусі. Укладальнік і аўтар кнігі «Страчаная спадчына» (1998), аўтар кнігі «Мураваныя харалы: сакральная архітэктура беларускага барока» (2001) і інш. Сябра Саюза беларускіх архітэктараў, Саюза беларускіх мастакоў і Саюза беларускіх пісьменнікаў, член-карэспандэнт Беларускай акадэміі архітэктуры.



Вроцлаў. Касцёл Наведзінаў Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Скульптурнае пано «Страшны Суд». Фота В. Князевай.

выкарыстоўвалася разьба па дрэве. У гэтай тэхніцы створаны шматлікія гатычныя алтарныя кампазіцыі каталіцкіх сабораў Заходняй і Цэнтральнай Еўропы. Самым слынным разьбяром гэтага часу быў нюрнбергскі майстар Фейт Штос, які ў 1477—1496 гг. стварыў цудоўны галоўны алтар-паліптых касцёла Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Кракаве. Цэнтральнае месца ў ім займае сюжэт «Унебаўшэсця Маці Божай», рознамаштабнасць якога надае яму глыбокую сімволіку і развіццё ў прасторы. У адрозненне ад традыцыйнай трактоўкі сюжэта, тут апосталы размешчаны не вакол смяротнага ложа Маці Божай, а вакол малітоўна ўкленчанай Дзевы Марыі. Над імі ў нябесным ззянні размешчана райская брама ў выглядзе кілепадобнай гатычнай аркі, у якую Хрыстус уводзіць Дзеву Марыю, а вакол іх лунаюць анёлы. Верхняя сцэна зроблена ў меншым маштабе, што надае ёй зрокавую перспектыву і глыбіню прасторы.

Скульптурныя выявы анёлаў ствараліся таксама ў тэхніцы адліўкі з металу, аднак часам скульптура з каштоўных металаў дасягала манументальных памераў: рэліквіярый св. Яна Непамука ў саборы св. Віта ў Празе, на які пайшло 4 тоны срэбра, падтрымліваць антрапаморфныя анёлы з дынамічна разгорнутымі крыламі; побач маленькі анёлак-пуцці трымае картуш з выяваю языка святога, які аддаў жыццё за захаванне таямніцы споведзі.

Толькі з пачаткам эпохі Адраджэння і арыентацыяй густаў грамадства на антычную грэчаскую і рымскую класіку асноўным матэрыялам для скульптараў стаў белы карарскі мармур, які дазваляў ствараць надзвычай вытанчаныя творы пластычнага мастацтва. Адпаліраваныя да бляску, яны зіхацелі нейкім унутраным святлом, нібыта набывалі пульсаванне жыцця. З карарскага мармуру выкананы сусветна вядомыя творы вялікіх скульптараў Мікеланджэло Буанароці і Ларэнцо Бэрніні. Але сімвалічнае гучанне ў творах мастацтва рэнесансу звычайна надавалася міфалагічным алегорыям, не злучаным з хрысціянствам (напрыклад, алегорыя Меланхоліі на малюнку А. Дзюрэра 1514 г.). У краінах Еўропы так званы паўночны мастацкі рэнесанс быў цесна звязаны з рэфармацыйным рухам, які актывізаваўся ў сярэдзіне XVI ст.

Новы этап сакралізацыі пластычнага мастацтва і архітэктуры быў абумоўлены пачаткам контррэфармацыі, ініцыяванай Ватыканам і ордэнам езуітаў. У 1545—1563 гг. адбыліся сесіі Трыдэнцкага сабору, дзе было вырашана, што сакральнае мастацтва ўсімі сродкамі павінна пераконваць вернікаў у перавагах каталіцкіх догматаў. У кантэксце фармавання контррэфармацыйнай ідэалагічнай канцэпцыі Трыдэнцкага сабору папам Паўлам III у 1540 г. быў зацверджаны статут ордэну езуітаў, створанага ў 1534 г. святым Ігнацыем Лаёлам. Для пашырэння ідэй контррэфармацыі езуіты актыўна выкарыстоўвалі сродкі рэлігійнага мастацтва. У выніку адным з галоўных сродкаў канфесійнай барацьбы стала пышнае, пачуццёвае, дуалістычнае па філасофскім змесце мастацтва барока.

Эпоху барока, што вызначала эстэтычны клімат усяго каталіцкага свету на працягу XVII—XVIII стст., можна назваць «эпохай анёлаў». Стваральнікам ідэальнага скульптурнага вобраза анёла з'яўляецца «кароль барока» архітэктар і скульптар Ларэнцо Бэрніні, аўтар славутай алтарнай кампазіцыі «Экстаз святой Тэрэзы Авільскай» у саборы Санта Марыя дэлла Вітторыя ў Рыме (вышынёю 3,5 м), створанай у 1647—1652 гг. Скульптурная кампазіцыя амаль дакументальна адлюстроўвае момант рэлігійнага экстазу, апісанага самой святой Тэрэзай Авільскай: «Аднойчы да мяне з'явіўся анёл, прыгажосць якога апісаць немагчыма. Я ўбачыла, што ён трымае доўгую стралу, канец якой гарэў, як полымя. Я адчула некалькі ўколаў проста ў сэрца, якія пранізалі ўсю маю істоту... Калі анёл выняў з маіх грудзей сваю стралу, мне падалося, што разам з ёю ён забраў і маё сэрца, і я засталася з вялікаю любоўю да Пана Бога». У атачэнні калонаў з поліхромнага мармуру дынамічная скульптурная кампазіцыя з белага карарскага мармуру нібы плыве ў паветры, пранізаная залатым ззяннем з нябёсаў.



Прага. Сабор св. Віта. Скульптура «Арханёл Міхал, які перамагае зло». Фота Т. Габрусь.

Ужо ў часы позняга рэнесансу, маньерызму і ранняга барока пашыраецца выкарыстанне пластычных выяваў анёлаў для духоўнага ўзбагачэння архітэктуры. Скульптурныя выявы ўсіх хораў анёльскіх упрыгожваюць супрапорты сабора св. Пятра, скляпенні галерэяў палацаў Ватыкана, алтары базылікі Санта Марыя Маджорэ, купалы храма Сан Андрэа дэль Квірынале ў Рыме і інш. Надзвычай цікава зробленыя выявы серафімаў у базыліцы святога Яна на Латэране, дзе імі ўпрыгожаны падугі капэлаў



Вёска Новая Мыш.
Касцёл Перамянення Пана.
Амбона. Фрагмент.
Фота М. Мельнікава.

бакавых наваў і сафіты столяў. Яны замяняюць капітэлі архітэктурнага ордэра, рытмізуюць рух у прасторы наваў і пры гэтым сімвалічна аддзяляюць нябёсы ад зямлі. У гэты ж час ва ўсім каталіцкім свеце вобраз анёла становіцца амаль абавязковым складнікам надмагілляў знакамітых асобаў для падкрэслівання іх адданасці Касцёлу. Пластыка скульптурных выяваў анёлаў гэтага перыяду і прызначэння звычайна стрыманая і ўрачыстая.

З'яўленне скульптурных выяваў анёлаў на нашых землях таксама абумоўлена пачаткам контррэфармацыі. Ужо ў 1569 г. езуіты пачалі дзейнічаць у сталіцы Вялікага Княства Літоўскага Вільні. Пад іх уплывам галоўнай акцыяй жыцця маршалка вялікага літоўскага Мікалая Крыштофа Радзівіла было вяртанне ў лона Каталіцкага Касцёла ўсяго роду Радзівілаў і ўсяго шляхетнага і простага люду ардынацыі. (Адмова ад пераканняў свайго бацькі кальвініста Мікалая Радзівіла Чорнага, кіраўніка пратэстанцкага руху ў Вялікім Княстве Літоўскім, і вызначыла гістарычную мянушку М.-К.Радзівіла — Сіротка.) Сам князь прыняў каталіцтва ў 1567 г., а разам з ім і яго малодшыя браты: Юры — кардынал і біскуп Віленскі, Альбрыхт і Станіслаў, таксама знаныя гістарычныя дзеячы. У архітэктурна-мастацкім вырашэнні і прысвячэнні пабудаванага па іх фундацыі езуіцкага касцёла Божага Цела ў Нясвіжы (1587—1594 гг.) закладзена ідэалагічная праграма контррэфармацыі, выпрацаваная Трыдэнцкім Саборам. Сам Сіротка фундаваў алтар Святога Крыжа ў паўночным крыле трансепта. Гэты і процілеглы алтар Маці Божай Ларэтанскай абрамляюць нахіленыя калоны, якія падтрымліваюць мармуровыя скульптуры анёлаў-юнакоў, што сімвалізуе часовы адыход сям'і Радзівілаў ад каталіцтва і пакаяннае вяртанне ў яго лона. Стрыманыя яшчэ рэнесансныя алтарныя кампазіцыі нясвіжскага касцёла, аформленыя дыямантавым рустам, аздабляюць шматлікія фігуркі маленькіх анёлкаў, якія просяць Пана Бога і Божую Маці за род Радзівілаў. Прыдворным скульптарам Радзівіла Сіроткі ў архівах пазначаны замежны майстар Ленарт, памочнікамі якога былі мясцовыя майстры Фадыга і Піліп.

У 1594—1627 гг. у Вільні па фундацыі Льва Сапегі быў змураваны Міхайлаўскі касцёл, на шчыце фасада якога знаходзілася скульптурная выява арханёла Міхала, а ў бакавых нішах — арханёлаў Габрыэля і Рафала. Тыя ж арханёлы паўтораныя ў кампазіцыі галоўнага алтара вакол Укрыжавання Хрыста. У Міхайлаўскім касцёле знаходзіцца адзін з найбольш каштоўных помнікаў сакральнага скульптурнага мастацтва ранняга барока — надмагілле канцлера Вялікага Княства Літоўскага Льва Сапегі і дзвюх яго жонак, Дароты Фірлей і Эльжбеты Радзівіл, выкананае ў 1640-я гады. Франтон гэтай магутнай шмат'яруснай кампазіцыі ўвенчаны па баках фігурамі анёлаў.

З прычыны таго, што на працягу стагоддзяў Вільня з'яўлялася культурна-палітычным цэнтрам Вялікага Княства Літоўскага, а гістарычным тэрытарыяльным ядром гэтай дзяржавы была сучасная Беларусь, архітэктурна-мастацкая спадчына эпохі барока гэтага горада і нашай краіны звязаны непарыўна. Ва ўсёй сваёй велічы яна ўвасобленая ў шматлікіх барочных касцёлах Вільні, таксама і ў больш ранніх, гатычных, дзе пазней былі створаны разнастайныя дынамічныя алтарныя кампазіцыі ў стылі барока. Так, напрыклад, у познегатычным касцёле святых Францішка і Бэрнарда, пабудаваным у пачатку XVI ст., у 1690 г. з'явіліся драўляныя барочныя алтары, завершаныя фігурамі анёлаў з распрасцёртымі крыламі і глорыямі.



Мястэчка Кабылка (Беласточчына).
Троіцкі касцёл.
Галоўны алтар. Фрагмент.
Фота Т. Габрусь.

Разьба па дрэве на працягу ўсёй эпохі барока шырока выкарыстоўвалася ў стварэнні велічных архітэктурна-скульптурных кампазіцый каталіцкіх і грэка-каталіцкіх святыняў Вялікага Княства Літоўскага. Выдатнымі ўзорамі гэтага мастацтва з'яўляюцца алтары і амбона касцёла св. Яўхіміі ў Нясвіжы, перанесеныя ў 1905—1909 гг. у касцёл Перамянення Пана ў вёсцы Новая Мыш (Баранавіцкі р-н). Вытанчаная арнаментальная аб'ёмная скульптурная разьба са шматлікімі выявамі анёлаў, багатая паліхромія і пазалота ствараюць жыццясцвярджальны вобраз сакральнага начыння гэтай святыні. Наверша амбоны вянчае анёл з распрасцёртымі крыламі, які трубіць. Значную гістарыка-культурную каштоўнасць уяўляе галоўны алтар касцёла Яна Хрысціцеля ў вёсцы Воўпа (Ваўкавыскі р-н), перанесены сюды з папярэдняга храма. Гэты выдатны твор сакральнага манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, зроблены ў 1-й палове XVII ст., мае стылёвыя рысы рэнесансу і ранняга барока. На цокальнай панэлі алтара знаходзіцца геральдычны картуш з гербам падканцлера вялікага



Вільня. Касцёл св. Пятра і Паўла.
Арханёл, які кіруе свяцілямі.
Фота У. Багданава.

літоўскага К.-Л. Сапегі — характэрная прыкмета мясцовага патрыятызму і ідэалогіі сарматызму, якой прытрымліваўся гэты дзяржаўны дзеяч. Рэтабль алтара, які мае строгую ордэрную будову і стрыманае лучковае завяршэнне, упрыгожаны пагруднай выявай Бога Айца ў аблоках і двума анёламі з шырока разгорнутымі крыламі. Згадаем, што мастацтва скразной скульптурнай разьбы па дрэве было перанесена майстрамі Беларусі пасля руска-шведска-польскай вайны сярэдзіны XVII ст. у Маскоўскую Русь, дзе атрымала назву «беларускай рэзі навылётнай».

З развіццём эстэтычнай канцэпцыі барока ў сакральным мастацтве Заходняй і Цэнтральнай Еўропы на працягу XVII—XVIII стст. узрастала насычанасць інтэр'ераў сабораў і экспрэсіўнай скульптурнай пластыкай. Гэтая тэндэнцыя адбілася на матэрыяле і спосабе стварэння скульптурных кампазіцый — для ўсё больш пышнага аздаблення інтэр'ераў дэкаратыўнай пластыкай атрымала пашырэнне тэхніка стука, у якой выявіліся неабмежаваныя магчымасці стварэння скульптуры метадам лепкі з пластычнага матэрыялу, а не разьбы па цвёрдым камені. Стука — гэта штучны мармур з апаленага і здробленага гіпсу з квасцамі і клеем, дамешкамі мармуровага пылу, які ў мяккім выглядзе мадэлюецца шпатэлем. Тэхніка стука дазволіла больш шырока раскрыць творчы патэнцыял скульптараў у стварэнні дэкору сакральных інтэр'ераў барока: алтароў, амбонаў, музычных хораў, арганных праспектаў, архітэктурнага ордэра.

Адным з найважнейшых кампанентаў сакральнага начыння інтэр'ераў касцёлаў эпохі барока сталі шматлікія рознаўроставыя фігуры анёлаў. Хаця анёлка ў выглядзе аголенага дзіцяці з крылцамі (пуцці) мы бачым ужо ў позняготычных і рэнесансных творах мастацтва, можна сцвярджаць, што менавіта барока — час найвышэйшай распаўсюджанасці цялеснага вобраза анёлка-немаўляткі, які сімвалізуе чысціню і беззаганасць дзяцінства. Менавіта гарэзлівыя аблічы пуцці ствараюць асаблівы светлы настрой, дазваляюць на зямлі адчуць тую радасць, што пануе ў нябёсах. У касцёле св. Ганны ў Кракаве (1689—1703 гг., архітэктар Цільман ван Гамерэн) шматлікія стукавыя анёлкі-пуцці жартаўліва выглядаюць з-за аблокаў, што аздабляюць скляпенні, і сыплюць уніз ружы. У Троіцкім касцёле ў Кабылцы на Беласточчыне пуцці, забаўляючыся, нібы адцягваюць драпіроўку, што закрывае амбону. У галоўным алтары гэтай святыні, поўным усхваляваных анёлаў, якія каранукоць Святую Тройцу, вернікаў проста на зямлі сустракаюць укленчаныя арханёлы Міхал і Габрыэль з узнятымі залатымі крыламі, апранутыя ў залатое адзенне.

У пашырэнні ў сакральным мастацтве Рэчы Паспалітай XVII ст. скульптурных выяваў анёлаў галоўную ролю адыгралі італьянскія ўзоры і майстры стука, званага ў старажытных інвентарах «фальшмармур». У 1635—1636 гг. італьянскі архітэктар і скульптар стварыў галоўны алтар капліцы св. Казіміра віленскай катэдры св. Станіслава і Уладзіслава. У 1669—1684 гг. групай замежных майстроў-стукатараў (Джаванні Галі, Андрэа Капоне, Ян Пенс) пад кіраўніцтвам італьянскага скульптара П'етро Перці з удзелам мясцовага майстра Міколы Жылевіча, імя якога знойдзена Э. Лапацінскім у віленскіх архівах, выканалі найбагацейшую стукавую аздобу Петрапаўлаўскага касцёла канонікаў



Вільня. Касцёл св. Пятра і Паўла.
Скульптура св. Пятра.
Фота У. Багданава.

латэранскіх на Антокалі. Фундатарам быў тагачасны гетман Вялікага Княства Літоўскага Міхал Казімір Пац. Ужо на фасадзе святыні вернікаў сустракаюць скульптурныя выявы анёлаў, якія вянчаюць папскай тыярай св. Пятра. Унутры касцёла скляпенні, сцены, архітэктурныя ордэрныя элементы амаль суцэльным монахромным дываном пакрывае стукавы рэльефны дэкор, глыбіня якога стварае тонкія нюансы святла і цёню, што надае ўбранню інтэр'ера разнастайнасць і маляўнічасць. Асноўную ролю ў дэкоры граюць разнастайныя выявы анёлаў у спалучэнні з раслліннымі і гратэскавымі арнаментамі, утворанымі пладамі, кветкамі, ракавінамі, разеткамі, звярынымі маскаронамі і г.д. Цнатлівасць аблічча анёлаў дасягаецца лёгкімі драпіроўкамі і дынамічнымі ракурсамі, а іх індывідуальнасць падкрэсліваецца рознымі заняткамі: анёлы граюць на арфе, віяланчэлі, скрыпцы, чытаюць, павучаюць, падтрымліваюць скляпенні, кіруюць свяцілямі. У пышнай аздобе інтэр'ера даволі незвычайна глядзіцца лаканічнае, амаль мадэрнісцкае, наверша амбоны з групай анёлаў, якія імкліва ляцяць у паветры. Сутнасць тэалагічнай канцэпцыі сакральнай кампазіцыі інтэр'ера выяўлена шматлікімі аб'ёмнымі скульптурамі святых.

У 1684—1700 гг. той жа групай майстроў-стукатараў, запрошанай з



Дрэздэн. Палац курфюрстаў саксонскіх Цвінгер. Франтон. Фота В. Князевай.

Вільні, быў выкананы дэкор касцёла арханёла Міхала ў вёсцы Міхалішкі на Віленшчыне (цяпер Астравецкі р-н). Уражвае кантраст паміж амаль сярэднявечным суровым вонкавым аблiччам святыні і пышным барочным аздабленнем інтэр'ера міхалішскага касцёла. Але пры ўсёй сакавітасці і пластычнасці ляпных стукавых кампазіцый у помніках сталага барока канца XVII ст. няма празмернай неакрэсленасці прасторы, што характэрна для позняга беларускага барока, якое расквітнела на нашых землях пасля Паўночнай вайны (1700—1721 гг.).

Паўночная вайна паміж Расіяй і Швецыяй, у якой з 1704 г. на баку Расіі прымала ўдзел Рэч Паспалітая, вялася ў асноўным на тэрыторыі сучаснай Беларусі і вынікі яе былі трагічнымі: насельніцтва скарацілася з 2,2 млн чалавек да 1,5 млн — загінуў кожны трэці жыхар. Найбольш пацярпелі Мсціслаўскае, Полацкае і Віленскае ваяводствы. Але менавіта на гэтай зямлі расквітнела самая прыгожая і пышная кветка беларускага мастацтва — так званае віленскае барока. Росквіт гэтай плыні позняга барока з адметнымі нацыянальнымі рысамі прыпадае на сярэднюю трэць XVIII ст. Пасля жахлівых наступстваў вайны хуткімі тэмпамі вялося будаўніцтва касцёлаў, якія складалі асноўную частку манументальнага сакральнага дойлідства Беларусі.

У гэты час каралём Рэчы Паспалітай стаў сын Аўгуста II Моцнага Аўгуст III, курфюрст Саксоніі, які сам быў неблагім архітэктарам-аматарам. Таму ў рэпрэзентатыўным мастацтве краіны пачалі пераважаць уплывы краін «габсбургскіх»: Аўстрыі, Баварыі, Багеміі, Саксоніі, Сілезіі. Каралеўскі двор знаходзіўся ў Дрэздэне, у знакамітым палацавым комплексе Цвінгер, пышна аздобленым скульптурай у стылі саксонскага барока, у тым ліку і шматлікімі пухнатымі анёлкамі «рубенсаўскага» кшталту. Два анёлкі-пуцці трымаюць княжацкую карону Саксоніі, якая вянчае галоўны палацавы корпус. Адначасова ў Вялікім Княстве Літоўскім па-ранейшаму плённа працавалі прадстаўнікі італьянскай архітэктурнай школы, але адны замежныя будаўнікі і скульптары не маглі ўзняць усю велічную глыбу мастацкай спадчыны віленскага барока, якую стваралі і многія безыменныя мясцовыя майстры.

Падчас страшных пажараў у Вільні (1737 і 1748 гг.) пацярпелі амаль усе святыні горада, і пры аднаўленні ў сярэдзіне стагоддзя яны атрымалі новае сакральнае начынне. Пластычныя элементы аздобы інтэр'ераў непасрэдна перацякалі адзін у другі, робячы неакрэсленнымі межы ўнутранай прасторы храмаў, нібы раскрываючы яе да нябёсаў. Выключную мастацкую і семантычную ролю ў сакральнай кампазіцыі адыгрывалі выявы анёльскіх хораў.

Віленскі касцёл у гонар святых Яна Хрысціцеля і Яна Евангеліста быў заснаваны адразу пасля хрышчэння Літвы ў каталіцтва вялікім князем Вітаўтам. Гэтая гатычная святыня неаднойчы цярпела ад пажараў і перабудоўвалася. У часы позняга барока будынак быў істотна рэканструяваны пад кіраўніцтвам Яна Крыштофа Глаўбіца, узведзены новы галоўны фасад. Каля 25 гадоў над мастацкім афармленнем святыні працавалі майстры-стукатары Ёган Гедэль, Ян Караль Фрэзер, Юзаф Вашчынскі, Міхал Шык, Якуб Грым, Ян Меліх, якія стварылі 23 поліхромныя мураваныя і стукавыя алтары з вялікай колькасцю фігураў святых і анёлаў, поўных руху і барочнай экспрэсіі. Тая ж група



Вільня. Касцёл св. Рафала (паезуіцкі). Скульптура арханёла Рафала. Фота У. Багданава.

майстроў-стукатараў, свецкіх і прадстаўнікоў закону, працавала над аднаўленнем віленскіх касцёлаў св. Казіміра (пад кіраўніцтвам Яна Кернера) і св. Ігнацыя (пад кіраўніцтвам Міхала Шыка). З імі звязаны таксама імёны іншых мясцовых майстроў, рэзчыкаў і фальшмармуршчыкаў: Васіля Гайковіча, Яна Незямкоўскага, Францішка Прышчынскага.

Жабрацкаму ордэну дамінаканцаў у Вільні належалі два касцёлы: святых Якуба і Піліпа, а таксама Святога Духа. У аднаўленні першага ў стылі віленскага барока прымаў удзел мясцовы майстар Мацей Будрэвіч (1752 г.). Сваёй надзвычайнай экспрэсіўнасцю, амаль экзальтаванасцю вылучаецца пластычнае афармленне інтэр'ера касцёла Святога Духа, аўтарства якога належыць Яну Тобіяшу Валенцію Дзідэрштэйну. Пад яго кіраўніцтвам былі створаны 16 вялікіх скульптурных кампазіцый алтароў і амбона святыні. Галоўны алтар тут вянчае скульптурная выява Бога Айца з залатым трохвугольным німбам у атачэнні аблокаў і хораў анёльскіх. Эмацыйнае ўражанне ўзмацняецца кантрастам стрыманага вонкавага аблічча святыні і неўтаймаванай мастацкай фантазіі ў аздобе інтэр'ера.

Касцёл у гонар арханёла Рафала ў Вільні пачалі будаваць яшчэ падчас Паўночнай вайны, у 1715 г., па фундацыі ваяводы віленскага К.Я.Л. Са-



Вільня. Касцёл св. Рафала (паезуіцкі). Галоўны алтар. Фота У. Багданава.



Вёска Сталовічы. Былы касцёл Яна Хрысціцеля. Фрагмент галоўнага алтара. Фота Т. Габрусь.



Полацк. Сафійскі сабор (пабазыліянскі). Галоўны алтар. Фота У. Багданава.

пегі і гетмана польнага М.К. Радзівіла, а асвяцілі ў 1730 годзе. Архітэктоніка гэтай святыні мае стрыманую стылістыку сталага барока. У нішы на галоўным фасадзе размешчана скульптурная выява арханёла Рафала, поўная велічы і ўрачыстаці. Пазней, у 1751—1752 гг., святыня была рэканструяваная Я.Т.В. Дзідэрштэйнам у стылі віленскага барока — надбудаваныя верхнія ярусы вежаў, створаны велічныя алтары з карцінамі С. Чаховіча «Св. Рафал» і «Св. Станіслаў Костка». Асабліва ўражвае галоўны алтар з магутнымі мармуровымі калонамі, рухомасць архітэктурных масаў якога ўзбагачаюць буйнамаштабныя фігуры антрапаморфных анёлаў. Раскрапаваны хвалісты антаблемент алтара вянчаюць шматлікія пуцці, і ствараецца ўражанне, што тут сапраўды жывуць і клапоцяцца пра нас анёлы.

Большасць штукатараў з Вільні працавала таксама над афармленнем каталіцкіх і грэка-каталіцкіх святыняў на тэрыторыі Беларусі. Пышную стукавую аздобу інтэр'ераў на сённяшні дзень захавалі каля 30 касцёлаў: у Гродне, Слоніме, Мсціславе, Полацку, Навагрудку, Лідзе, Дзятлаве, Іўі, Васілішках, Сталовічах, Лужках, Барунах, Ішчалне і інш. Фігуры анёлаў упрыгожваюць алтары касцёлаў св. Андрэя ў Слоніме, Міхала арханёла ў Навагрудку, Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Мсціслаўлі, якія яшчэ на пачатку 1990-х гадоў знаходзіліся ў жахлівым стане. Глорыя з выявамі Духа Святога і хораў анёльскіх вянчае алтарную кампазіцыю касцёла св. Яна Хрысціцеля ў Сталовічах (прыстасаваны цяпер пад праваслаўную царкву). Аўтарства гэтага выдатнага помніка належыць славутаму майстру віленскага барока Я.К. Глаўбіцу. Яму ж, як мяркуецца, належаць праекты будынкаў і пластычнага аздаблення ўніяцкага Сафійскага сабора ў Полацку, касцёла Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе, Беззаганнага Зачацця Дзевы Марыі ў Слоніме і шэрагу іншых святыняў, якія не захаваліся.

Архітэктурным формам полацкага Сафійскага сабора яго аўтарам была нададзена надзвычайная пластычнасць і маляўнічасць з дапамогаю стромкіх ажурных вежаў, карункавых франтонаў, фестонных арак. У той жа час скульптурная пластыка святыні мінімізаваная, што характэрна для ўніяцкіх храмаў. На скляпенні апсіды за алтарнай перагародкай змешчана стукавае пано з выявай Святой Тройцы ў атачэнні пяці крылатых галовак хораў анёльскіх.

Багатую аздобу ў стылі позняга барока мае ў мінулым грэка-каталіцкая царква, а цяпер касцёл св. Пятра і Паўла ў Барунах (Ашмянскі р-н), пабудаваны ў 1747—1753 гг. архітэктарам (манахам базыліянінам) Аляксандрам Асікевічам. Характэрна, што бакавы алтар св. Казіміра завершаны стукавым пано з выявай Святой Тройцы, вельмі падобным да полацкай Сафіі, але тут крылатыя галоўкі анёлаў празмерна вялікія, што сведчыць пра больш нізкі прафесійны ўзровень мастакоў-стукатараў.

У аздабленні інтэр'ераў грэка-каталіцкіх храмаў майстры пазбягалі ствараць вобраз антрапаморфнага анёла «ў плоці». Так, ва ўніяцкай царкве Святога Духа ў Вільні над міжнававымі аркадамі, у адпаведнасці са стылістыкай часу, размешчаны багатыя стукавыя супрапорты, але з гарэльефнымі выявамі шасцікрылых серафімаў, а не анёлкаў-пуцці.

Касцёл у Воўчыне (Камянецкі р-н) быў узведзены італьянскім архітэктарам у 1729—1733 гг. Адным з выразных сакральных элементаў яго вытанчанай пластычнай аздобы з'яўляюцца выявы херубімаў з пакорна складзенымі крыламі на пілястрах верхняга яруса храма, які быў хрысцільняй і пахавальняй апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага. У 1938 г. яго астанкі былі перавезеныя адсюль у Варшаву. Цяпер святыня рэстаўруецца.

У 1751—1764 гг. скульптарам-дэкаратарам з Вільні, «мастацтва штукарскага з фальшмармуру магістрам» І.Гедэлем з памочнікамі С. Градзецкім і Антоніем (яго прозвішча невядома) паводле праекта Я.К. Глаўбіца былі



Навагрудак. Касцёл Міхала арханёла (падамініканскі). Бакавы алтар. Фота М. Мельнікава.

створаны сем цудоўных алтароў, амбона, спавядальня, музычныя хоры касцёла Беззаганнага Зачацця Дзевы Марыі ў Слоніме. Камерным алтарным кампазіцыям невялікай святыні з дапамогаю пpacтоpaвай будовы ордэрных элементаў, дынамічнай скульптурнай пластыкі, далікатнай паліхроміі і пазалоты была нададзена велічнасць і мастацкая вытанчанасць. Балдахін амбоны вянчае анёлак-пуцці з крыжам.

Аналагічныя кампазіцыйныя прыёмы — шматкаляровыя круглыя калоны са штучнага мармуру з пазалочанымі капітэлямі, хвалістыя раскрапаваныя антаблементы, рэтаблі з глорыяй у атачэнні аблокаў, шматлікіх анёлкаў-пуцці і іншых хораў анёльскіх — выкарыстаны пры стварэнні алтароў падчас рэканструкцыі шэрагу касцёлаў Беларусі ў сярэдзіне і 2-й палове XVIII ст., напрыклад, Троіцкага касцёла ў Жодзішках (1756–1766 гг.), касцёла святых Пятра і Паўла ў Іўі (рэкансэкраваны ў 1787 г.), Троіцкага касцёла бэрнардынаў у Друі (1764–1779 гг.), Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе (1767–1770 гг.), касцёла Дзевы Марыі Анёльскай і іншых касцёлаў Гродна. У большасці з іх стукавыя элементы спалучаліся з разьбой па дрэве, якой віртуозна валодалі беларускія майстры.

Сакральнае начынне паезуіцкага касцёла св.Францішка Ксавэрыя ў Гродне складаюць 13 алтарных кампазіцый, амбона, канфесіяналы, выкананыя ў стылістыцы позняга барока. Аздабленне інтэр'ера святыні пачалося ў 1711 г. і працягвалася значны час. У 1736—1737 гг. былі створаны выдатныя драўляныя алтары «сніцарскай работы». Велічны галоўны алтар вышынёю 21 м мае развітую прасторава разгорнутую будову: паміж дынамічна згрупаванымі калонамі карынфскага ордэра ў два ярусы размешчаны поўныя руху і экспрэсіі скульптуры святых. Гэтая кампазіцыя, якая нагадвае лес з калонаў і скульптураў, завершана шматлікімі выявамі хораў анёльскіх і велічнай глорыяй. Выкананы галоўны алтар па фундацыі кашталяна мсціслаўскага Самуэля Лазавога і яго жонкі Канстанцыі «обермайстарам разьбярскім» Янам Шмітам з шасцю памочнікамі і вучнем. Анёлы з трубамі і арханёл Міхал, які перамагае зло, вянчаюць бакавы алтар апостала Тадэвуша. Шматлікія выявы анёлаў уключаны ў кампазіцыі алтароў Езуса, Маці Божай Ружанцовай, св. Станіслава Косткі і інш. У 1768 г. майстрам І. Мейфельтам былі створаны канфесіяналы і шыкоўная амбона ў стылі ракако, увянчаная складанай кампазіцыяй: над зямной сферай, вакол якой лунаюць анёлы, размешчана постаць арханёла са скрыжалямі веравучэння, а над ім у ззянні — «Усёбачнае вока».

Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Дзятлаве, пабудаваны ў 1624–1646 гг. па фундацыі Льва і Казіміра Льва Сапегаў, пасля пажару ў 1743 г. да 1751 г. быў адноўлены архітэктарам Аляксандрам Асікевічам у стылі віленскага барока на ахвяраванні Мікалая Фаустына Радзівіла. У мастацкім аздабленні сямі алтароў і амбоны маляўніча спалучаюцца стукавая лепка і разьба па дрэве. Двух'ярусны галоўны алтар завяршае глорыя з «Усёбачным вокам» у атачэнні аблокаў і хораў анёльскіх. У аздабленні амбоны замест выяваў евангелістаў выкарыстаны іх сакральныя сімвалы: гарэльефныя выявы арла, льва, быка і анёла ў акантавым арнаменце. Падобны прыём выкарастаны і ў стукавай аздобе Троіцкага касцёла ў Ішчалне (Шчучынскі р-н), пабудаванага ў сярэдзіне XVIII ст. Аздоба



Гродна. Касцёл Адшукання Святога Крыжа (пабэрнардынскі). Ларэтанская капліца. Фрагмент. Фота М. Мельнікава.

інтэр'ера святыні вызначаецца рафінавана вытанчанай пластыкай у стылі ракако. Асаблівай эмацыйнай экспрэсіяй, нават экзальтаванасцю, вылучаецца гарэльефная кампазіцыя «Арханёл Міхал, які перамагае зло» на паўднёвай сцяне.

Спалучэнне брутальных мастацкіх формаў барока з вытанчанымі ракайльнымі рэльефамі трапляецца ў кампазіцыях алтароў, амбонаў, музычных хораў, арганных праспектаў і іншага сакральнага начыння многіх касцёлаў, афармленне якіх было выканана ў 2-й палове XVIII ст., напрыклад, касцёла Міхала арханёла ў Навагрудку, касцёла св. Андрэя ў Слоніме, Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Мсціслаўлі, Міхала арханёла ў вёсцы Лужкі (Шаркаўшчынскі р-н).

Для архітэктуры пабэрнардынскага касцёла Адшукання Святога Крыжа ў Гродне характэрна спалучэнне розных стыляў — ад познегатычных да познебарочных формаў, што абумоўлена доўгатэрміновасцю яго будаўніцтва амаль на працягу двух стагоддзяў. Сярод найбагацейшай аздобы інтэр'ера вылучаецца найбольш позні па часе скульптурна-дэкаратыўны ансамбль Ларэтанскай капліцы, выкананай у стылі ракако з сюжэтамі евангельскіх кампазіцый, шматлікімі выявамі анёлаў, ракавінападобных і акантавых матываў. Цэнтральная скульптурная кампазіцыя «Святая



Вёска Кемелішкі. Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Скульптура «Арханёл Міхал, які перамагае зло». Фота М. Мельнікава.

Сям'я», над якой лунае анёл, змешчана ў невялікім аркавым праёме. Усе персанажы кампазіцыі паўстаюць у грацыёзных, злёгку экзальтаваных паставах. Гранёныя пілястры па вуглах капліцы завершаны скульптурнымі выявамі евангелістаў з адпаведнымі сімваламі пад балдахінамі, увянчанымі веерападобнымі глорыямі. Пластыка дэкаратыўнай аздобы капліцы вытанчаная, дасканала прапрацаваная, але здрабнёная ў параўнанні з маштабам інтэр'ера святыні.

Кампазіцыю галоўных алтароў касцёла св. Андрэя ў Слоніме і Троіцкага касцёла ў Ружанах, наадварот, завяршаюць буйнамаштабныя фігуры анёлаў, якія адразу прыцягваюць увагу ў камерных інтэр'ерах гэтых святыняў. Іх снежна-белыя постаці з разгорнутымі крыламі эфектна кантрастуюць з магутнымі барочнымі формамі паліхромных алтароў.

Пухнатыя анёлкі-пуцці ствараюць светлы эмацыйны настрой у сакральных інтэр'ерах, адлюстроўваюць радасць, што пануе ў нябёсах. Клопат нябёсаў пра вернікаў, пра тое, каб зло на зямлі не перамагло, — гэтыя інтэнцыі сімвалічна выяўлены вобразам Міхала арханёла, нябеснага апекуна Беларусі. Яму была прысвечана значная колькасць нацыянальных святыняў, і літаральна кожная мела іконаграфічны ці скульптурны сюжэт «Арханёл Міхал, які перамагае зло». Гэтыя кампазіцыі заўжды вылучаліся глыбокім пачуццём веры і надзеі на нябесную абарону. Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Адэльску (Гродзенскі р-н) быў пабудаваны ў 1770-я гг. і перабудаваны ў 1874 г. з захаваннем яго барочнай асновы. Рэтабль галоўнага алтара па баках аздабляюць выявы арханёлаў Міхала і Габрыэля. Арханёл Міхал з разгорнутымі срэбранымі крыламі, апрануты ў блакітны далмацік з залатым поясам, працінае кап'ём маленькага чорціка з крыльцамі. Яго перамога над злом відавочная і пераканаўчая. Падобным чынам вырашана скульптурнае аздабленне галоўнага алтара касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў вёсцы Кемелішкі (Астравецкі р-н), пабудаванага ў 1784 г. і перабудаванага ў 1900 г. у стылі неаготыкі. Тут арханёл Міхал з прыўзнятымі крыламі, якія зіхацяць золатам і срэбрам, апрануты ў даспехі, паверх якіх накінуты паліум. Ён узняў меч і прыцiснуў нагой маленькага брыдкага чорта. Твар арханёла выяўляе глыбокую пагарду да зла, якое спакушае людзей. Сэнс сюжэта перададзены надзвычай выразна, нягледзячы на пэўныя рысы мастацкага прымітывізму.

У канцы XVIII ст. разам з заканчэннем эпохі барока скончылася і «эпоха анёлаў». Менавіта эстэтычная канцэпцыя барока імкнулася стварыць цэласную карціну будовы Сусвету ў інтэр'ерах святыняў з дапамогаю арганічнага сінтэзу мастацтваў. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай і далучэння беларускіх земляў да Расійскай імперыі змяніліся палітычныя і рэлігійныя арыенціры, адпаведна — і стылістычны напрамак сакральнага мастацтва. У эстэтыцы класіцызму выявы крылатых істотаў найчасцей выкарыстоўваліся як алегорыі натхнення, трыумфу, славы альбо ў надгробках — для перадачы смутку па нябожчыку. Выразныя рысы стылю ампір выяўлены ў драўлянай скульптуры, што аздабляе алтарныя кампазіцыі ў праваслаўнай Мікалаеўскай царкве (1818 г.) ў вёсцы Кажан-Гарадок. Будаўніцтва каталіцкіх святыняў значна скарацілася. Пры ўзвядзенні новых касцёлаў у стылі неаготыкі ў іх звычайна перанасілі алтарныя кампазіцыі папярэдняга часу.



Брэст. Помнік 1000-годдзю горада. Скульптар А. Паўлючук. Фота Т. Габрусь.

Гады панавання атэістычнай ідэалогіі амаль зусім выкраслілі сакральнае мастацтва на нашых землях. Вяртанне да хрысціянскіх вытокаў на мяжы XX—XXI стст. узнавіла цікавасць да вобраза анёла, які ў кантэксце сучаснага выяўленчага мастацтва мае невычэрпны творчы патэнцыял. Вобраз анёла трактуецца сучаснымі мастакамі як выток Духу, сімвал сусветнай гармоніі, моўны код культурнай традыцыі. У 1996 г. каля касцёла святых Сымона і Алены ў Мінску з'явілася манументальная скульптурная кампазіцыя «Арханёл Міхал, які перамагае зло» (скульптар Ігар Голубеў), выкананая ў лепшых традыцыях сакральнага мастацтва. Яшчэ адзін сучасны варыянт сацыяльнай адаптацыі вобраза анёла ўвасоблены ў помніку 1000-годдзю Брэста, адкрытым у 2010 г. (скульптар Аляксей Паўлючук). Калону гэтага манумента ўвенчвае постаць анёла, апранутага ў вайсковыя даспехі, які, аднак, замест зброі трымае ў руках крыж і кветку лілеі. Гэты сімвалічны сімбіёз відавочна мае на мэце падрэсліць мірныя намеры ў будучыні горада, які шмат разоў цярпеў ад ваенных нападаў. На гэтых прыкладах яскрава выяўляецца тэндэнцыя да сакралізацыі сацыяльна значных твораў манументальнага мастацтва нашай краіны.

# ДЫВІЗІІ Ў НЯБЁСАХ

## Дакументальны фільм «Рука міру» аднаўляе гістарычную праўду пра папу Пія XII

Чым далей ад нас у часе падзеі Другой сусветнай вайны, тым з большай увагай і эмацыйным напружаннем мы звяртаемся да падзеяў сямідзесяцігадовай даўніны, спрабуючы зразумець сэнс пакутаў нашых бацькоў і дзядоў, гібелі мільёнаў людзей.

Тэма вайны нязменна прысутнічае і ў праграме фільмаў каталіцкага кінафестывалю «Магніфікат». На фоне гісторыі цяжкіх выпрабаванняў, супрацьстаяння злу фашызму, гвалту яшчэ больш рэльефна праяўляецца галоўная мэта арганізатараў фестывалю — падтрымка агульначалавечых каштоўнасцяў.

Летась у Глыбокім спецыяльны прыз кінафестывалю «Непакалянув» (польскага партнёра «Магніфіката») атрымаў расійскі фільм «Спіс Кісялёва». Герой стужкі — савецкі афіцэр Кісялёў з Ленінграда, які падчас вайны ўратаваў некалькі сотняў вязняў гета ў беларускім мястэчку. Большасць іх складалі старыя і дзеці. Яму і яшчэ адной жанчыне давялося весці іх праз лясы і балоты партызанскімі сцежкамі многія сотні кіламетраў пад абстрэламі і бамбаваннямі, пакуль удалося выйсці за лінію фронту.

З гэтай стужкай у чымсьці перагукаецца фільм польскіх кінематаграфістаў Юліты Валашынськай і Кшыштафа Жыроўскага «Яўрэй Ішай», які на сёлетнім фестывалі атрымаў прыз каталіцкай асацыяцыі для камунікацый Signis-Беларусь. Герой фільма — былы ізраільскі спецназавец, страціў на вайне ўсіх сваіх сяброў. Ён часта ўспамінае свайго бацьку і разважае пра яго лёс. Разам з сястрою ён едзе ў польскую вёску, адкуль родам іх бацька. На пачатку Другой сусветнай вайны ён уцёк ад немцаў, але ў выніку ледзь не быў забіты бальшавікамі. Госці з Ізраіля сустракаюцца з апошнімі сведкамі тагачасных падзеяў, якія памятаюць, як польскія сяляне ратавалі яўрэяў ад нацыстаў.

Прыз за лепшую тэлепраграму на фестывалі атрымала работа ленінградскіх дакументалістаў «Блакадная вера». Яна прысвечана праваслаўным святарам, якія падчас вайны дзялілі з ленінградцамі цяжар фашысцкай блакады і пры гэтым духоўна іх падтрымлівалі. Для Эўхарыстыі тады выкарыстоўвалі чорны хлеб, а замест віна — сок буракоў... Нягледзячы на пастаянныя бамбаванні храмаў (іх дзейнічала ўсяго восем) нямецкай авіяцыяй, на невыносныя голад і холад, святары мужна выконвалі свой абавязак. З пяцідзесяці святароў толькі двое пакінулі горад падчас эвакуацыі на пачатку блакады. Дванаццаць атрымалі медаль «За абарону Ленінграда».

Асобнай увагі заслугоўвае канадскі тэлефільм «Рука міру», які атрымаў прыз журы за раскрыццё тэмы гістарычнай справядлівасці. Фільм прысвечаны незвычайнаму чалавеку, які пакінуў важкі след у гісторыі Касцёла XX стагоддзя — Папу Рымскаму Пію XII. Папа Ян Павел II яшчэ на пачатку свайго пантыфікату ў 1977 годзе паставіў пытанне аб яго беатыфікацыі. Цяпер гэты працэс набліжаецца да свайго завяршэння, аднак многія прадстаўнікі свецкіх уладаў і інстытутаў выступаюць супраць. У шматлікіх публікацыях Пій XII падаецца як, мякка кажучы, неадназначная асоба, і гэта ў лепшым выпадку. Некаторыя расійскія «даследчыкі», напрыклад, наўпрост абвінавачваюць яго ў пасобніцтве Гітлеру.

Стваральнікі фільма згадваюць скандальна вядомую п'есу нямецкага драматурга Рольфа Хоххута «Намеснік» у Заходнім Берліне ў 1963 годзе. На іх думку, у многім дзякуючы той пастаноўцы ў свядомасці некаторых прадстаўнікоў ліберальнай інтэлігенцыі на Захадзе за Піем XII замацавалася рэпутацыя чалавека, які нібыта баяўся заступіцца за яўрэяў падчас Халакосту. Адзін з галоўных герояў п'есы — эсэсавец Курт Герштайн. Ён дапамагае яўрэям уцякаць ад нацыстаў і спрабуе пераканаць Папу дапамагчы ў гэтым, а таксама разарваць канкардат з гітлераўскай Германіяй. Іншы герой, святар па імені Рыкардо, заклікае Пантыфіка паведаміць свету праўду пра знішчэнне яўрэяў. У адказ, паводле драматурга, Папа маўчыць... Ясна, хто выступае антыгероем у той п'есе.

(Са стэрэатыпамі цяжка змагацца. Праз дваццаць гадоў выйдзе галівудскі фільм «Пунсовае і чорнае» з выдатнымі акторамі ў галоўных ролях — Грэгары Пекам і Крыстаферам Пламерам. У аснове сюжэта — супрацьстаянне эсэсаўскага начальніка і каталіцкага святара. Ён хавае на тэрыторыі Ватыкана салдат саюзнікаў, якім удалося ўцячы з нямецкага палону. І робіць ён гэта насуперак... забароне Папы Рымскага, што выглядае ўжо абсалютна нерэальным.)

Між тым яшчэ ў лістападзе 1945 года ў Ватыкан прыбыла дэлегацыя з 80 былых вязняў гітлераўскіх канцлагераў. Яны падзякавалі Пію XII за годную пазіцыю ў дачыненні да яўрэяў. Перад тым Сусветны яўрэйскі кангрэс пералічыў Ватыкану 20 тысяч даляраў на яго дабрачынныя праграмы. Гэта было зроблена ў знак прызнання ролі Касцёла ў выратаванні яўрэяў ад праследу нацыстаў. Нацыянальны інстытут Халакосту і Гераізму Яд-Вашэм у Ерузалеме асуджае Папу Рымскага Пія XII, а вось ізраільскі тэолаг і гісторык Пінхас Лапід піша: «Касцёл Пія XII уратаваў ад смерці ад рук нацыстаў 860 тысяч яўрэяў. Гэтая лічба нашмат перавышае эфект дзеянняў іншых інстытутаў альбо дзяржаўных акцый па ўратаванні яўрэяў». (Цыт. паводле польскай Вікіпедыі.)

У віну кардыналу Эўджэніа Пачэллі (які атрымаў імя папы Пія XII) ставяць падпісанне ў 1933 годзе канкардату з гітлераўскім Рэйхам. У савецкіх падручніках гэта падавалася як жудаснае злачынства. У тым «злачынстве», што характэрна, Ватыкан абвінавачвала дзяржава, якая ў 1939-м падпіша Пакт Молатава—Рыбентропа і сакрэтныя пратаколы да яго! Зрэшты, мана і паклёп заўсёды былі галоўнай зброяй камуністычнай улады.

Заключэнне канкардату давала хоць нейкія спадзевы на тое, што ў Гер-

маніі будуць захоўваць правы Касцёла і галоўнае — хрысціянаў. Спадзевы гэтыя, вядома, не апраўдаліся. Але ж некаторы час хрысціянскія арганізацыі маглі адчуваць сябе ў адноснай бяспецы. У Рэйху, напрыклад, некаторы час выходзілі каталіцкія выданні — нічога падобнага ў тагачасным СССР нельга было сабе нават уявіць.

У 1938 годзе, пасля Крышталёвай ночы (падчас яе гітлераўскія штурмавікі грамілі па ўсёй Германіі крамы і кавярні, уладальнікамі якіх былі яўрэі) кардынал Пачэллі звярнуўся да 60 прадстаўнікоў Касцёла ў свеце з просьбай дапамагчы ў афармленні 200 тысяч візаў для «неарыйскіх каталікаў», насамрэч — юдэяў паводле веравызнання. Такое права Касцёл меў, дарэчы, згодна з канкардатам.

Пазней пры падтрымцы Пія XII змаглі пазбегнуць дэпартацыі ў фашысцкую Германію 80 тысяч венгерскіх яўрэяў і яшчэ 12 тысяч з іншых краінаў Еўропы. Яны атрымалі візы ў Дамініканскую рэспубліку.

Пры ўступленні на папскі пасад 2 сакавіка 1939 года Пій XII выступіў з прамовай (яна ўпершыню наўпрост транслявалася па радыё), у якой выразна асуджаліся вайна і гвалт.

У 1943 годзе, калі нямецкія войскі акупавалі Рым, Папа неадкладна загадаў усім кляштарам адчыніць дзверы для яўрэйскіх бежанцаў. Яўрэяў ён заклікаў уступаць у так званую «палацінскую гвардыю» — у выніку на тэрыторыі Ватыкана змаглі знайсці прытулак сотні сем'яў. У фільме «Рука міру» гаворыцца пра тое, што ў асабістай адпачывальні Папы некаторы час жылі некалькі дзясяткаў дзяцей.

Так, Пій XII дзейнічаў дыпламатычнымі метадамі — праз пасольствы заходніх дзяржаваў. Ён не заклікаў да адкрытага паўстання супраць Гітлера, бо цудоўна ведаў рэальны стан рэчаў у Трэцім Рэйху. У прыватнасці, ведаў пра фантастычную папулярнасць фюрэра сярод немцаў, у тым ліку ў яўрэйскім пытанні. Але ж казаць, што Папа маўчаў альбо быў у змове з Гітлерам — значыць, свядома хлусіць.

У папскай энцыкліцы *Summi Pontificatus*, апублікаванай 20 лістапада 1939 года, асуджаліся развязанне Другой сусветнай вайны і таталітарызм нацысцкай Германіі. Гэтая энцыкліка не была апублікаваная ў Трэцім Рэйху. Больш за тое — за распаўсюджанне яе тэксту пагражала смяротнае пакаранне. (Дзіўным чынам гэты дакумент адсутнічае і ў спісе энцыклікаў папы Пія XII, змешчаным у расійскай Вікіпедыі.)

Гітлер ставіў перад сабой задачу знішчэння не толькі яўрэйства, але і хрысціянства. Гісторык Стывен Озмент у сваёй кнізе «Магутная крэпасць. Новая гісторыя германскага народа» (сёлета яна выйшла ў свет у перакладзе з англійскай мовы на рускую) прыводзіць некаторыя выказванні фюрэра. Хоць, на думку дыктатара, сучаснае яўрэйства было «ферментам, які выклікае гніенне народа», хрысціянства для яго было яшчэ горшым. «Чыстае хрысціянства... вельмі проста вядзе да знішчэння чалавецтва... яно — сапраўдны бальшавізм пад шалупіннем метафізікі». Гітлер лічыў знішчэнне «гнілой галіны хрысціянства» адной з галоўных задач нацыянал-сацыялізму — услед са знішчэннем яўрэяў, славянаў, цыганаў і гомасексуалістаў. Хрысціянства, на думку нацысцкага лідара, прыцiскала рымскую рэлігію, «агульную для ўсіх арыйскіх народаў», замяніўшы веру ў сацыяльную салідарнасць і этнічнае адзінства ідэяй роўнасці ўсіх людзей перад Богам.

Гітлер хоць і рабіў спачатку выгляд, што лаяльна ставіцца да Касцёла, бачыў у ім і ў Пантыфіку свайго галоўнага ворага з прычыны іх трывалага маральнага аўтарытэту.

Аўтары фільма «Рука міру» прыводзяць факты, якія сталі вядомыя нядаўна. У 1943 годзе Гітлер планаваў выкраданне Папы Рымскага (на той манер, як гэта было зроблена з італьянскім дыктатарам Мусаліні).

Згодна з планам, які Гітлер перадаў генералу СС Конраду Вольфу ў Італію, Ватыкан трэба было акупаваць, папскую курыю знішчыць, а Пія XII — вывезці ў Ліхтэнштэйн і там таемна забіць...

У студзені 2007 года ў амерыканскім перыядычным выданні *Nacional Review* быў апублікаваны артыкул Міхая Пачэпы, які ўзначальваў румынскую разведку пры Чаўшэску. У 1978 годзе генерал уцёк на Захад. Паводле словаў Пачэпы, ён прымаў удзел у спецаперацыі, інспіраванай савецкім КДБ, з мэтай ачарнення папы Пія XII, які павінен быў паўстаць у вачах грамадскасці антысемітам і прыхільнікам Халакосту. Аднак ніякіх дакументаў, якія пацвярджалі б гэта, знайсці не ўдалося.

Зразумела, да словаў генерала камуністычнай спецслужбы трэба ставіцца з асцярожнасцю, але падаецца, што кампанія дыскрэдытацыі Пія XII працягваецца і дагэтуль.

Вяртаючыся да тэмы скандальнай пастаноўкі п'есы «Намеснік» у Заходнім Берліне ў 1963 годзе, варта дадаць яшчэ некалькі словаў. Пра рэжысёра гэтага спектакля Эрвіна Піскатара стваральнікі фільма кажуць няшмат — згадваюць толькі, што ён пэўны час перад вайной жыў у Маскве. Але ж некаторыя факты біяграфіі гэтага чалавека гавораць самі за сябе. У 20-я гады ён ставіў у Германіі агітацыйныя спектаклі па замове кампартыі. У 1931 годзе пераехаў у Маскву. «Межрабпомфильм» замовіў яму экранізацыю апавядання нямецкай пралетарскай пісьменніцы Ганны Зэгерс «Паўстанне рыбакоў з сяла св. Барбара». Фільм задумваўся грандыёзным паводле маштабу, але нешта не атрымалася. Піскатар узначаліў МАРСТ — Міжнароднае аб'яднанне рабочых самадзейных тэатраў. Нечакана ў 1935 годзе ён з'ехаў з СССР за мяжу, нібыта на некалькі дзён у камандзіроўку. Але застаўся ў Парыжы, дзе ажаніўся з багатай танцоўшчыцай і жыў з ёй у шыкоўным палацы. Пасля пачатку Другой сусветнай вайны Піскатар з'ехаў у ЗША. У ФРГ вярнуўся ў 1947-м.

Між іншым, аўтар п'есы «Намеснік», драматург Рольф Хоххут, які жыве ў Швейцарыі, два гады таму прадставіў на суд берлінскіх гледачоў сваю новую работу — «Лета 14-га», прысвечаную падзеям Першай сусветнай вайны. П'еса скандальна вядомага аўтара праваліласа: на прэм'еры зала была напалову пустой.

І яшчэ адзін факт з біяграфіі героя фільма «Рука міру» папы Пія XII. (Пра яго і многія іншыя факты можна прачытаць на афіцыйным сайце папы Бэнэдыкта XVI.) Усе ведаюць пытанне Сталіна: «Папа? А колькі ў яго дывізій?» Але мала хто ведае, які адказ даў Пій XII: «Можаце перадаць майму сыну Іосіфу, што з маімі дывізіямі ён сустрэнецца ў нябёсах».

*Віталь Тарас*

# Яго «Зямля пад белымі крыламі» стала і маёй назаўсёды



## Да 80-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча

*Трыццаць гадоў прайшло з таго часу, калі я пазнаёмілася з Уладзімірам Караткевічам — пісьменнікам і чалавекам, з якім сябравала чатыры гады. Цэлая паліца кніг з яго арыгінальнымі аўтографамі беражліва захоўваецца ў маёй бібліятэцы.*

*Здарылася гэта восенню 1980 года. Я жыла ў Беларусі каля сямі гадоў і, як кожны чалавек, што трапіў у іншую дзяржаву, хацела ведаць пра яе больш, але мне траляліся толькі падручнікі па гісторыі БССР. Што было да 1917 года, для мяне заставалася загадкаю: няўжо была толькі адсталая губерня Расійскай імперыі, якая называлася «Северо-Западный край», з пераважна непісьменным сялянскім насельніцтвам? Адкуль неўзабаве выраслі такія паэты, як Купала, Колас і Багдановіч?*

*У той час усё было падзелена на «да» і «пасля» Кастрычніцкай рэвалюцыі, а пра перыяд «да» нельга было знайсці амаль нічога, нават у вялікай бібліятэцы Саюза пісьменнікаў.*

*Я адкрыла для сябе творчасць Уладзіміра Караткевіча зусім нечакана і адразу зразумела, што гэта тое, што я так доўга марыла сустрэць. Прачытала яго апавяданні, аповесці і раманы, якія адкрылі для мяне зусім іншую Беларусь — terra incognita. Гэты невядомы свет захапіў мяне настолькі моцна, што я вырашыла пазнаёміцца з яго стваральнікам. Мая першая сустрэча з Уладзімірам Караткевічам не была выпадковасцю — гэта быў падарунак лёсу.*

*Калі я патэлефанавала яму, ён ласкава запрасіў мяне дахаты, у кватэру на Карла Маркса, 36. У гэтым доме жыў выдатны дзіцячы пісьменнік, беларускі Жуль Верн — Янка Маўр. Тут і цяпер жыве народны паэт Беларусі, вялікі сябра і перакладчык балгарскай літаратуры Ніл Сымонавіч Гілевіч, тут жыў мой навуковы кіраўнік дысертацыі, акадэмік і пісьменнік Іван Якаўлевіч Навуменка...*

*Дзверы мне адчыніў сам Уладзімір Караткевіч, які сустрэў мяне як старую знаёмую. Ён з усмешкаю падаў мне руку, і, увайшоўшы у дом, я пакінула свае страхі і хваляванні за дзвярыма. Беларусы, сапраўды, выключна гасцінны народ і як сапраўдныя славяне вельмі паважаюць гасцей. Уладзімір Сямёнавіч яшчэ раз пераканаў мяне ў гэтым.*

*Пакуль ветлівы гаспадар гатаваў каву, я, седзячы ў зручным крэсле, магла агледзецца: у доме пісьменніка панавала артыстычная ўтульнасць. На сцяне віселі старажытныя беларускія скульптуркі з дрэва, а з кутка на мяне мудра глядзеў Майсей — таксама драўляная скульптурка, як пазней растлумачыў Уладзімір Караткевіч, знойдзеная проста ў балоце, у адным са шматлікіх яго падарожжаў па роднай зямлі.*

*...І вось ужо цёпла дыміліся маленькія кубкі, і гаркава-чорны напой схіляў да гутаркі.*

— Шчыра кажучы, я не збіраўся стаць пісьменнікам. Але пісаць пачаў даўно, яшчэ ў школе. Пісаў і вершы, і прозу — у асноўным для сябе. Сёе-тое з маёй пісаніны было змешчана ў школьным рукапісным часопісе. А аднойчы разам з сябрам вырашыў пабываць на радзіме нашага любімага паэта Янкі Купалы. Пешшу дайшлі да Вязынкі. Пра гэта падарожжа я напісаў ліст жонцы паэта Уладзіславе Францаўне. Яна ўключыла яго ў зборнік «Янка Купала. Збор матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці паэта». Так з'явіўся мой першы друкаваны твор... У гэтым жа годзе адзін мой знаёмы папрасіў, каб я прыслаў яму проста так, пачытаць, свае вершы (тады я настаўнічаў на Украіне), і ён занёс іх у «Вожык» і «Полымя». З «Вожыка» я атрымаў адказ прыблізна такога зместу: «Малады чалавек, з Вашым талентам лепш біць каменне і ўкладаць на бруку». Мяне гэта, прызнацца, не вельмі і засмуціла. А вось у «Полымі» цалкам нечакана для мяне з'явіўся мой верш «Машэка», і я падумаў, што ўсё ж нешта змагу зрабіць. Пасля паступова пачалі друкаваць мяне і іншыя часопісы.

*— Перш чым пачаць пісаць, чалавек пачынае чытаць. Ці помніце першую прачытаную Вамі кнігу?*

— Шчыра кажучы, першую кнігу не помню, таксама як і не помню сябе такога, каб не ўмеў чытаць. Пачаў чытаць у трохгадовым узросце: непрыкметна навучыўся ад старэйшых. Дома была вялікая бібліятэка, і я захапляўся мастацкай літаратурай, часцей за ўсё не па ўзросце. Пазнаёміўся паступова з беларускаю, рускаю і ўкраінскаю літаратурамі, пазней — з польскай.

*— Зразумела ж, як і ва ўсіх, у Вас былі любімыя аўтары, любімыя творы?*

— Што датычыць любімых твораў, то іх раз і назаўсёды няма. У кожным узросце меў розных улюбёнцаў і багоў. Чытаю кожнага ў залежнасці ад настрою. Калі ён светлы — то Пушкіна, гнеўны — ранняга Купалу, Багдановіча, Шаўчэнку, калі настрой філасофскі і непрымірымы да смуроду і пошласці — проста на дуэль — Лермантава, Гарэцкага і Льва Талстога, роўны — добрыя гістарычныя раманы Сянкевіча, лепшыя рэчы Аляксея Талстога. І, прызнаюся, хоць ведаю, што сёй-той скрывіцца, але перад працай, якая патрабуе дакладнай думкі, вельмі люблю чытаць добрыя дэтэктывы. Сапраўды добрыя. Да іх залічваю не толькі, скажам, творы Сімянона і лепшыя раманы Агаты Крысці, але й роднага па духу Стывенсана. І, калі браць вяршыні, на якія нават дыхаць цяжка, — «Братоў Карамазавых».

*— А ў каго з іх Вы вучыліся пісьменніцкай справе?*

— У каго вучыўся? Складанае пытанне. Бадай што, ні ў кога не вучыўся манеры і спосабу мыслення. Затое ва ўсіх вучыўся любові да чалавека і людзей і жаданню па меры сваіх слабых сіл таксама хоць крышку дапамагчы ім. Хоць бы на адно кароткае імгненне.

Вучыўся іх жаданню падаць чалавеку, калі яму, можа, сумна і самотна, сігнал: «Смялей. Ты не адзін». З беларускіх пісьменнікаў вучыўся гэтаму, мабыць найбольш, у Багдановіча, Купалы, Коласа і Гарэцкага. Іншых ужо называў. Ага... сярод іх ледзь не забыў Кіплінга. Аднак заўсёды стараюся заставацца ўсё ж самім сабою. Калі добрая думка, якая хвалявала мяне гадамі, выльецца на паперу, а пасля я сустракаю нешта падобнае і выказанае глыбей і лепей у творах іншых сучасных пісьменнікаў, адчуваю вялікае задавальненне. Гэта азначае, што думка насілася ў паветры, што так думалі і іншыя, што я не адзін.

*— Што больш за ўсё хвалюе Вас, калі пачынаеце працаваць над новаю кнігаю?*

— Думаю пра тое, каб напісаць першы аркуш без адзінай памаркі. Гэта значыць, што пасля ўсё пойдзе добра. Маё своеасаблівае правіла: я не прытрымліваюся «эстэтыкі пакрэсленага рукапісу». Любую справу трэба рабіць хвацка. Дзесяць гадоў вучыся, але калі ўзяўся за сякеру, дык сячы як належыць. Думаю над кожнаю фразаю, варочаю яе ў мазгах сто разоў, кожны раз мяняючы, вымаўляю яе ўголас, перабіраю мноства варыянтаў і толькі тады запісваю самую, на мой погляд, удалую, начыста і намёртва.

*— Пра што Вы пішаце, або іншымі словамі: якая асноўная рухаючая сіла Вашай творчасці?*

— Справа ў тым, што ў наш час людзі ў чымсьці нівеліруюцца. Носяць аднолькавае адзенне, жывуць у падобных дамах, кватэрах, хатах, ядуць адны і тыя ж стравы, і побыт людзей амаль аднолькавы — у Маскве і ў Мінску, у Вільні і ў Рызе... Але ж кожны народ цікавы ў многім менавіта сваім спосабам жыцця, мыслення. Калі, да прыкладу, узяць дзесяць тысяч аднолькавых кавалачкаў смальты і пакласці іх побач, то атрымаецца проста падлога ў ваннай, а калі кавалачкі будуць рознакаляровымі — можна зрабіць цудоўную мазаіку. Я за тое, каб кожны народ, і ў першую чаргу мой, меў сваё аблічча, свой колер, свае адценні, быў непадобны да суседа, выклікаў пачцівае здзіўленне і жаданне яму наследаваць, жыць такім самым яскравым, непадобным і прыцягальным жыццём.

*— А для каго пішаце?*

— Для тых, хто любіць і чытае мяне, — каб парадаваць іх. Для тых, хто не любіць, — каб раззлаваць. Для тых, хто яшчэ не ведае гісторыі даўняй культуры і літаратуры Беларусі, — каб абудзіць іх цікавасць.

*— Часта сюжэты ў Вас вельмі мудрагелістыя...*

— Так. І гэта таму, што я стараюся пражыць свой век як найцікавей, каб дзень не быў падобны на дзень. Калі працую — не, тады, вядома, дні больш-менш аднолькавыя і розняцца толькі тым, пра што я сёння пішу, тады я проста працую без адпачынку, і днём і ноччу. А вось калі работы часова няма — то тады я іду ў мора з рыбакамі, лаўлю з імі рыбу, слухаю і прымаю ўдзел у іх размовах... Швэндаюся па самых глухіх кутках і фатаграфую (хай сабе па-аматарску) старыя цэрквы, курганы, гарадзішчы, тыпы людзей... Еду ў іншыя гарады і прападаю там у кнігасховішчах ці ў розных цікавых людзей... Іду ў лес, раскладваю вогнішча, хаджу па вёсках, складаю ў капы сена, адным словам, працую і жыву. Трэба здымацца ў кіно ў ролі каталіцкага святара — здымаюся. Трэба «пагутарыць» з мядзведзем — «гутару». Трэба бервяно абчасаць — умею.

*— Карыстаючыся пачатай тэмай, запытаю: што Вам найбольш падабаецца ў самім сабе?*

— Абсалютна нічога.

*— А што не падабаецца?*

— Вы што, допыт мне ўчыняеце? — з усмешкаю і ўяўнай строгасцю пытае ён. — А ўвогуле, магчыма, і не падабаецца і падабаецца мая звычка ўмешвацца ў розныя справы, якія чыняцца на белым свеце. Падабаецца блукаць у такіх мясцінах, дзе яшчэ мала хто быў, апускацца ў пячоры, лазіць па падземных хадах пад старымі будынкамі, разгадваць усякага роду загадкі... І ў той жа час гэта мне не падабаецца, таму што прыносіць кучу бедаў. Нядаўна, напрыклад, два таварышы ўздумалі паўтарыць адзін апісаны мною маршрут і моцна пацярпелі там. Я прашу ў іх прабачэння і засцерагаю: перш чым узяцца за нешта такое, спытайце ў мяне. Мінулі гады, і адносна бяспечнае ўчора месца можа сёння пагражаць, скажам, абвалам ці нават нечым горшым. Не рызыкуйце там, дзе рызыкаваў я. Бо там, дзе я ішоў на рызыку, я адказваў толькі за самога сябе, сабой, а не пакутамі сумлення за кагосьці.

*— А калі паставіць пытанне так: ці знаёмае Вам пачуццё творчай няўпэўненасці?*

— Не. Я ніколі не бяруся пісаць пра тое, да чаго ў мяне не ляжыць душа. Калі я ведаю, пра што я хачу пісаць, я ведаю і як пісаць. Таму ў мяне практычна няма чарнавікоў. Ёсць толькі накіды сюжэта. Накіды гэтыя падобныя на галаваломку, сам чорт нагу зломіць. Там усё: героі, абстаноўка, планы месца дзеяння, жыллё дзейных асобаў аж да таго, што відаць з кожнага акна, падрабязныя біяграфіі герояў (яны пасля не ўвойдуць у твор, але пішучы іх, я ведаю, як будзе паводзіць сябе чалавек у самых складаных абставінах), манеры герояў, іх учынкі і іншыя дэталі. Абдумаю як след — сядаю за стол. Калі штосьці не клеіцца, пахаджу па пакоі, пакуру, каву згатую — і зноў за работу. Слова павінна ўлезці на сваё месца адразу, як цвік. І апошняя гэта справа сто разоў выцягваць яго абцугамі і забіваць зноў.

*— Уладзімір Сямёнавіч, а чаму Вы назвалі свой апошні празаічны твор «Зброя» аповесцю? Ці не з'яўляецца яна своеасаблівым працягам рамана «Каласы пад сярпом тваім»: галоўныя героі адны і тыя ж?*

— Не. Гэта не працяг рамана, а яго адгаліноўванне. Галоўныя героі тыя ж, але яны дзейнічаюць у іншых умовах і іншы раз не зусім так, як табе хочацца. Дзеянне адбываецца ў Маскве. Але гэта не Масква Пушкіна і Бялінскага, дзе жывуць высокімі ідэаламі ці, прынамсі, добрымі манерамі, дзе ветліва цалуюць ручкі дамам, дзе гутараць аб высокіх матэрыях, дзе пануе павага да людзей. Гэта Масква Сухараўкі і Хітрова рынка, маскоўскае дно, якое і Гіляроўскаму не снілася.

*— Значыць, аповесць трэба ўспрымаць як самастойны твор, калі я не памыляюся?*

— Толькі так. У нас, у Прыдняпроўі, норавы заўсёды былі і ёсць такія: калі гулянне — стаў апошні рубель, калі просіш — то ад душы, а пагражаеш каму-небудзь — яму не здабраваць! А тут Алесь трапляе ў абсалютна чужое, незразумелае яму асяроддзе, дзе можна прыгразіць і забыць, дзе на словах можна даравацъ, але да смерці помніць зло і пры зручным выпадку ўдарыць. Адным словам, дзе законы такія: хочаш выжыць — умей хітрыць, выкручвацца, хлусіць.

*— Але ж мэта ў Алеся і яго сяброў застаецца паранейшаму тая ж.*

— Так, ім трэба знайсці і купіць зброю, хоць бы 3000 ружжаў для паўстанцаў. А гэта справа далёка не простая.

*— Пэўна, таму аповесць называецца «Зброя», ці яе назва мае і іншую, унутрана падтэкставую нагрузку?*

— Ваша праўда, назва — сімвалічная. «Зброя» — гэта значыць, што так нельга жыць далей грамадству, у якім жыве Алесь, што настаў час мяняць самадзяржаўны лад, што народ прыйшоў да гэтага і рыхтуе сваю зброю.

*— Як бы Вы растлумачылі сваю нязменную цікавасць да гістарычных сюжэтаў?*

— На гістарычных сюжэтах я ствараю сваю матрыцу будучыні. Калі ты ў пэўнай сітуацыі калісьці зрабіў так, а не інакш, то і праз сто, тысячу гадоў ты ў падобных абставінах зробіш у нечым падобны ўчынак. Кожны гістарычны сюжэт — гэта адкрытая размова з сучаснікам. А дзе яшчэ можна паказаць так поўна чалавека, што стаіць перад выбарам, кім яму быць, калі не на фоне гісторыі, вайны, экстрэмальных умоваў, у якія трапляе гэты чалавек, і праяўляецца ўвесь да канца, да тых рысаў характару, якія ён, можа, і сам не падазраваў у сабе?

*— А што Вы скажаце пра свой раман «Чорны замак Альшанскі»? У ім побач з прыгодніцка-дэтэктыўным — і гісторыя, і сучаснасць?*

— Гэта чысты дэтэктыў. І нічога больш.

*— Дазвольце не згадзіцца. Ва ўсіх Вашых творах (і гэты раман не выключэнне), на мой погляд, прысутнічае як характэрны ўнутраны падтэкст гісторыка-патрыятычны пачатак, які нясе ў сабе сапраўдную ўлюбёнасць ва ўсё роднае: прыроду, гісторыю і культуру Беларусі. І калі адкінуць усё гэта і глядзець на раман толькі як на займальны «чысты» дэтэктыў, то, напэўна, — гэта ўжо будзе не Караткевіч.*

— А я ніколі не лічыў дэтэктывам раманы пра маёра Проніна. Дэтэктыў, калі яго разумеюць як трэба, гэта таксама добрая літаратура (іншыя справа, ці здолеў я ў «Замку» ўзняцца да яе). Перш за ўсё таму, што там не павінна быць голай схемы, па якой дзейнічаюць загадзя ясныя нам героі, а павінны быць жывыя людзі. І яшчэ павінна быць смяротная нянавісць да зла.

*— Кажучы пра сувязь гісторыі і сучаснасці, я хацела б пачуць Вашу думку аб тым, па якой прычыне некаторыя пісьменнікі і творы з часам «старэюць».*

— Цяжка адказаць на гэта пытанне адназначна... А Вы ўспомніце, колькі шэрых клетак у чалавечым мозгу. Яны стамляюцца. Яны адміраюць. Стамляецца і старэе пісьменнік, а разам з ім і чытач. Старэюць праблемы. Старэе час. Не так ужо рэдка бывае, што целам чалавек яшчэ малады, а душою безнадзейна стары. І наадварот. Гэта — бяда. Крыўдна і тое, што, маючы ў галаве шмат новых сюжэтаў, ты не можаш, як у маладосці, сядзець за сталом па дзесяць-дванаццаць гадзін не ўстаючы... Я хачу сказаць вось што. Творы, напісаныя пісьменнікам на ўзлёце сіл, часцей за ўсё і застаюцца яго лепшымі творамі, жывуць доўга. Думаю, што мала хто цяпер стане перачытваць «Астравы ў акіяне» Хэмінгуэя, але тое, што ён напісаў на ўзлёце сваіх творчых сіл, — «Па кім б'е звон», «Стары і мора» — будзе хвалявацъ яшчэ доўга.

*— Прабачце, я мела на ўвазе тое, што некаторыя пісьменнікі (або іх асобныя творы) праз гадоў 20—30, а то і менш, ужо не цікавыя і да іх не вяртаюцца. Напэўна, у маім пытанні не так прагучала слова «старэюць». Працягваючы пачатую думку, я спытала б: якія чалавечыя якасці Вы больш за ўсё цэніце ў пісьменніка? Якія якасці не старэюць?*

— Праўдзівасць! Ніколі не хлусі, калі пішаш. Асабліва пра дужа важныя пытанні зла і дабрыні, любові і нянавісці, смерці і бяссмерця, гуманізму і чалавека免ненавісніцтва. Але нават і ў дробязях дзейнічае гэты закон: не хлусі, пішы так як ёсць (іншая справа, што выпадкі могуць быць

неверагодныя). Усё адно: калі чагосьці не ведаеш, лепш не бярыся за пяро.

Была са мной адна гісторыя: атрымліваю ліст ад аднаго чытача маёй «Чазеніі», вучонага-біёлага, які абвінавачваў мяне ў тым, што я схлусіў, апісваючы эпізод з леапардам (там ён адгрызае галаву ў забітага ім звера). Маўляў, такога не бывае. Ведаю я звычкі многіх звяроў, сам шмат назіраў за імі на далёкім Усходзе. Расказвалі мне пра такую звычку і шматлікія паляўнічыкі, з якімі я сустракаўся там. Але, відаць, для майго біёлага і гэтага мала. Тады мне давялося-такі палазіць па кнігах. І ўрэшце я ўсё ж знайшоў. У кнізе «Запаведнік „Кедравая падзь"», выдадзенай да 50-годдзя гэтага запаведніка, я ўрэшце чорным па белым прачытаў на старонцы 43: «Интересно, что у всех его (леопарда) жертв, даже если они не полностью съедены, всегда отсутствует голова».

Кнігу гэтую, у ліку іншых, пісаў дырэктар запаведніка, мой добры знаёмы А. Панкрацьеў. Трэба пісаць так, каб не хлусіць ні ў вялікім, ні ў малым (якім бы неверагодным ні было тое, пра што расказваеш). Трэба, каб табе неагляднa верылі. Тады ў цябе будзе больш шанцаў, што ты даўжэй не «састарэеш».

*— Фолкнер аднойчы сказаў: «Калі хочаш даведацца, хто добры пісьменнік, запытай у яго калегаў, яны ўкажуць на яго сваёй непрыязнасцю». Колькі ў гэтай парадаксальнай думцы рацыі?*

— Ну калі, скажам, прымяраць гэтую думку на мяне, то няма на Беларусі «горшых» пісьменнікаў, чым Барадулін і Танк, Панчанка і Брыль або, скажам, Быкаў. Ніколі ў жыцці я не «ўказваў на іх сваёй непрыязнасцю», хоць я не ўсяедны і некаторыя іх рэчы могуць мне не падабацца. Гэта пісьменнікі, якія зрабілі б гонар кожнай літаратуры. А Фолкнер? Што ж, магчыма, Фолкнер па-свойму ў чымсьці мае рацыю. Гэта, мабыць, было сказана ў хвіліну цяжкага расчаравання ў сабе і ў людзях, калі на хвіліну падумаў, што праца твая дарэмная, у хвіліну, калі табе ў адказ на парыў душы адказалі ўдарам. Крывадушныя людзі не пераводзяцца.

*— Уладзімір Сямёнавіч, уявіце сабе, што Вас папрасілі скласці анталогію з пяці аўтараў сусветнай літаратуры. Якіх бы Вы выбралі?*

— Я ўжо адказаў. Гэта ўсё адно што выбраць пяць чалавек, якіх можна ўзяць ва ўратавальную шлюпку. Толькі пяць, а астатнія загінуць. Не ўжо! Я бяру з сабою ў шлюпку ўсіх, а калі яна пры гэтым патоне разам са мною, то няхай. Нельга пакінуць кагосьці. Усе яны аднолькава пакутавалі над словам і над лёсам людзей. *(Паказваючы на кніжныя паліцы.)* Усе яны мае любімыя пісьменнікі. Іх так шмат, і кожны з іх мне да смерці дарагі. Усе яны са мною, і толькі пяцёх з іх я не магу назваць. Вазьміце ўсіх, хто любіў людзей, мучыўся за іх і быў сумленны. Вазьміце ўсіх, хто ўзяў за правіла цудоўныя словы Дон Кіхота: «Сеньёры, вас пяцёра і вы напалі на аднаго. Значыць, няма вашай рацыі. Бараніцеся, сеньёры!».

Усё жыццё найлепшыя з нас стараюцца быць вернымі гэтаму прынцыпу. Былі верныя. Верныя цяпер. І дасць Бог... будуць яшчэ. А як гэта ўдавалася кожнаму — хай судзяць людзі.

* * *

*...Уладзімір Караткевіч быў сапраўды надзелены асаблівай харызмаю, тым Божым дарам з вышыні, які зачароўвае ўсіх, хто дакрануўся да яго асобы, да яго творчасці.*

*Цяпер я разумею, чаму мне так неабходна было расказаць пра яго, пра наша сяброўства, якое доўжылася на працягу чатырох гадоў, да яго апошняй у жыцці вандроўкі — па Прыпяці. Дазваляю сабе так думаць, таму што Уладзімір Сямёнавіч па-сапраўднаму ўмеў сябраваць з людзьмі, якіх дапускаў да сябе. Кантакт з гэтым цікавым суразмоўцам і мудрым сябрам («З такім хоць пад Грунвальд, у конным ці ў пешым страі») зараджае станоўчай энергіяй, бо ён сапраўдны, немітуслівы.*

*Бясстрашны рыцар сумлення і свабоды, заўсёдны рамантык, які вельмі моцна любіў Беларусь, — такім застанецца для мяне Уладзімір Караткевіч, які так яскрава адрадзіў беларускую нацыянальную ідэю. Сваёю маладою апантанасцю ён паспеў заразіць многіх беларусаў. Менавіта яго вершы і раманы, поўныя рамантызму і вялікай любові, адкрылі для многіх людзей сапраўдную Беларусь і прымусілі задумацца пра тое, што ў краіны ёсць свая гісторыя. Гісторыя старажытнай Беларусі, а не БССР або адной з земляў Рэчы Паспалітай ці губерняй Расійскай імперыі.*

*Яго свет прынцыпова адрозніваецца ад усяго існуючага ў сучаснай беларускай літаратуры. Замест той шматпакутнай, беднай, адсталай краіны са змучанымі сялянамі, якую апісваюць пакаленні беларускіх пісьменнікаў, ён паказаў Беларусь як прыгожую еўрапейскую цывілізаваную дзяржаву, якая мае не толькі цудоўную народную творчасць, але і вялікую культурную спадчыну, што клапатліва і беражліва захоўваецца нашчадкамі.*

*Першы твор, які пакарыў мяне сваёю арыгінальнасцю, быў раман «Чорны замак Альшанскі», і з таго часу я пачала шукаць кнігі Уладзіміра Караткевіча і крок за крокам адкрываць для сябе іншую Беларусь. Трапіла мне ў рукі і кніга «Зямля пад белымі крыламі», якая пазнаёміла мяне з гісторыяй краіны. Гэта было тое, што я так доўга шукала. Мне хацелася, каб настаў час, калі яе будуць вывучаць і выкарыстоўваць у беларускіх школах як падручнік гісторыі, і яе «белыя старонкі» адкрыюць дзецям усе таямніцы «белых плямаў» мінулага роднай краіны. А ёмістая і прыгожая назва «Зямля пад белымі крыламі» стане крылатаю фразаю-сінонімам усёй Беларусі. Пра гэта я сказала тады пісьменніку. Рэакцыя Уладзіміра Сямёнавіча была нечаканаю і кранальнаю. Ён падышоў да вялікай бібліятэкі, якая займала ўсе сцены кабінета, і, узяўшы апошні экзэмпляр кнігі, падарыў мне яе з аўтографам: «... на добры ўспамін, сваю зямлю! Уладзімір Караткевіч, 23 снежня 1980 г.».*

*Так яго «Зямля пад белымі крыламі», зямля буслоў, зямля замкаў і тысяч азёраў, Беларусь, стала і маёю — назаўсёды!*

*Размаўляла*
*Роза Станкевіч.*

# Нараджэнне святла



У. Пазняк.
Нараджэнне святла.

На вежы гродзенскай катэдры імя Францішка Ксавэрыя знік анёлак. Парушана гармонія. Горад ахоўвае адзін анёлак, а трэба, каб іх было двое...

...Я выходжу з дому, замест посаха пілігрыма ў маёй руцэ ружанец. Ад вуліцы Каліноўскага да Віленскай ісці лёгка — дарога бяжыць з горкі. Чацвёртую і пятую таямніцы святога Ружанца я малюся, калі паднімаюся зноў на горку па вуліцы Траецкай... Адмаўляю святы Ружанец, спяваючы ўпаўголаса рэчытатывам.

Я шукаю анёла. Разумею, што анёлы не цялесныя істоты, іх не ўбачыш на галінцы спілаванага клёна каля старога замка. Але нейкім таямнічым спосабам яны аб сабе напамінаюць — прылятаюць, дапамагаюць, суцяшаюць у смутку...Узнімаюць нашыя думкі да жадання нябесных справаў...

У мастака, пра якога я буду апавядаць, ёсць абразок «Кароткая сустрэча»...

У старым горадзе сустракаюцца змрочныя прывіды. Людзі ў горадзе ідуць па вуліцы, зачыненыя знутры,— вочы халодныя, згаслыя, думаюць пра сваё. Няма ў вачах жадання сагрэць сустрэчных сваім святлом, няма светлай радасці...

Заходжу ў катэдру, каб сагрэцца промнямі Гостыі. Прашу ў Сэрца Езуса даць мне крыху духа мудрасці... Іду далей у бок Нёмана. Паварочваю ўправа, дзе крылаты коннік нібы цягне з горкі на вуліцу, якая збягае да моста, вялізны будынак тэатра. Крылы каня я прымаю за аглоблі калёсаў, а шасцікутную грамадзіну тэатра — за воз культуры савецкіх часоў...

Каля службовага ўваходу ў тэатр мяне чакае Валодзя Пазняк, які малюе анёлаў. Валодзя працуе мастаком сцэны ў тэатры ўсяго з верасня 2009 года. Упершыню ўбачыла яго, але ўжо здалёк пазнала і супакоілася — мяне сустракае творца, мастак. Добрыя, ветлівыя вочы адкрытыя на сумоўе, на шчырасць...

Ён нарадзіўся ў 1985 годзе ў сям'і Анатоля і Ірыны Пазнякоў, якія вучыліся разам у БДУ на хімічным факультэце і прыехалі ў Гародню на завод аўтамагнітолаў, які пазней сталі называць вытворчым прадпрыемствам «Хваля». Валодзя — другі сын у сям'і, яго старэйшая сястра Алена скончыла юрыдычны факультэт і выйшла замуж у Гародні. Бацька Анатоль родам з вёскі Шышкі на Міншчыне, дзе жывуць яго бацькі Анатоль і Фаіна, там жа жывуць і яго два браты. Маці Ірына вярнулася ў Гародню, дзе жылі яе бацькі Ніна і Аляксей, але родам яны з Палесся. Бабуля Ніна памерла, а дзед Аляксей выехаў у Расею.

Калі прадпрыемства «Хваля» збанкрутавала, маці знайшла сабе працу настаўніцы, а бацька атрымаў другую вышэйшую адукацыю і працуе тэхнолагам у фірме ABC. Валодзя вучыўся ў школе № 28, скончыў мастацкі клас ліцэя № 1 і мастацкую школу ў выкладчыка Аляксандра Баярчука. Паступаў адначасна ў менскі БНТУ на архітэктурны факультэт і ў Гродзенскі ўніверсітэт на факультэт мастацтваў. Застаўся ў Гародні.

Вучыў яго мастак Аляксандр Дулуб, які малюе класічныя пейзажы. Яшчэ ў часе вучобы Валодзя хацеў уладкавацца мастаком сцэны ў лялечным тэатры, але выкладчыкі не дазволілі. На апошнім курсе арганізаваў выставу «Першае падарожжа» ў галерэі Антонія Тызенгаўза, на якой было дзесяць абразкоў: «Птушыны шлях», «Вандроўнік», «Новы дзень», «Зорка», «Горад-падарожнік», «Падарожжа ў поўні», «Паветраны карабель», «Кароткая сустрэча». Цэнтральным творам выставы быў трыпціх «Батлейка» з Дзіцяткам Езусам, спавітым у пялёнкі спавівачом так, як спавівалі ў мінулым нашы прабабулі сваіх немаўлятак. Ад Дзіцяці святлее высокая ясная дарога вечнага жыцця, на вяршыні якой стаіць цэркаўка, і значна карацейшая дарога святла зямнога, каля пачатку якой таксама стаіць цэркаўка... Увесь Бэтлеем змешчаны на калёсіках з розных дзіцячых колцаў, і цягне гэты воз у бясконцасць маленькі прапелер...

На той першай выставе быў яшчэ абразок анёла. З круглым, наіўным і мудрым тварам, у добрых, цёплых вачах якога жыве ўсясветная любоў...



У. Пазняк. Сяброўка Птушкалова.

Пасля сканчэння ўніверсітэта Валодзя адслужыў год у войску і ўладкаваўся працаваць у драматычным тэатры. Першую працу па сваёй прафесіі Валодзя робіць якраз цяпер — гэта мастацкае афармленне спектакля «Айбаліт».

У пакоі, дзе ён працуе, высокая столь і вакно на ўсю сцяну, з якога відаць мост святога Францішка. Ахоўвае працу Валодзі абразок арханёла Габрыэля, намаляваны ім у студэнцкія гады. У гэтым жа пакоі працуе мастак Алесь Сураў.

Валодзя праваслаўны. Яму дваццаць пяць гадоў, яго вымярэнне — бясконцыя нябёсы над Радзімай і над усёй планетай, увесь космас сусвету, абмежаваны прасторай памерам 50x60 сантыметраў. Ён працуе ў тэхніцы іканапісу — яечная тэмпера, ляўкас.



У. Пазняк. Птушкалоў.

Адразу пасля войска Валодзя стварыў сонечны абраз — «Нараджэнне святла». У ім сонейка, як немаўлятка, калышацца ў калысцы, або ў чоўніку, у чашы сусвету; унізе, пад калыскай, крыху змроку, з глыбіні якога ўзнімаецца некалькі сходкаў. Здаецца, усё сонца з нябёсаў, якія ахоўваў у войску Валодзя, змясцілася на гэтай карціне.

Другі абразок называецца «Птушкалоў». На ім — сумная постаць Птушкалова, які едзе на возе і грае на дудачцы сумную песню. Навокал яго — некалькі птахаў, але адзін з іх — у клетцы. Магчыма, гэта і не птахі, а сумныя думкі Птушкалова, якія вызваліць з клетак яшчэ цяжэй, чым птушак...

Трэці абразок — гэта «Сяброўка Птушкалова», у грудзях якой завязненая душа-птушка, а вакол яе — таксама некалькі птахаў. У вялікай птушкі на крыле сядзіць малая птушка, таму што Сяброўка Птушкалова марыць пра мацярынства, але яна едзе на тым самым возе, што і яе Птушкалоў... Вельмі сумныя малюнкі іх паднявольнага жыцця ў клетцы, іх не вызваленых немаўлятак, птушак-думак... Але смутак іх не трагічны, таму што навокал іх — нябёсы...

Чацвёрты абразок — «Сяброўка чорнага ката». На ім — дзяўчына ў чырвонай сукенцы. І ў змрочнай вадзе — чырвоны водбліск музыкі. Лодка — як балея. Кот адбіваецца ў мутнай лужыне — распластаны дагары лапамі. Але кот спакойны, бо ён мае сваю надзейную Сяброўку. І яснае полымя ад свечкі. Магчыма, гэтая свечка — надзея дзяўчыны. Валодзя канцэнтруе ўвагу на тварах. Постаці на яго абразках — размытыя, невыразныя. У яго філасофіі разумення чалавека галоўнае — галава, у ёй сканцэнтраваныя думка, душа і сэрца.

Пяты абразок — «Вандроўнікі». На ім — вельмі сумны, па-

глыблены ў думкі чалавек, а каля яго — сабака. Іх дом коціцца па нябёсах на адным коле. Перад чалавекам стол, на якім ляжыць вялізная рыба, па другі бок стала — яшчэ больш змрочны цень таго самага чалавека, ці яго двайніка. Магчыма, гэта Дыдымас, у апостала Тамаша быў брат-блізнюк, таму Тамаш і не давяраў людзям, бо часта ўчынкі брата, падобнага да яго, прыпісвалі яму... А, магчыма, гэта чалавек, у якога раздваілася душа. Але гэтыя двое, якія адбіваюцца адзін у адным, не прапашчыя — яны на нябёсах...



У. Пазняк. Дыялог. Вандроўнік.

Шосты абразок — з яснага блакіту, у сэрцы якога дом, нібы сусвет, які дваіцца, рытмічна паўтараецца, як верш. На пярэднім плане пад арку брамы ляціць птах з ключом у дзюбе. Другі дом, ці другая сцяна ад таго самага дома, знаходзіцца на небе. Называецца абраз — «Таямнічы краявід». Гледзячы на гэтыя таямнічыя аркі, можна ўздыхнуць па беларускіх замках у Навагрудку, Лідзе, Крэве, Любчы, Міры і Гальшанах...

Сёмы абразок называецца «Шлях дадому». Шмат прасторы ў ім займае нейкі дапатопны цэпелін. Гэта фантазія, утоеная мара чалавека, якому трэба вярнуцца дадому. Чалавек сядзіць на абмежаванай прасторы прамавугольніка паміж небам і зямлёй, да якой прыстаўлены зусім слабыя драбіны, і нейкія вяровачкі звісаюць уніз. Над чалавекам і яго фантазіяй — месяц у поўні, але фазы месяца — маладзік і ветах — расплываюцца на даляглядзе па абодва бакі поўні ў абмежаванай прасторы нябёсаў... Так, як на чужыне...

Яшчэ там была анімацыя — нейкі лялечны конік скакаў па карцінцы. Змест анімацыі затоены ў вершы Алеся Камоцкага, які я не змагла прачытаць, бо ён увесь час скакаў і знікаў, як той конік. Але ў мяне ёсць свае вершы і пра коніка *ў яблыкі, які наворвае бульбачку, якую я капаю, якую я не садзіла*...

і пра анёлкаў:

*Пакінуў анёл Краіну і паляцеў на чужыну. Я дома, як на чужыне, сумую па роднай Краіне... Магчыма, і не па роднай — да Беларусі падобнай, да песеннай, старамоднай, намаляванай і добрай... Пакінуў мяне анёле, як ластаўку на частаколе, а мама ў снах, як жывая, дома мяне чакае*...

А пазнаёмілася я з творамі маладога мастака на калектыўнай выставе, прысвечанай анёлам у Музеі гісторыі рэлігіі. Там былі змешчаны тры абразкі Валодзі Пазняка з нізкі «Смутная мелодыя часу». Гэта яго самыя новыя творы. І прыцягнулі яны мае вочы, таму што — гэта намаляваныя фарбамі вершы.

На першым абразку ў вельмі старой лодцы сядзіць анёл... Магчыма, гэта чалавек, мысляр, творца. Паабапал яго — анёлы, якія нахіляюцца да чалавека, з крыламі і постацямі анёлаў, якіх традыцыйна малююць на ўсіх абразах свету, але твары больш падобныя да дзявочых. І пад анёламі і зверху — маладзік, як німб... Тры анёлы ахоўваюць сваю абмежаваную частку свету, свае намаляваныя нябёсы.



У. Пазняк. Анёл.

Другі абраз — «Сонца свеціць для ўсіх». У такой жа старой лодцы — сонейка адпачывае, на калёсах з прапелерам — анёл іграе на флейце, пад калёсамі — месяц, як начное адлюстраванне лодкі...

Трэці малюнак — «Зямны

анёл». На ім — вобраз дзяўчыны з анёльскім тварам, у зялёнай сукенцы надзеі, з валасамі, упрыгожанымі чырвоным матыльком. Паабапал дзяўчыны — злыя лялькі, якія спакушаюць яе: адна лялька, як жывы шкілет, другая лялька прыкрывае свае грудзі белай чыстай кашулькай, магчыма, з хросту або з першай споведзі. Высока ў нябёсах у лодачцы ледзь святлее ясны дух анёлаахоўніка дзявочай чысціні. Анёлы робяцца відочнымі ў хмарках!



У. Пазняк. Зямны анёл.

Магчыма, гэта сучасніца мастака і яго сімпатыя. А магчыма, гэта святая Марыя Магдалена.

Месяц, які пераплывае з аднога абраза ў другі і свеціць то знізу, то зверху, падобны да маладзіка на абразе Маці Божай Вастрабрамскай. Лодка, якая плавае з адной прасторы ў другую, каб перавозіць анёлаў, вандроўнікаў, паляўнічых і дзяўчат, нагадвае мне, што апосталы Пана Езуса былі рыбакамі. Святы Пётр быў не такім удалым рыбаком. У ягоных сетках увесь час было пуста. Гэта Езус, які быў цеслем, умеў выбраць месца, дзе было шмат рыбы... Дзіўна і прыгожа, што малады мастак нагадаў мне Апостала, які стаіць каля вытокаў веры, надзеі, любові, радасці стварэння хараства. Усе цэнтральныя постаці на Валодзевых абразках маюць падабенства. Іх смутак і спакой — з дабрыні і любові, іх ціхая радасць, як невад, якім яны ловяць святло. Паўсюль — ветлівасць, шчырасць, стрыманасць, цярплівасць, лагоднасць... Валодзя стварае вобразы людзей простых, добрых, высокіх духам, чыстых. Я зусім не гавару пра мастацкія сродкі, бо ў гэтым выпадку для мяне важным з'яўляецца шлях, які выбраў малады творца, — птушыны шлях лёту анёлаў, птушыная дарога.

І так мне стала добра, што я шукала анёла і знайшла яго на абразах Валодзі Пазняка, равесніка майго старэйшага ўнука Стася. Валодзя мае цвёрдую пастанову жыць і выяўляць з невідочнасці анёлаў тут, у горадзе свайго нараджэння, на мосце святога Францішка, дзе сэрцу лёгка знайсці і ўбачыць слова... дзе вандруюць па Нёмане і па аблоках над старымі дамамі ў старых лодках Вандроўнікі, Птушкаловы і іх Сяброўкі, Мысляры, Дыдымасы, Анёлы.

Езус хадзіў па свеце як Вандроўнік...

«*Ёсць яшчэ шмат усяго, што ўчыніў Езус, але каб усё запісаць падрабязна, дык увесь свет не змясціў бы кніг, якія трэба было б напісаць*», — так закончыў сваё Евангелле апостал Ян.

Кожны з нас мае магчымасць дапісаць сваю гісторыю, сведчанне прысутнасці Езуса ў нашым жыцці. І малады мастак стварае такую кнігу ў сваіх малюнках. Нехта думае, што калі мастак малюе неба, ён хоча яго прысвоіць. Наадварот — ён хоча спадабацца Богу, ствараючы маляванае неба для маляваных анёлаў. Анёлы і людзі існуюць на адной зрокавай прасторы, у адной раме, але яны не зняволеныя ў ёй. Абразы Валодзі Пазняка нагадалі мне, што творцы — як малыя дзеці. Я пра гэта за халодную зіму зусім забылася...

Я знайшла анёлаў на абразах Валодзі Пазняка, дзе яны выяўленыя з невідочнасці. Але невідочных анёлаў значна болей, чым відочных, анёлы ёсць не толькі ў гэтым месцы, яны ўсюды, дзе ёсць добрыя людзі.

*Квітнее Край такі добры — анёлак грае на домбры... Рэчка, бераг бязлюдны... Анёлак грае на лютні... Людзей калечаць асколкі — скалечаных лечаць анёлкі...*

*Вушы глухія... Вочы сляпыя... Вусны нямыя... Анёлы святыя...*

*Данута Бічэль, Гародня.*

**Данута БІЧЭЛЬ** — паэтка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Нарадзілася ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. У 1962 г. закончыла Гродзенскі педінстытут імя Я. Купалы. Аўтар кніг паэзіі «Дзявочае сэрца» (1960), «Нёман ідзе» (1964), «Запалянкі» (1967), «Доля» (1972), «Ты — гэта ты» (1976), «Браткі» (1979), «Дзе ходзяць басанож» (1983), «Загасцінец» (1985), «Даўняе сонца» (1987), «А на Палессі» (1990), «Божа, мой Божа» (1992), «Снапок» (1999), «На белых аблоках сноў» (2002), «Стакроткі ў вяночак Божай Маці» (2004), «Ойча наш...» (2008), а таксама кнігаў прозы «Хадзі на мой голас» (2008) і «Мост святога Францішка» (2010).




# Ён пакінуў нам дары свaёй душы

**Сваяк, К. Выбраныя творы / Уклад., прадм., камент. І. Багдановіч. — Мінск: Кнігазбор, 2010.**

Гэтая кніга па сваёй сутнасці і пабудове ў нейкім сэнсе нагадвае мне казачны вобраз дрэва, на якім вісіць куфар, у куфры — заяц, у зайцы — качка, у качцы — яйка, у яйку — іголка, што з'яўляецца асноўным і адзіным сродкам перамогі над увасабленнем зла — Кашчэем... У сувязі з гэтым раю дапытліваму чытачу заглыбляцца ў гэтую кнігу паступова ад раздзела да раздзела, кіруючыся ў сваім знаёмстве з асобаю і творчасцю Казіміра Сваяка (святара Канстанціна Стэповіча) той дарогаю, якую пазначыла руплівая збіральніца яго шматграннай пісьмовай спадчыны, укладальніца кнігі, даследчыца-літаратуразнаўца, вядомая паэтка Ірына Багдановіч. Справа ў тым, што кожны з чарговых раздзелаў кнігі, з'яўляючыся самадастатковым і самакаштоўным, адначасова па-асабліваму асвятляе папярэдні раздзел, нібы дае разгадкі на некаторыя з пытанняў, што могуць узнікнуць у працэсе знаёмства з творчасцю Казіміра Сваяка. Яе ідэі і матывы не з'яўляюцца выпадковымі, яны сталі плёнам «безупыннай творчасці духу» аўтара і, арганічна пераходзячы з аднаго літаратурнага жанра ў другі, мацнеюць і ўзбуйняюцца, набываюць штораз большую пераканальнасць і яснасць. А перадапошні, мемуарна-эпістaлярны раздзел кнігі, у які ўваходзіць дзённік Казіміра Сваяка «Дзея маёй мыслі, сэрца і волі», — гэта нібы тая ж «іголка», што выяўляе духоўны стрыжань мастацкай і публіцыстычнай творчасці паэта-святара, стрыжань яго барацьбы з ворагамі чалавечай душы...

Сапраўды, асноўнае заданне святара — ратаваць душы і дапамагаць ім атрымаць збаўленне. Роднасную задачу выконвае і паэзія. На гэтым у першую чаргу акцэнтуе ўвагу і Суліма (Уладзімір Самойла) у артыкуле «Cor ardens», прысвечаным творчасці Казіміра Сваяка і змешчаным у «Дататку» да кнігі: «...Паэт робіцца быццам *праўдзівым святарнікам-капланам* сярод людзей, праз душу і словы якога плыве ў іх душы — з гары ці з долу, а перадусім з нетраў самой усёажыўляючай, усёсцаляючай Боскай Прыроды — нейкі быццам Святы Дух, — сапраўдная цудатворная ласка». Але ў гісторыі літаратуры было і ёсць нямала паэтаў-святароў. Казімір Сваяк, яднаючы ў сабе гэтыя два пакліканні, дбаў пра нешта асаблівае, меў выключную заслугу ў сферы сваёй дзейнасці — ён рупіўся пра выратаванне *душы народа*. З сукупнасці сабраных у кнізе твораў Казіміра Сваяка відаць, што гэта быў яго асноўны боль, адважуся сказаць — *благаслаўлёны* боль, які не аслабляў дух паэта, а ўзмацняў яго, не перамагаўся паэтам, а быў зброяй для змагання супраць усіх ворагаў народнай душы. Сутнасць жа гэтай народнай душы выкрышталізоўваецца ў разуменні чытача, як я ўжо адзначала, па меры заглыблення ў кнігу. «*Не вам, паклоннікі бясплоднай голі, // Душы народнае шлях-волю дыктаваць!* <...> *Не вам, не вам, раскольнікі-бязверцы, // Душы народнае скарбніцу раскрываць!*» — піша Казімір Сваяк у публіцыстычным вершы «Айчыны будаўнічым наёмным». А калі «не вам», то значыць каму? Адказ даецца ўжо ў назве наступнага верша — «Ксяндзам-беларусам»: «*Адважным будзь, бо ты, слуга Хрыстовы, // Не знаеш над сабой аніякіх паноў, // І чуткі будзь, як лірнік Давідовы, // Душа народная — то ліра... досыць слоў!*». Гэтыя два вершы — адзін са створаных Сваяком абразкоў змагання, вартасць якога лагічна даведзена ў публіцыстычным артыкуле «Пратэстанты ў Ваўкавыску»: «Ідзе змаганне не толькі за зямлю яго [беларуса. — *Г.С.*], лес і воды, але і за тое, што найдаражэйшае: за яго душу...»

Мастацкі вобраз «духу айчыны», што прыходзіць да лірычнага героя ў Дзень задушны, каб сказаць яму «пацехі слова» (верш «На Дзяды»), таксама падмацоўваецца публіцыстычнымі разважаннямі ў артыкуле «Царква ці Касцёл». Казімір Сваяк называе яго «духам, каторы ў глыбіні сваёй не зламаўся пад згаршэннем, якое далі вышэйшыя станы»; «духам, каторы моцны быў у змаганні з цараслаўем і польскаслаўем»; «духам, каторага *мучаніцтва не апісаў яшчэ ніхто*».

Заканамерна, што ў аснове народнага духу, як і народнай душы, святар Канстанцін Стэповіч бачыў веру народа, кажучы, што «душа народа мусіць быць узапраўды рэлігійнай — злучанай з боскім ідэалам — іначай народ сканае».

Калі жанры мастацкай літаратуры і публіцыстыкі можна параўнаць з

публічным выступленнем аўтара перад пэўнай аўдыторыяй, то творы мемуарыстыкі хутчэй нагадваюць інтымную гутарку з асобай, якой шчыра давяраеш. І хоць дзённік Казіміра Сваяка «Дзея маёй мыслі, сэрца і волі» ўжо двойчы выходзіў асобным выданнем, ва ўкладзенай Ірынай Багдановіч кнізе ён з'яўляецца нібы лагічным працягам агульнага аповеду пра «дзею» мыслі, сэрца і волі народа, што вёўся на працягу ўсяго выдання дагэтуль. Чытаеш вершы, апавяданні, п'есы і артыкулы Казіміра Сваяка, прысвечаныя самай разнастайнай тэматыцы (гэта ў першую чаргу пытанні нацыянальнага і рэлігійнага адраджэння ў Беларусі, праблемы беларускай мовы, гісторыі, мастацтва), — нібы збіраеш у скарбніцу сваёй душы жывыя чыстыя пялёсткі, а пасля заглыбляешся ў шчыра-спавядальнае слова Казіміра Сваяка ў яго «Дзеі...» — і ўсе гэтыя пялёсткі злучаюцца з адной сарцавінай, укладаюцца ў стройную сістэму-арганізм, утвараючы неўміручую кветку душы самога аўтара, душы, скарбы якой ён таксама пакінуў нам на гэтай зямлі. У дадзеным выпадку хочацца паўтарыць за Сваяком яго ж словы, запісаныя пасля смерці сябра Кунцэвіча: «Прашу цябе, пакінь мне дары душы тваёй: каб я мог Богу верыць, як ты; каб мілым быць усім; каб мець глыбокі характар, як твой...»

Акрамя таго, разважаючы над «Дзеяй...» Казіміра Сваяка, кожны творца можа вынесці простую, але чамусьці недасяжную для многіх навуку аб тым, як пабудаваць сваю творчасць на скале, а не на пяску: хочаш працаваць на вялікім жніве хрысціянства — сам стань падобным да Хрыста; хочаш працаваць дзеля дабра народа — палюбі яго і стань такім, як ён. «Цярпення хачу, але такога, каторае з мяне зрабіла б чалавека стальнога характару. Народ наш вялікі, а лічыцца найменшым. Няхай і я — сын яго — такім буду. Народ наш нешчаслівы, без сучаснасці пэўнай, без будучыні яснай — але глыбокі ў жыцці сваім ціхім, скрытым, спеўным. Няхай і з маім так будзе жыццём: глыбокасць духу, шырокасць сэрца, агонь мовы і песня, песня тайнічая, бязмерна сумная, хоць *вечнай спадзеяй жывая*», — занатоўвае Казімір Сваяк у дзённіку за 5 мая 1915 года. Калі гэтак, больш асабіста, знаёмішся з аўтарам, больш «асабістымі», бліжэйшымі для цябе становяцца і ўсе іншыя творы ягонай душы, і кожны яго верш пачынаеш не проста разглядаць як факт мастацтва і гісторыі літаратуры — пачынаеш яго разумець як згустак чалавечага болю, няхай нават у літаратуразнаўстве гэта называюць усяго толькі вобразам лірычнага героя...

Незвычайна важная ў кнізе «Выбраных твораў» Казіміра Сваяка і роля «Дадатку», куды ўваходзяць аналітычныя артыкулы і ўспаміны сучаснікаў пра паэта-святара, а таксама «вянок» прысвечаных яму вершаў. Гэтыя матэрыялы дадаюць да аблічча Сваяка такія рысы, пра якія ён сам ні ў творах, ні ў дзённіку не абмовіўся нават ускосна (мабыць, з-за выхаванай у сабе пакоры і сціпласці). «Апошнім грошам беднай дзятве школьнай памагаў, даруючы ёй школьнае прыладдзе, сшыткі, падручнікі, а часта і... абутак ды вопратку (!). — Успамінае Альфіч (Адольф Клімовіч) у артыкуле «За Каз. Сваяком (Жменя асабістых успамінаў)». — Рабіў жа гэта так, што ніхто не ведаў, скуль даравание дастае, каму мае быць удзячным. <...> Усяго дапільнаваў, аб усім стараўся, сам для сябе толькі хапіць не мог, і апошняе сталася нябожчыку крытычным».

Матэрыялы «Дадатку» асвятляюць і палеміку, якая ўсчалася ў літаратурнай крытыцы пасля смерці паэта-святара і была звязана з выяўленнем рэлігійных перакананняў у спадчыне Казіміра Сваяка (артыкулы Антона Навіны «Казімір Сваяк» і адказ на яго Светазара «К. Сваяк як паэт рэлігійны»). Гэтая палеміка паказала ў свой час, што ні ў творчасці Сваяка, ні наогул у жыцці нельга раздзяляць і тым больш супрацьпастаўляць веру ў Бога і веру ў свой народ. Ірына Багдановіч у грунтоўнай прадмове да выдання, якая мае красамоўную ў гэтым плане назву «З народам да Бога», падкрэслівае выснову аб тым, што «Сваяком-паэтам тварылася вершаваная гісторыя лёсу беларускага народа ў кантэксце біблейскай гісторыі». Даследчыца даводзіць, што гэта датычыць не толькі біблейскай вобразнасці ў творчасці Казіміра Сваяка, а ўсяго яе духу. Відавочна, што і літаратурная спадчына Сваяка, і глыбока хрысціянскі падыход даследчыцы да яе аналізу ўгрунтаваны на адным «камені» — веры і разуменні таго, што «гісторыя ўсіх народаў нясе ў сабе заклік перайсці ў гісторыю збаўлення» (Ян Павел ІІ, «Памяць і самасвядомасць»). Убачыць гэту ідэю ў працах святара і паэта Канстанціна Стэповіча, зажыць ёю як сваёй і прыкласці неверагодныя намаганні да максімальна поўнага збору невядомых яшчэ беларусам твораў Казіміра Сваяка, рассыпаных па розных архівах, па рукапісах і даўніх друкаваных выданнях, а таксама зрабіць іх тэксталагічную апрацоўку — вось праца, якая мае права называцца не толькі даследчыцкай і літаратуразнаўчай, але і апостальскай.

Кажуць, што ёсць проста зборы выбраных твораў, а ёсць кнігі — цэльныя, закончаныя, са сваёй унутранай дынамікай і духам. Такія выданні становяцца настольнымі кнігамі іншых даследчыкаў, да такіх выданняў належыць і кніга Казіміра Сваяка, што ўбачыла свет у 120-гадовы юбілей з дня яго нараджэння.

На заканчэнне хочацца выказаць нязгоду з тымі, хто, згадваючы пра заўчасную смерць такіх волатаў духу, якім быў Казімір Сваяк, звычайна гавораць, што Беларусь страціла яшчэ аднаго выдатнага дзеяча, адраджэнца і г.д. Не страціла! А набыла... хутчэй за ўсё, яшчэ аднаго заступніка за наш край перад Панам Богам. І галоўнае, каб мы самі не страцілі ў душы той скарб, аб якім з моцным болем дбаў Казімір Сваяк.

*Ганна Серэхан*

# МУЗЕЙ ПАЭТА І СВЯТАРА



Вядомаму каталіцкаму святару і паэту Канстанціну Стэповічу (Казіміру Сваяку) сёлета споўнілася 120 гадоў. З гэтай нагоды на яго радзіме ў Астравецкім раёне 2010 год быў абʼяўлены Годам Казіміра Сваяка. Паэт нарадзіўся ў в. Барані ў 1890 годзе, скончыў Віленскую духоўную семінарыю і ў 1915 г. атрымаў святарскае пасвячэнне. Прыміцыйную Імшу цэлебраваў у родным парафіяльным касцёле ў Клюшчанах, а затым выправіўся на свой першы вікарыят у камайскі касцёл. Неўзабаве ён быў пераведзены на святарскую службу ў любыя сэрцу Клюшчаны, дзе спрычыніўся да актыўнага духоўнага і культурнага ўзгадавання суайчыннікаў. За некалькі гадоў служэння арганізаваў мясцовую моладзь у знакаміты дагэтуль сваім розгаласам «Хаўрус сваякоў» — своеасаблівую культурна-адраджэнцкую суполку пры касцёле, якая фактычна вырасла з утворанага Сваяком касцёльнага хору. Хор выконваў беларускія рэлігійныя і народныя спевы і славіўся на ўсё наваколле.

Удзельнікі «Хаўрусу сваякоў» ладзілі таксама мастацкія дэкламацыі і пастаноўкі. Менавіта для такіх самадзейных імпрэзаў была напісана Казімірам Сваяком і яго першая пʼеса «Праклённае зелле», пастаўленая ў Клюшчанах у 1916 г. (пазней, у 1924 г., твор быў выдадзены пад назваю «Янка Канцавы»). Пʼеса была прысвечаная актуальным сацыяльным праблемам — змаганню за цвярозы лад жыцця, а таксама за свядомую духоўнасць і культуру народа. У роднай парафіі ксяндзом Стэповічам былі арганізаваныя школы для вясковых дзяцей і настаўніцкія курсы. Ён шырыў беларускую асвету сярод мясцовага люду і змагаўся за тое, каб касцёльнае набажэнства вялося на роднай беларускай мове. Сам падаваў у гэтым смелы прыклад, прамаўляючы казанні па-беларуску.

Адраджэнцкая дзейнасць святара беларуса была ўспрынятая як небяспечная, і яго перавялі ў Карыцін на Беласточчыне, дзе з цяжкасцю можна было б адшукаць прыхільнікаў беларусізацыі Касцёла. Дзейнасць святара-адраджэнца суправаджалася не толькі праследам, але і цяжкім захворваннем на сухоты, якое пачалося ў яго яшчэ ў перыяд навучання ў семінарыі. У 1913 г. ён лячыўся на курорце ў Закапанэ, але ў Карыціне хвароба зноў абвастрылася, і ў 1918 г. паэт зноў выязджае на лячэнне. З 1920 г. і да канца жыцця ён служыць пробашчам у засвірскім касцёле, дзе апрача душпастырскай службы і ў працэсе яе стараецца наладзіць беларускае культурнае жыццё найперш праз распаўсюджанне беларускіх газет і кніг. У гэты час найбольш плённай і актыўнай становіцца літаратурная дзейнасць Казіміра Сваяка, якую ён пачаў яшчэ будучы клерыкам у 1913 г. з верша «Прад Богам», змешчанага ў каталіцкай газеце «Biełarus», выданне якой якраз было наладжана ў Вільні:

*Я глінай мяккай у руках Тваіх, Божа...*
*Дух мой асобны нічога не можа,*
*Хоць з Тваёй ласкі і ў Тваёй сіле*
*Я несмяртэльны нават і ў магіле...*

Пачынаючы з 1919 г. паэт нястомна і шмат піша: з-пад яго пяра выходзяць глыбокія па сваёй рэлігійнай і патрыятычнай прачуласці вершы, заснаваныя на рэальных назіраннях з жыцця апавяданні з праўдзівымі народнымі вобразамі (напрыклад, вобраз Юркі беларуса), палымяная публіцыстыка на злабадзённыя тэмы рэлігійнага і грамадскага жыцця, духоўна-філасофскія разважанні, літаратурна-крытычныя і мастацтвазнаўчыя артыкулы. Усё гэта, ці то з Закапанэ, ці то з Засвіра, нязменна і амаль адразу адсылалася ў Вільню і йшло ў друк — найперш у газету «Беларуская крыніца», якая практычна штонумар

выходзіла з творамі Сваяка. Напрыклад, 14 студзеня 1919 г. газета ў рубрыцы «Свая пошта» пісала: «Казіміру Сваяку ў Закапаным: Усё тое, што Вы нам у трох пісьмах прыслалі — мы атрымалі. Падзяка Вам!...».



Адам Мальдзіс выступае на адкрыцці музея Казіміра Сваяка.

З 1920 г. рэдакцыя, якую тады ачольваў кс. Адам Станкевіч, рупілася аб выданні кнігі вершаў Казіміра Сваяка, аб чым і пісала аўтару ў той самай рубрыцы «Свая пошта». Гэтая першая і адзіная прыжыццёвая кніга вершаў Казіміра Сваяка пад назваю «Мая ліра» ўбачыла свет у Вільні ў 1924 годзе. Яе выхад засведчыў, што постаць паэта і святара з'яўляецца найбуйнейшаю на абсягу заходнебеларускай літаратуры, і ён мае ўсе падставы прэтэндаваць на ролю народнага беларускага паэта, роўнага сваім талентам Янку Купалу. Ужо па смерці паэта ў 1926 г. газета «Беларуская крыніца» ды іншыя віленскія беларускія выданні працягвалі друкаваць яго неапублікаваныя пры жыцці творы, а ў 1932 г. Адам Станкевіч выдаў яго мемуары — дзённік «Дзея маёй мыслі, сэрца і волі», які стаўся сапраўдным адкрыццём унутранага свету душы паэта — шукальніка Божай Праўды і долі для беларускага народа.

З пачатку 1990-х гадоў пачалося адраджэнне памяці пра паэта і святара: былі перавыдадзеныя яго кнігі «Мая ліра» і «Дзея маёй мыслі...», з'явіліся навуковыя публікацыі, прысвечаныя асобе і творчасці Сваяка, прайшлі вечарыны яго памяці ў Мінску і на Астравеччыне. Сёлета, да 120-гадовага юбілею паэта, быў падрыхтаваны і выдадзены ў серыі «Беларускі кнігазбор» том выбраных твораў Казіміра Сваяка, куды ўвайшло практычна ўсё, вядомае на сёння з яго літаратурнай спадчыны. Прэзентацыя гэтай кнігі на Астравеччыне спалучылася з заключнымі святочнымі мерапрыемствамі па ўшанаванні памяці паэта і святара, што адбыліся 2 кастрычніка ў Астраўцы, Баранях і Падольцах.

На свята сабралася паважная грамада сучасных духоўных і крэўных «сваякоў» Сваяка: з Вільні, Польшчы і Беларусі прыехалі прадстаўнікі вялікай і дружнай сям'і Стэповічаў — нашчадкі родных братоў і сясцёр паэта; з Гданьска прыехала вядомая даследчыца гісторыі сям'і Стэповічаў і творчасці Сваяка Алена Глагоўская; з Мінска — нястомны ў сваёй навукова-асветніцкай дзейнасці вучоны, пісьменнік і зямляк паэта Адам Мальдзіс, які адзін з першых спрычыніўся да адраджэння памяці пра Казіміра Сваяка і яшчэ ў 1990 г. падчас сустрэчы ў Рыме з папам Янам Паўлам II на яго запытанне, хто мог бы быць далучаны да ліку беларускіх святых, назваў імёны святароў Фабіяна Абрантовіча і Казіміра Сваяка — пакутнікаў за веру і беларускі народ. Гасцей з Мінска на заключных мерапрыемствах Года Казіміра Сваяка прадстаўлялі таксама дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка, мастак Алег Драбышэўскі, радыёжурналістка Галіна Шаблінская. У Астраўцы сабралася таксама немалая грамада землякоў — нашчадкаў колішніх удзельнікаў «Хаўрусу сваякоў», якія свята захоўваюць памяць пра свайго слыннага святара і паэта. А сярод іх — краязнаўцы Алесь Юркойць і Янка Драўніцкі, журналістка Ганна Чакур, сваячка і аўтар кнігі пра Казіміра Сваяка «Усе яго дарогі вялі да алтара» (2010)



Фрагмент экспазіцыі музея Казіміра Сваяка.

бібліятэкар Іяланта Валуевіч, прадстаўнікі мясцовай улады і культурных асяродкаў.

Пачаліся мерапрыемствы святочнай Імшой у гонар паэта ў астравецкім касцёле. Далей шлях у родныя Сваяковы Барані пралягаў праз Клюшчаны. У клюшчанскім касцёле пакланіліся духу паэта, а Алена Глагоўская зачытала інфармацыю з газеты «Беларуская крыніца» за 1929 год, дзе паведамлялася, як 6 мая таго ж года, у трэція ўгодкі па смерці паэта і святара, у клюшчанскім касцёле ксёндз Адам Станкевіч цэлебраваў урачыстую Імшу, прысвечаную памяці Сваяка, на якую сабралася каля 600 чалавек з усіх куткоў Беларусі: «Касцёл, поўны молячыхся, тануў у моры зелені і свечак. Прыгожыя спевы літургічныя на хорах пад кіраўніцтвам брата Сваяковага, пасла Альбіна Стэповіча <...> дапаўнялі ўрачысты настрой: усе і ўсё лучылася ў адну супольную малітву, узносячыся прад трон Бога Найвыжшага, за супакой душы Сваяка, кс. К. Стэповіча. Рай светлы вялікай душы Ягонай!» ...Гэтым разам, на жаль, аказалася, што ў клюшчанскім касцёле няма нават свайго ксяндза-пробашча! Дзверы ў касцёл, аднак жа, для ўдзельнікаў свята былі адчыненыя кімсьці з парафіянаў (дзякуй яму за тое!), але нашая грамада, пры ўсёй абсяжнасці геаграфіі прысутных сваякоў і даследчыкаў (Беларусь, Літва, Польшча), была ў дзесяткі разоў меншая, чым у 1929 г. пры кс. Адаму Станкевічу... Хочацца спадзявацца, што такая сітуацыя выправіцца ў будучым і, магчыма, штогод маёвыя набажэнствы ў клюшчанскім касцёле будуць цэлебравацца ў гонар Казіміра Сваяка (бо якраз у маі ён пайшоў з жыцця), а рабіць гэта будзе сталы клюшчанскі ксёндз-пробашч з натхнёнай беларускай душою пры вялікім сцячэнні спрагнёнага па веры і праўдзе народа беларускага «з розных бакоў Беларусі».

У Баранях удзельнікаў свята чакала надзвычайная і бадай самая важная падзея Года Сваяка — у роднай хаце паэта адбылося святочнае адкрыццё музейнай экспазіцыі «Дом Казіміра Сваяка». Гэта была, сапраўды, доўгачаканая падзея, аб здзяйсненні якой немалы час рупіліся прадстаўнікі астравецкай ды мінскай інтэлігенцыі. Наступнай часткай свята стала «акадэмія», або канферэнцыя-сустрэча, якая прайшла ў блізкіх да Бараняў Падольцах. Завяршыліся святочныя ўрачыстасці прэм'ерай спектакля па п'есе Казіміра Сваяка «Янка Канцавы», пастаўленай астраўчанскім Народным самадзейным тэатрам.

Адкрыццё Дома-музея Казіміра Сваяка — важная падзея не толькі культурнага жыцця Беларусі, але і духоўнага, бо гэта музей ***паэта і святара***. Святарскі і пяснярскі дар былі злітыя ў асобе Сваяка і праяўляліся непарыўна: святарскі голас чуўся ў ягоных творах, пяснярскае натхненне суправаджала парафіяльную штодзённасць. Усе сілы сваёй душы і хворага цела ён паклаў на служэнне «з народам — для Бога». Так ён сам вызначыў мэту свайго жыццёвага шляху. Гэта было напоўніцу самаахвярнае служэнне адраджэнню духоўнасці народа на грунце роднай беларускай мовы. Яго дзейнасць сягала ў будучыню і сталася высокім падмуркам адраджэння беларускага Касцёла, якім ён ёсць сёння. Несумненна, вялікае значэнне варта надаваць сімвалічнай гутарцы Адама Мальдзіса з папам Янам Паўлам II аб беатыфікацыі Казіміра Сваяка — ксяндза Канстанціна (Кастантага) Стэповіча. Як пры жыцці ён быў заступнікам за беларускі народ, так і па смерці сваёй анёльскай душою ён можа дапамагаць нам у нашых сённяшніх жыццёвых варунках. З вераю і чыстым сэрцам нам трэба маліцца аб гэтым, і так яно, несумненна, станецца, бо думка аб тым ужо пайшла ў Нябёсы. Дзелячыся са мной уражаннямі і інфармацыяй аб той колішняй гутарцы з Папам, Адам Мальдзіс сказаў, што для таго, каб працэс беатыфікацыі стаўся рэальным, павінны адбывацца цуды, звязаныя з імем будучага святога, а гэта найперш аздараўленні. Але для таго, каб цуды адбываліся, трэба ў іх верыць, прасіць аб іх ды маліцца. На які цуд аздараўлення можна найперш спадзявацца ў дадзеным выпадку?

Па маім меркаванні, маліцца да Казіміра Сваяка можна ў інтэнцыі цвярозасці нашай нацыі, бо першы душпастырскі трактат Сваяка, які быў апублікаваны ў газеце «Bieiarus» у 1913 г. і тады ж выйшаў асобнай брашурай, называўся «Алкаголь» і быў скіраваны супраць такога распаўсюджанага сацыяльнага зла, як п'янства. Гэтай жа балючай праблеме была прысвечана яго п'еса «Праклённае зелле» («Янка Канцавы»). Ён быў нястомным змагаром за цвярозасць, а балючая праблема застаецца актуальнай і сёння. У штодзённым жыцці Сваяк часта называўся імем Канстанты — варыянтам свайго імені Канстанцін. Гэтае ж імя выбіта і на надмагільным помніку на могілках Роса ў Вільні: «Казімір Сваяк — кс. Канстанты Стэповіч». Таму будучага святога можна прасіць аб ласцы цвярозасці, напрыклад, у такім кароткім малітоўным звароце: «Святы Канстанты-Казімір, успамажы мяне (назваць імя) у цвярозасці», — і памаліцца ружанцовую дзясятку. У сваёй святасці Казімір Сваяк мог бы стаць апекуном хворых на сухоты, бранхіты ды на іншыя захворванні дыхальных шляхоў. Трэба спрабаваць рабіць гэта са шчыраю вераю, і цуды, несумненна, адбудуцца. Клюшчанскі касцёл і Дом-музей у Баранях маглі б стаць яшчэ адным месцам паломніцтва беларусаў да сваіх святыняў.

*Ірына Багдановіч.*
*Фота аўтара.*

# КАЗІМІР СВАЯК

*З невядомай рукапіснай спадчыны*

## ЗАКАПАНЭ*

Я быў у Закапаным, сухотнікаў сталіцы,
Зімы чатыры штось на леках (на курацыі),
Шмат дзіва тут – у месці, ў акаліцы –
Калі патрафлю я, хацеў бы расказаці.

А найперш грэбень гор. Сваімі вяршынамі
Праз хмараў звал яны да неба аж дзяруцца.
Лясамі крыты склон – мадрэўцамі [1], «смрэкамі» [2] –
Даліны моў бы цуд між горамі віюцца.

Хоць хлеба тут німа, люд бойкі і здаровы;
Паветрам ён жыве, бо вельмі яно чысто,
Яно памоцна то ж на кепскія галовы,
Такі ўжо тутка край: гарысты і лясісты.

А хворых поўна тут – ня толькі на сухоты –
Ёсць з францамі найбольш (гэта нядуг багатых),
А тут найбольш такіх, ня знаюць што работы:
Трудом лячыць найлепш такіх чартоў рагатых.

Вось хочыш ты пазнаць, хто хворы, хто здаровы,
Пакінь, браток, намер: кругом тут тубэркулы,
Плююць усе аж страх і чхаюць як каровы,
Хаця жаруць і пхнуць усенькі артыкулы.

Калі няшчасце мо цябе сюды загоніць,
(Хоць лепей ты хварэй на родненькай зямліцы),
То едзь з грубой машной, бо хай жа Бог бароніць,
Як тут здзяруць цябе – здымай хоць нагавіцы.

Тут бавяцца ніштo, бываюць гульні, кіно,
А часам і канцэрт, або і прэдстаўленне,
Паненак поўна ёсць – ну, проста як мякіны –
Праз іх ты веру стрэш у вечнае збаўленне.

Бо праўду так сказаць, паветра тут такое,
Што навет конь часцей, як трэба, заржыць;
А чалавек быдло, то ж не абы якое:
Агнём пякельным прост тут кожды, брат, гарыць.

Паненкі аж вішчаць, бо дзяцюкоў замала,
Ня дзіва, што кругом курэўнікаў тут моц:
Не спіша тут сам чорт, дзеў колькі запрапала,
Штадзенны хлеб тут флірт, праз цэлы дзень і ноч...**

Ну хай ўжо будзе до, занадта (мо ты скажыш),
Я злосным вокам скрозь гляджу сабе кругом,
І мне ў канцы такі што добрае пакажыш,
Вось кіну я грымзаць няўдаленькім пяром.

Але ж я не хацеў нічога тутка зганіць;
Хто грошы мае шмат, і часу, і здароўя,
Прыедзь сюды ў «сезон», сябе каб апаганіць,
Але лячыцца тут – то смех і безгалоўе.

Хоць, праўда, ні адзін паправіўся сухотнік,
Прыдбаўшы паўпуда прынамсі жывой вагі;
Але як з гультая такі з яго работнік,
Калі бакцыл прыдаў на грэх яму адвагі.

А зрэштай ёсць людзей тут многа нат' святых,
Ня трэба і шукаць іх вельмі і далёка:
Ксяндзоў тут шмат жывець, дэвотак заклятых,
Што міласць ад людзей хаваюць так глыбока.

Чакай жа, што хацеў яшчэ я пахваліць?
О, шмат каго, браток, а найперш дахтароў,
А после гаспадынь – за тое, што даіць
Умеюць так людзей, як (не раўня) кароў.

Аб дахтарох я шмат казаць табе не буду,
Бо лечаць добра ўсе, а кожды на свой лад:
Іх проб, намоў, лякарств ніколі не забуду,
А вырвацца ад іх заўсёды буду рад.

Успомню на канцы, хоць гэта смешна можа,
Тутэйшых і кароў, што гарнякі гадуюць:
Вось дзіва, што яны настроены варожа
Да ўсіх «гасцей» і малако з вадой фальшуюць.

І шмат яшчэ ёсць што, браток мой, апісаць
Аб гэтае дзюрэ, што звецца Закапаным,
Але нялёгка йзноў так гладка расказаць,
Каб злосцею людзкой ня быці зацкаваным...

*10.III. 1920.*

*Публікацыя Ірыны Багдановіч.*

* У рукапісе — Закопанэ.
** Наступная страфа закрэслена да нечытэльнасці.

[1] Modrzew – лістоўніца (польск.).
[2] Smrek – елка (польск.).

Юры Лаўрык

# МЕНСКІЯ БЭРНАРДЫНКІ Ў 1796 ГОДЗЕ

*У папярэднім артыкуле гэтага цыклу мы размаўлялі пра менскі канвент і касцёл айцоў бэрнардынаў, таму цалкам лагічным будзе ў працяг гэтай гаворкі сказаць колькі словаў і пра кляштарны комплекс жаночага асяродку гэтага ордэну. Святыня бэрнардынак у Менску захавалася да нашых дзён у сваёй барочнай вялікапышнасці і нярэдка выступае на сувенірах, паштоўках ці ў альбомах у якасці візітоўнай карткі беларускай сталіцы. На жаль, наш інфарматар-візітатар кс. Язэп Камінскі надае жаночым кляштарам значна менш увагі, чым мужчынскім, таму і матэрыялы іх інспектавання значна меншыя: у актах візітацыі яны займаюць усяго некалькі старонак. Аднак мы паспрабуем атрымаць з іх пэўнае каліва цікавай інфармацыі. Напачатку ж гутаркі колькі словаў скажам пра з'яўленне бэрнардынак на нашых землях.*

**Ордэн бэрнардынак**

Рух абсэрвантаў, што паступова развіўся ў асяродку францішканаў, спрычыніўся і да рэфармавання жаночага адгалінавання францішканскага ордэну — кларысак[1]. Гэта прывяло да ўзнікнення ў Заходняй Еўропе новых манаскіх згуртаванняў: альжбэтанак, калетанак, французскіх абсэрвантак і інш. На Беларусі, аднак, кларысак не было, таму жаночыя канвенты, створаныя паводле статуту св. Францішка, тут былі адпачатку бэрнардынскімі. Як ужо адзначалася ў папярэднім артыкуле, св. Ян Капістран, прыехаўшы ў 1453 г. у Кракаў, сваімі палымянымі прамовамі схіліў сэрцы шмат каго з мясцовых жыхароў да новага ордэну і неўзабаве заснаваў канвент, які з часам стаўся плацдармам для пашырэння супольнасці абсэрвантаў у нашым рэгіёне. А ўжо ў 1459 г. з'явіўся ў Кракаве і першы жаночы кляштар гэтага ордэну — пад тытулам св. Агнесы.

Першы ж у Вялікім Княстве Літоўскім канвент бэрнардынак быў збудаваны толькі амаль праз паўстагоддзе — у 1495 г., на віленскім Зарэччы; а наступны – яшчэ праз стагоддзе, у 1594 г., і таксама ў Вільні. Пачаткова прыхільніцы суворай рэгулы св. Францішка толькі аб'ядноўваліся ў тэрціярскія (г. зн., прыналежныя да 3-га ордэну) суполкі пры мужчынскіх канвентах; таму ані манаскіх шлюбаў яны не складалі, ані кляўзуры не прытрымліваліся. Фактычна, абавязковыя ўрачыстыя шлюбы і кляўзура былі ўведзеныя для бэрнардынак (у тым ліку і для віленскіх) толькі ў выніку трыдэнцкай рэформы — на моцы абвешчанай папам Піем V у 1566 г. булы «Circa pastoralis officii».

На землях сучаснай Беларусі кляштары гэтага згуртавання паўставалі на працягу XVII ст. — у Гародні, Менску, Берасці і Слоніме. Яны ўзводзіліся пад Марыйнымі тытуламі: Нараджэння Найсвяцейшае Панны Марыі (першыя два) або Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (два апошнія). Паколькі ў гэты час ўжо перастаюць дзейнічаць абмежаванні, вызначаныя некалі кіраўніцтвам ордэну для велічыні аздаблення абсэрванцкіх касцёлаў, таму і гэтыя святыні не толькі набываюць вежы (як у Слоніме), але й нярэдка выбудоўваюцца ў прыўкрасным барокавым стылі (як у Менску).

Разам з тым, усё яшчэ захоўваюцца тыя ці іншыя элементы традыцыйнай бэрнардынскай архітэктуры. Напрыклад, у менскім комплексе — гэта трохкрыльная (П-падобная) структура кляштара, які прымыкае да касцёла, утвараючы пасярэдзіне т. зв. «вірыдарыюм» (дзядзінец, які павінен быў засаджвацца дрэвамі ці зелянінай). Дый арыентаванне гэтай святыні яшчэ звычнае: прэзбітэрыум з галоўным алтаром знаходзіўся з усходу — у адрозненне, напрыклад, ад пазней закладзенага менскага касцёла езуітаў, дзе размяшчэнне абумоўлівалася не традыцыяй храмабудаўніцтва, а неабходнасцю быць узнесеным на галоўнай плошчы горада — то бок, прычынамі сацыяльна-палітычнага характару.

**Касцёл і кляштар**

Бэрнардынкі асталяваліся ў Менску неўзабаве пасля заснавання тут мужчынскага канвен-

**Юры Лаўрык** — старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі. Закончыў бібліятэчна-бібліяграфічны факультэт Мінскага ўніверсітэта культуры, тэалагічны і гістарычны факультэты Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта. Даследуе гісторыю беларускай кнігі і бібліятэк.




Тытульны аркуш II тома «Хронік трох ордэнаў, устаноўленых св. Францішкам», выдадзенага ў Кракаве ў 1610 г. Са збораў Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі. Фота А. Крапіўкі.

ту. Ужо ў 1633 г. ваявода Аляксандр Слушка фундаваў у Менску жаночы кляштар, які быў узведзены пад тытулам Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі[2]. Сыракомля, які знаёміўся з гістарычнымі помнікамі Менску ў сярэдзіне XIX ст., меркаваў, што касцёл і канвент пры ім былі вымураваныя ў 1642 годзе[3]. Трэба думаць, што будаўніцтва кляштара было скончанае, прынамсі, гадоў на пяць раней — аўтар гэтых радкоў памятае, як будучы яшчэ студэнтам і працуючы на раскопках пад кіраўніцтвам Зянона Пазняка каля «бэрнардынак», ён бачыў знойдзеную там паліваную кафлю для абкладання грубкі з датай «1637». Выкладаць печ кафляй да таго часу, як будоўля самога кляштара была скончаная, не мела б сэнсу — значыць, канвент быў завершаны не пазней за 1637–1638 гады. З другога боку, будаванне касцёла пры кляштары сапраўды магло зацягнуцца і да 1642 г., а нават — і да 1670-х гадоў, як мяркуе М. Шчакаціхін[4]. У 1741 г. комплекс моцна пацярпеў ад пажару[5], але неўзабаве быў адноўлены — відаць, гэтаю акалічнасцю і тлумачыцца ўказаная ў візітацыйных актах дата новага фундушу: 8 верасня 1746 года[6]. Пра тое, як змяняўся архітэктурны выгляд касцёла на працягу XVII–XVIII стст., спецыялісты катэгарычна выказвацца не рызыкуюць[7]. Разам з тым, З. Пазняк лічыць, што гэтая «святыня па інтэрпрэтацыі канструкцыйна-стылявых прыкметаў характэрная менавіта для сярэдзіны XVII ст.»[8], відаць, істотных змяненняў падчас адбудовы пасля пажараў усё ж унесена не было.

Не будзем, аднак, затрымлівацца на архітэктурным разглядзе комплексу бэрнардынак, бо гэтае пытанне дастаткова шырока асветленае ў літаратуры. Адзначым толькі, што святыня ўяўляе з сябе простакутную ў плане базыліку з трыма навамі; прэзбітэрыум завершаны трохграннаю апсідаю, абапал яго — дзве, таксама простакутныя, сакрыстыі. На ўзроўні трэцяга яруса галоўны фасад пераходзіць у дзве вежы-званіцы, якія нацятымі струнамі імкнуць у неба. Напрыканцы XVIII ст. яны заканчваліся ўверсе жалезнымі крыжамі, а на саміх вежах знаходзіліся тры званы сярэдняга памеру, якія склікалі менчукоў на набажэнства; касцёл быў агароджаны драўляным парканам[9].

Зойдзем разам з візітатарам ўсярэдзіну. У 1796 г. у святыні былі толькі тры алтары (паводле У. Дзянісава, у першай палове XIX ст. іх было ўжо шэсць[10]). Кс. Язэп Камінскі адзначае, што знайшоў іх «пекна прыбранымі» і ў належным парадку: партатыліі з рэліквіямі святых былі апячатаныя; менсы, як і належала, — пакрытыя патройнымі (на знак Святой Тройцы) белымі абрусамі; таксама былі срэбныя таблічкі *Sacri Convivii, Lavabo et in Principio* і ўсё іншае неабходнае начынне — у тым ліку тое, якое было рэкамендавана для набыцця папярэднім візітатарам[11].

Парадак панаваў і ў сакрыстыі, дзе захоўваліся арнаты розных колераў — на розныя перыяды літургічнага года — і касцёльная бялізна. Візітатар не апісвае маёмасць паштучна, а толькі адзначае, што там было ўсё, што неабходна для годнага адпраўлення службы Божай.

Паколькі бібліятэкі ў кляштары не было, дык ужываныя пры набажэнстве кнігі, якія бачыў там візітатар (18 брэвіяраў, а таксама па адным асобніку Псалтыра, «Медытацый», «Жыццяпісаў святых» і «Кронікаў ордэну святога Францішка»)[12], таксама захоўваліся ў касцёле — на хорах ці ў сакрыстыі. Для музычнага суправаджэння Імшы ў касцёле служылі арганы — «новыя, дзесяцігалосыя», як адзначае кс. Язэп[13].

Што да канвента, дык візітатар пра яго гаворыць толькі наступнае: «Кляштар мураваны, у два ярусы, усім, чым належыць, забяспечаны — як усярэдзіне, так і звонку; усе драўляныя пабудовы адрамантаваныя»[14]. З такога роду пабудоваў канвент меў стадолу, стайню, бровар...

Здаецца, што ў адрозненне ад большасці іншых менскіх кляштараў, крытых гонтаю, дах у касцёле і канвенце бэрнардынак быў з дахоўкі. Пра гэта сведчыць той факт, што на раскопках каля касцёла археолагі знаходзілі керамічную дахоўку як XVII, так і XVIII ст.;[15] кс. Камінскі, на жаль, у сваіх матэрыялах гэтае пытанне абмінае — як, зрэшты, і шэраг іншых. (Да слова, калі чытаеш гэты акт візітацыі сярод астатніх, падрыхтаваных у Менску, не адпускае дум-



Бэрнардынка (паводле выд.: Wielka encyklopedia powszechna ilustrowana. — Warszawa, 1892. T. VIII — s. 530).

ка, што візітатар імкнуўся пакінуць жаночы кляштар як найхутчэй і інспектаванне адбываў амаль фармальна.)

**Насельніцы кляштара**

Насельніц кляштара можна падзяліць на некалькі групаў — на ўласна бэрнардынак і на «панен свецкіх»[16] — дзяўчат-шляхцянак, якіх манашкі выхоўвалі, ды жанок («сірот у веку дасканалым»), якімі яны апекаваліся «з міласэрнасці».

Саміх бэрнардынак было ў кляштары 20 асобаў. Кіравала канвентам 40-гадовая Серафіна Руткоўская, якая насіла бэрнардынскі вэлюм ужо 23 гады, але на пасадзе настаяцельніцы знаходзілася толькі адзін год. Свой век у кляштары дажывалі і былыя «маці» — 78-гадовая Клара Беразінская, 64-гадовая Яанна Заблоцкая і 62-гадовая Рэгіна Тышкевічоўна, якая на той час была пры новай настаяцельніцы намесніцай і дапамагала ёй уваходзіць у новыя абавязкі.

Абавязкі «фартыянак» — брамніцаў, у менскім канвенце бэрнардынак выконвалі Ганна Бярнацкая і Кунегунда Доўнаровічоўна (апошняя была і сакратаркай). Пасаду «шафаркі»-ключніцы займала Ад'юта Валюкоўна, за гатаваннем ежы наглядала «канапарка» Ізабэла Карповічоўна, а пра сервіроўку сталоў перад пасілкамі клапацілася «сэрвіторка» Юстына Міл[а]відоўна, якая была манашкаю толькі другі год.

Спевамі на набажэнстве кіравала «кантарка» Агнешка Дабрыцкая, а за выхаванне і навучанне дзяўчат, якія жылі ў кляштары, адказвалі «містрыні» Херубіна Радзевічоўна і Дэльфіна Пазнякоўна. Некаторыя з бэрнардынак не мелі канкрэтных абавязкаў, аднак пералічым іх імёны, якія даносяць да нас водар XVIII ст., — гэта Уршуля Капчынская, Малгажата Аскеркоўна, Анэля Валадкавічоўна, Дамініка Станкевічоўна, Тэадора Івашкевічоўна, Гіацынта Паплаўская...

Больш заможныя «свецкія панны» — дочкі зямянаў, то бок, прадстаўнікоў багатай шляхты, якая валодала зямельнымі маёнткамі і займала пасады ў ваяводстве ды павеце, — аплочвалі сваё пражыванне і навучанне. Сярод іх былі «падсталянка» (дачка падстолія) Францішка Тышкевічоўна, «харунжанкі» (дочкі харунжага) Свідэрскія, «шамбеляноўна» (дачка шамбяляна) Роза Камінская... Тых жа, хто не мог плаціць, — часцей за ўсё гэта былі сіроты з бедных шляхецкіх сем'яў, бэрнардынкі прымалі з міласэрнасці. Такіх дзяўчат у кляштары было дзесяць: Альжбэта і Марыяна Савіцкія, Элеанора Лапіцкая, Юзэфа Гічынская, Ганна Платноўская, Францішка Свярчэўская, Кацярына Васілеўская, Кацярына Ярашэвічоўна, Вікторыя Мухлінская і Юстына Любянецкая. Візітатар адзначае, што неўзабаве былі прынятыя яшчэ дзве — Бетранцоўна і Карповічоўна. Дзяўчаткі навучаліся ў кляштары асновам каталіцкае веры, чытання і пісьма, а таксама «розных ручных работаў, іхнаму стану адпаведных»[17].

У кляштары нярэдка пражывалі ўдовы і старыя дзевы шляхецкага паходжання, якімі не было каму апекавацца. Часцей за ўсё яны таксама прымаліся з міласэрнасці, бо толькі некаторыя з іх, як, напрыклад, «удава падстоліна» (удава колішняга падстолія) Брыгіда Длужнеўская ці былая «чашнікава» Элеанора Прушынская, былі ў стане плаціць за сваё пражыванне. Большасць іншых пералічаных у дакуменце кабетаў такой магчымасці не мелі і ўтрымліваліся на грошы, якія давала бэрнардынкам адзіная іх крыніца даходу — фальварак Гатава, да якога належала 123 дымы[18].

Усе віды фізічнай працы, у якой кляштар меў патрэбу, выконвала служба, пра якую візітатар піша наступнымі словамі: «У кляштары В[яльможных] П[анен] Бэрнардынак на паслугах знаходзіцца 6 парабкаў, а 7-мы — сакрыстыянін; дзевак простай „кандыцыіі“ (г. зн., паходжання. — *Ю. Л.*) — 13. Усе памянёныя парабкі, як таксама і дзеўкі, з'яўляюцца падданымі»[19].

**Візітатарскія рэкамендацыі да направы**

Як і амаль кожны іншы акт візітацыі таго часу, разгледжаны намі дакумент мае далучаны напрыканцы пералік рэкамендацый візітатара. З увагі на невялікі аб'ём дадзім яго змест цалкам.

«1. Аднаўленне Найсвяцейшага Сакрамэнту штонядзелі рабіць рэкамендуецца.

2. Кляўзуры манаскай як найдакладней належыць прытрымлівацца.

3. Лампадка перад Найсвяцейшым Сакрамэнтам і ўдзень, і ўначы павінна гарэць.

4. Ключык ад цыборыума заўсёды ў бяспечным месцы павінен быць схаваны.

5. Свецкія панны, што знаходзяцца на пражыванні ў кляштары, павінны кожны дзень слухаць святую Імшу, а ў найбольш значныя святы ім загадваецца адбываць споведзь.

Таксама, каб у нядзелі і ўрачыстыя святы адна з законніцаў пасля чытання ў касцёле Евангелля адпаведнага да абвешчанай перыкопы навуку чытала, увагі кс. Скаргі. І яшчэ тое наказваецца, каб яны ні ў якім разе без ведама Яемосці Панны Маці не выязджалі ані ў горад, ані таксама ў іншыя месцы.

6. Паненкі, што знаходзяцца ў кляштары без усялякага забеспячэння, а толькі дзякуючы надзвычайнай міласэрнасці В[яльможных] П[анен] Бэрнардынак, маюць быць ва ўсім паслухмяныя сваім дабрадзейкам. Разам з тым, абавязкам В[яльможных] П[анен] Бэрнардынак будзе навучаць іх артыкулам веры святое каталіцкае, боязі Божай і ўсім цнотам хрысціянскім, а да таго ж — пісьму, чытанню і ручной працы.

7. В[яльможнай] Яемосці Панне Маці рэкамендуецца, каб для законніц забяспечвалася адпаведная выгода, а найболей клопату мець належыць пра тых асобаў, якія часам хваробаю або старасцю прыціснутыя, нават, дзеля паляпшэння здароўя, не ашчаджаючы на лекары»[20].

Гэтыя рэкамендацыі цікавыя тым, што разам са стандартнымі пунктамі, прысутнымі ў актах візітавання іншых кляштараў і запісанымі, хутчэй, для праформы, тут ёсць некалькі такіх, якія кідаюць найбольш святла на рэальны стан рэчаў у кляштары. Гэта, у прыватнасці, апошнія тры, што прыадхінаюць перад намі завесу, якая хавае канфлікты і міжасобовыя адносіны ў канвенце.

Напрыклад, з іх мы можам убачыць, што дзяўчаткі, гадаваныя ў кляштары, не надта рупіліся пра наведванне святое Імшы і нават не прыслухоўваліся да загадаў сваіх выхавацелек. І



Будынак мінскага касцёла бэрнардынак на паштоўцы пач. XX ст.
Са збораў Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі.

калі ўжо ніякім чынам нельга было паўплываць на фанабэрыстых зямянак, чые бацькі самі аплочвалі іх пражыванне ў манашак, дык, прынамсі, «безаплатных» візітатар сваёю ўладаю імкнуўся прывесці да паслушэнства, нагадваючы ім пра маральныя абавязкі ў адносінах да дабрадзеяў. Зрэшты, як мы бачым, і самі законніцы не заўсёды прытрымліваліся адпаведнай субардынацыі і маглі выходзіць з канвенту, не атрымаўшы на тое дазволу настаяцельніцы.

З другога боку, і новая, недасведчаная яшчэ, настаяцельніца, часам занадта прыклаўшыся сэрцам да суворых статутаў бэрнардынскага ордэну, занядбоўвала любоў да бліжняга на карысць патрабаванняў убоства ды ўмярцвення плоці і не выказвала сёстрам тае спагады, якую святы Францішак, суровы да сябе самога, але ахвярны для іншых, вучыў праяўляць да бліжняга. Натуральна, гэта не магло не выклікаць пэўнага процістаяння з боку манашак.

Ці патрабуе гэта нейкага каментару? Бадай, не — чалавечая прырода нязменная, і тыя праблемы, што сёння нярэдка турбуюць нас, былі актуальныя і два стагоддзі таму для нашых продкаў...

---

[1] Кожнае адгалінаванне францішканскага кола зазвычай падзяляецца на часткі, якія, падобна да ўсяго згуртавання ў цэлым, таксама завуцца ордэнамі: 1-ы ордэн аб'ядноўвае мужчынаў, 2-гі — жанчынаў, а 3-ці прызначаны для ўдзелу асобаў, што хоць і імкнуцца наследаваць ідэалы св. Францішка, але не пакідаюць жыцця ў свеце і не складаюць манаскіх шлюбаў.

[2] Денисов, В. Н. Площадь Свободы в Минске. — Мінск.: 1985. — С. 52; *Akt Wizyty u WW. Panien Bernardynek Mińskich w Roku 1796 Miesiąca Nowembra 10 Dnia wedle Instrukcyi JWo Pasterza wydaney sporządzony* // Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей: НГАБ): ф. 1781, воп. 27, спр. 256, арк. 30–31 адв. (У назвах і цытатах захоўваецца правапіс арыгіналу.)

[3] Syrokomla, Wł. Mińsk // Teka Wileńska. — Wilno. 1857. 2. — S. 166 (беларускі пераклад: Сыракомля, Ул. Мінск / Перакл. Х. Лялько // Сыракомля, Ул. Выбраныя творы. — Мінск, 1993. — С. 387).

[4] Шчакаціхін, М. Менская архітэктура XVII–XVIII стст. // Запіскі аддзелу гуманітарных навук. Кн. 6. Працы камісіі гісторыі мастацтва. Т. 1, сш. 1. С. 16–17.

[5] Денисов, В. Н. Тамсама.

[6] Akt Wizyty u WW. Panien Bernardynek Mińskich ..., арк. 30.

[7] Параўн.: Денисов, В. Н. Тамсама. С. 52.

[8] Пазняк, З. С. Рэха даўняга часу. — Мінск, 1985. — С. 62.

[9] Akt Wizyty u WW. Panien Bernardynek Mińskich ..., арк. 30.

[10] Денисов, В. Н. Тамсама. С. 53.

[11] Akt Wizyty u WW. Panien Bernardynek Mińskich ..., арк. 30.

[12] Тамсама, арк. 31.

[13] Тамсама, арк. 30 адв.

[14] Тамсама, арк. 30.

[15] Пазняк, З. С. Рэха даўняга часу. — Мінск, 1985. — С. 62.

[16] Цікава, што ў акце візітацыі нават удовы называюцца «паннамі».

[17] Akt Wizyty u WW. Panien Bernardynek Mińskich ..., арк. 30 адв.

[18] Тамсама, арк. 31.

[19] Тамсама, арк. 31 адв.

[20] Punkta z zalecenia J: W: Pasterza W.W. Jmc Pannom Bernardynkom do Zachowania w czasie odbywającey się Wizyty zostawione Roku 1796 Mi[esią]ca Nowembra 10 Dnia // Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей: НГАБ): ф. 1781, воп. 27, спр. 256, арк. 32–32 адв.

# СТАРАДРУКІ ВЯРТАЮЦЦА

Гісторыя прабывання манахаў піяраў у Полацку непрацяглая, складаная і амаль недаследаваная. З'явіліся яны тут не паводле ўласнае волі, а паводле імператарскага загаду ад 13 сакавіка 1820 года. На падставе яго належала: «1) *иезуитов... выслать под присмотром полиции за пределы государства...*; 2) *Полоцкую иезуитскую академию и подведомственные ей училища упразднить...*». Вайсковыя ўлады пасадзілі манахаў з невялікім скарбам (найперш архівам) на забраныя ў сялянаў вазы і, давёзшы да аўстрыйскае мяжы, высадзілі. Так езуіты развіталіся з Полацкам на Дзвіне, якія, паводле трапнае заўвагі сучаснікаў, замяняў ім Рым з Тыбрам. Агромністыя будынкі былой акадэміі з цудоўным музеем, грунтоўнымі прыродазнаўчымі кабінетамі, бібліятэкай, адной з найвялікшых у Еўропе, засталіся пуставаць. Мясцовая шляхецкая супольнасць пачала слаць у Санкт-Пецярбург скаргі на адсутнасць якой-небудзь магчымасці для адукацыі іх дзетак. Разважыўшы, расейскі ўрад 16 жніўня 1822 года прыняў рашэнне аб пераводзе з Віцебска ў Полацак піяраў. У губернскім Віцебску ў іх была забраная нерухомая маёмасць з кляштарам і касцёлам, а ўзамен для арганізацыі навучальнае працы перададзеная былая езуіцкая маёмасць у Полацку. Менавіта гэтая манаская супольнасць была абраная невыпадкова, бо поўная назва закону *Ordo Clericorum Regularium Pauperum Matris Dei Scholarum Piarum*, што азначае *Супольнасць духоўнікаў законных убогіх Маці Божай школак пабожных*, а найпершым абавязкам ад заснавання закону была адукацыя моладзі.

Гісторык Ян Марэк Гіжыцкі ў сваёй працы «*Матэрыялы да гісторыі Полацкай акадэміі і школаў ад яе залежных*» змяшчае невялікае паведамленне з тыднёвіка «*Кур'ер літоўскі*» пра ўрачыстае адкрыццё вучэльні: «*Правінцыял піяраў кс. Купсць 1 верасня 1822 годзе адчыніў у Полацку чатыры ніжэйшыя класы, а 15-га таго ж месяца пачалі працу і вышэйшыя курсы гэтай новай установы. Перад тым у прысутнасці цывільных уладаў і пры вялікай колькасці грамадзянаў гэты ж правінцыял распачаў сход прамовай аб адукацыі моладзі, мэта якой — удасканаленне сэрца праз мацаванне ў хрысціянскіх цнотах, праз узбагачэнне розуму, навучанне разважлівасці і нарэшце ўмацаванне цела праз неабходныя для таго сродкі і прывучэнне да сціплага жыцця. Пасля кс. Лашкевіч, прафесар польска-лацінскай літаратуры, прываблівай моладзь да заняткаў навукамі з ахвотай. Настаўнік жа нямецкае мовы Шлезынгер па-французску даводзіў, што дасканалае валоданне іншымі мовамі шмат дае для асветы. Пры канцы быў зачытаны расклад лекцыяў для чатырох ніжэйшых і трох вышэйшых класаў. Сходу папярэднічала ўрачыстая Імша са спевам „Veni Creator“, якая закончылася гімнам „Te Deum“*». Гэтак распачаліся заняткі ў полацкай піярскай вучэльні, аднак друкарня пры ёй пачала працаваць не адразу.




«Рымскі Імшал», выдадзены полацкімі піярамі ў XVII стагоддзі.

Дазвол ад уладаў на друкарскую працу піяры атрымалі недзе пры канцы 1823 года. Па абавязковую цэнзуру трэба было выбірацца ў Вільню. З гэтае прычыны кнігі для вучэльні, у прыватнасці «*Wykład nauk dawanych w szkole wyższej połockiej xx. Pijarów*» («*Выклад навук, даваных у вышэйшай полацкай школе айцоў піяраў*») на 1822/

1823 гг., напачатку ціснулі ў сваёй друкарні віленскія піяры. Пазней падобныя выклады выходзілі з-пад варштату ў Полацку. Былі іншыя цікавыя выданні, напрыклад, «*Gramatyka Łacińska*» (1825), «*Nabożeństwo za dusze czyscowe*» (1825), а паэтка з Дзісны Тэкля Урублеўская ў 1828 годзе ўласным коштам выдала кніжку вершаў «*Poezje*» спачылага паэта Яна Аношкі. Найбольш вядомай кнігай друкарні з'яўляецца філасофская праца выкладчыка Віленскага ўніверсітэта Анёла Доўгірда «*Wykład przyrodzonych myślenia prawideł, czyli logika teoretyczna i praktyczna*» (*«Выклад прыродных законаў мыслення, або логіка тэарэтычная і практычная»*), якая ўбачыла свет у 1828 годзе.



Загадчыца полацкага музея кнігадрукавання А. Шумовіч прымае каштоўны падарунак ад А. Макагона.

Агулам было выдадзена каля трыццаці розных кніжак. Апошнія вядомыя выданні датуюцца 1829 годам. Да іх належыць дзенідзе згаданы ў каталогах лемантар на латгальскай мове (пэўна, «*Gromota brolisties*»). Пры канцы лютага 1830 года з'явіўся царскі загад пра ліквідацыю ў Полацку піярскае навучальнае ўстановы і перавод



WYKŁAD
PRZYRODZONYCH MYŚLENIA
PRAWIDEŁ
CZYLI
LOGIKA
TEORYCZNA i PRAKTYCZNA
PRZEZ
X. ANIOŁA DOWGIRDA
ZGROMADZENIA XX. PIJAROW
DOKTORA S. TEOLOGII, CZŁONKA. KORRESPONDENTA KROLEWSKO-WARSZAWSKIEGO TOWARZYSTWA PRZYIACIOŁ NAUK, KAPELANA GŁOWNEGO SEMINARYUM DUCHOWNEGO PRZY CESARSKIM UNIWERSYTECIE WILENSKIM.
CZĘŚĆ I.

W POŁOCKU.
W DRUKARNI XX. PIJARÓW.
ROKU 1828.

Тытульны аркуш працы Анёла Доўгірда.

выкладчыкаў у Вільню. Імперскія ўлады палічылі, што старажытнаму гораду больш пасуе кадэцкі корпус. Пачалося кантраляванае і некантраляванае рабаванне маёмасці. Кнігі, экспанаты, навучальныя прылады «паплылі» ў розныя куткі імперыі: Санкт-Пецярбург, Маскву, Сімбірск, Рыгу. Друкарскае абсталяванне было вывезенае ў Кіеў. У Полацку, на радзіме слыннага беларускага кнігадрукара, з выданняў каталіцкіх манахаў не засталося ніводнае кніжкі.

Але сёння часы іншыя, і нават у людзей, не заглыбленых у гісторыю, сфармавалася трывалае разуменне неабходнасці збірання раскіданых па ўсім свеце полацкіх артэфактаў. Як вынік 14 жніўня ў полацкім музеі кнігадрукавання адбылася ўрачыстая перадача на захаванне ўнікальнае кнігі «*Missale Romanum*» («*Рымскі Імшал*»), выдадзенай у 1826 годзе полацкай друкарняй піяраў.

Неардынарнасць падзеі палягае ў тым, што полацкіх выданняў у розных бібліятэках Еўропы маюцца адзінкі. Тым больш радасна, што такое аб'ёмістае выданне (больш за тысячу старонак) трапіла ў полацкі музей. Яшчэ летась кніга была адшуканая на адным з польскіх інтэрнэт-аўкцыёнаў, але прыдбаць яе было няпроста, бо ўзніклі складанасці з фінансаваннем і дастаўкай пакупкі. Гэтыя праблемы здолеў вырашыць палачанін Андрэй Макагон, які цяпер жыве ў Маскве. Дзякуючы ягоным фінансавым сродкам і настойлівасці ў музейнай экспазіцыі з'явіўся шэдэўр манаскае працы. Кніга сапраўды найлепшая з полацкіх твораў: вялікі аб'ём, друк у два колеры, наяўнасць заставак, скураная вокладка. Па кнізе кожны можа меркаваць аб майстэрстве друкароў «*typis Patrum Scholarum Piarum*».

*Міхась Баўтовіч*

